


# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

14 КРАСАВІКА 2000г. № 15/4047 КОШТ 80 РУБ.




### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на "ЛіМ" на першае паўгоддзе 2000 года. Аформіць падпіску можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц —* ***300 рублёў****, на квартал —* ***900 рублёў****. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц —* ***930 рублёў****, на квартал —* ***2 тысячы 790 рублёў****.*

**Наш індэкс — 63856.**

*У чаканні травы,*
*у чаканні лістоты...*

*Фота Г. ЖЫНКОВА.*



# КОЛА ДЗЁН

***Нядаўна споўнілася 10 гадоў з дня прыняцця Вярхоўным Саветам яшчэ БССР Закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы. Сёлета ж спаўняецца і дзесяць гадоў з часу прыняцця тым жа Вярхоўным Саветам Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце краіны. Гэтыя гадавіны міжволі выклікаюць літаратурныя рэмінісцэнцыі. Згадваецца, да прыкладу, паэма Паўлюка Труса "Дзесяты падмурак", напісаная да 10-годдзя БССР. Дасягненняў і тады было няшмат. Больш спадзяванняў на іх. На тое, што "краіна соннага надхмар'я расцвіце ў чырвані зарніц", што край палёў і лясоў "стане краем фабрык дымных і машын", што "скора празвініць на вуліцах трамвай"... З выпадку апошніх двух юбілеяў нават і гэтага нельга сказаць. Па сутнасці, роднае слова зноў у загоне і занядбанні. Дзяржаўнаму суверэнітэту Беларусі таксама пагражае небяспека. У дадатак да ўсяго не спараджае аптымізму і эканамічная сітуацыя ў краіне, вынікам якой — усё большае збядненне пераважнай часткі насельніцтва. Таму не надта радуе людзей і вясна, якая нарэшце, здаецца, пачынае заяўляць аб сабе...***

### ПАДРАХУНКІ ТЫДНЯ

Сталі вядомы вынікі стыхійнага бедства, што абрынулася ў пачатку красавіка на Беларусь. У прыватнасці, і такія. Ад пераахаладжэння, звязанага з моцнымі снегападамі і ветрам, у калгасах і саўгасах загінула нямала кароў і цялят. Найбольш трагічны выпадак адбыўся ў калгасе "Савецкі" Пружанскага раёна. Моцны вецер са снегам пагнаў калгасных рагуль да меліярацыйнага канала, у якім 84 з іх знайшлі сваю смерць. Толькі ж ці стыхія вінаватая? Бедныя калгасныя рагулі былі асуджаны на гібель голадам: іх выпусцілі ў поле ў спадзеве, што скубянуць хоць шорсткі касмыль леташняй няскошанай травы...

### ПРАБАЧЭННЕ ТЫДНЯ

Міністр унутраных спраў Беларусі Ю. Сівакоў выказаў шкадаванне ў сувязі з затрыманнем супрацоўнікамі міліцыі ў Мінску 25 сакавіка журналістаў з Беларусі, Расіі, Польшчы, Чэхіі і Славакіі. На сустрэчы з расійскімі і беларускімі тэлежурналістамі міністр падкрэсліў, што "асобныя афіцэры міліцыі няправільна трактавалі каманды вышэйшых начальнікаў" і што ў выніку праведзенага расследавання яны былі пераведзены на іншую работу, не звязаную з забеспячэннем грамадскага парадку. Што ж, справядлівасць, як кажуць, перамагла, у журналістаў папрасілі прабачэння. А што ж сотні людзей, якія былі таксама затрыманы ў той дзень? У чым іхняя віна? Яны хацелі ўсяго толькі адзначыць самае вялікае, на іх разуменне і ўсведамленне, свята нашага народа. Яны не хуліганілі, нікога не зневажалі, нікому не перашкаджалі. За што ж іх разганялі і хапалі, валаклі ў "варанкі"? Толькі за тое, што свядомыя, як сёй-той любіць іранізаваць-здзекавацца? Дык, можа ж, за гэта трэба іх паважаць і ўсё рабіць дзеля таго, каб і іншыя сталі свядомымі, перакананымі беларусамі, патрыётамі Бацькаўшчыны? Сапраўды, нявызнаныя дзеі Твае, Госпадзе...

### САЎГАС ТЫДНЯ

Саўгас з сімвалічнаю назваю "60 год БССР" Пружанскага раёна займеў спадзеў выжыць: над ім узяў шэфства Нацыянальны банк краіны. Першым крокам шэфскай дапамогі будзе такі: банк дасць сродкі для набыцця саўгасам кормаўборачнай тэхнікі. А хто ўратуе згаданы вышэй калгас "Савецкі" таго ж Пружанскага раёна, сотні іншых калгасаў і саўгасаў? Ці знойдзецца на кожны з іх банк альбо нейкі іншы "багаты дзядзька"?

### КАРАЛЕВА ТЫДНЯ

У канцэртнай зале "Мінск" прайшоў заключны тур беларуска-расійскага міжвузаўскага конкурсу грацыі і артыстычнага майстэрства "Каралева вясны-2000". Яго ініцыятарамі выступілі МУС, Дзяржкамітэт па справах моладзі, Міністэрства адукацыі, ФПБ, БСМ, Расійскі саюз моладзі і інш. Прыгожае мерапрыемства! Дзяўчаткі-ўдзельніцы задаволены: і са сцэны пакрасаваліся, і дыпломы атрымалі, і прызы памятныя. Але ж і пытанні напрошваюцца. Дзеля чаго гэта робіцца? Ці ў русле нашых нацыянальных, народных традыцый? Урэшце, ці ж настолькі мы багатыя, што можам дазволіць сабе і такое?

### ПЕРАХРЫШЧВАННЕ ТЫДНЯ

Адсутнасцю самапавагі мы ўжо даўно здзіўляем свет, самі ж амаль не звяртаем увагі на гэта. Вось і ў газеце "Рэспубліка" за 11 красавіка на першай жа старонцы чорным па белым напісана: "Николаевщина, знаменитая родина великого белорусского поэта Якуба Коласа..." Аказваецца, родная Коласава вёска ўжо не Мікалаеўшчына, а Нікалаеўшчына. Перахрысцілі на рускі лад.

### ІНІЦЫЯТЫВА ТЫДНЯ

Набліжаецца дзень нараджэння Ільіча, і зноў дзесьці ў нетрах грамадства (дзе канкрэтна — пра тое маўчок!) нараджаецца ініцыятыва правядзення суботніка, якая тут жа знаходзіць падтрымку ўрада. Гэтак і сёлета. На 22 красавіка прызначана чарговае савецкае "свята працы". І ўсё гэта — з клопатам пра наша з вамі здароўе, спадарове. У пастанове ўрада так і пазначана: сродкі будуць накіраваны на будаўніцтва і рэканструкцыю ўстаноў аховы здароўя. У добры шлях, як кажуць...

### КАНІКУЛЫ ТЫДНЯ

Толькі ў мінулы панядзелак, на тыдзень пазней, пайшлі ў школы пінскія дзеці. Гарадскія ўлады вымушаны былі прадоўжыць школьныя канікулы не ў выніку эпідэміі грыпу ці нейкае іншае бяды. Проста з-за нестабільнай работы прадпрыемстваў гарадская казна Пінска аказалася неплацежаздольнай. А дзеці, між тым, былі радыя — лішні тыдзень гулялі...

### ПРАЦЭНТ ТЫДНЯ

Паводле апытанняў сацыёлагаў, сёння амаль 30 працэнтаў жыхароў Беларусі хацелі б папрацаваць за мяжой. Лічба — уражвае. Прытым варта адзначыць, што гэта ўсё людзі маладога, актыўнага ўзросту і высокай прафесійнай падрыхтоўкі — ад рабочага да спецыяліста з вучонымі ступенямі. На афіцыйных звестках, толькі летась за мяжу выехала на працу больш чым 3 тысячы чалавек. І калі гэтак будзе і надалей, дык да чаго мы "даэмігрыруемся", трацячы самую перспектыўную частку інтэлектуальнага патэнцыялу? Адказ — адназначны...

## У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Адбылася сустрэча з удзельнікамі акцыі, прысвечанай 2000-годдзю Хрысціянства і 55-годдзю Перамогі, якія наведалі Беларусь з Аленегорска Мурманскай вобласці Расіі. У складзе дэлегацыі былі прадстаўнікі інтэлігенцыі, настаўнікі, якія выйшлі пераможцамі конкурсу на лепшае сачыненне, настаўнікі.

Госці перадалі прывітанне ад Мурманскай пісьменніцкай арганізацыі, прадстаўнікі якой летась наведалі Мінск, расказалі аб сваіх першых уражаннях ад знаходжання на Беларусі.

Адбылася зацікаўленая размова аб далейшых шляхах супрацоўніцтва паміж пісьменнікамі і інтэлігенцыяй брацкіх краін, у якой прынялі ўдзел з боку Саюза беларускіх пісьменнікаў Навум Гальпяровіч, Яўген Каршукоў, Леў Карайчаў.

●

Створаны Нацыянальны камітэт па падрыхтоўцы да Міжнароднага Дня паэзіі, які адбудзецца 21 сакавіка 2001 года ў Грэцыі. У склад камітэта ўвайшлі В. Іпатава, М. Лужанін, А. Дудараў, А. Масарэнка і Л. Крушынская. Камітэт павінен вызначыць кандыдатуру для ўдзелу ў сусветным паэтычным свяце.

**Н. К.**

ВЫСТАВЫ

## Халакост вачамі мастакоў

Тое, што тэма другой сусветнай вайны і яе наступстваў застаецца актуальнай і сёння, даводзіць рэспубліканскаядабрачынная выстава-конкурс "Халакост вачамі мастакоў", якая адкрылася ў памяшканні Музея сучаснага мастацтва.

Конкурс быў абвешчаны Беларускім рэспубліканскім фондам "Узаемаразуменне і згода", Мінскімдабрачынным таварыствам "Гільф" (Дапамога) і Рэспубліканскім фондам "Халакост" да 55-ай гадавіны з Дня вызвалення вязняў нацысцкіх канцлагераў і 55-годдзя з Дня Перамогі. У конкурсе ўдзельнічаюць як маладыя мастакі, прафесіяналы і аматары, ва ўзросце да трыццаці пяці год, так і дзеці ад сямі і юнакі да васемнаццаці год. Журы конкурсу ўзначальвае народны мастак СССР акадэмік, былы вязень канцлагераў Міхаіл Савіцкі.

Выстава твораў жывапісу і графікі прадстаўляе ўдзельнікаў конкурсу, што прайшлі ўжо першы тур адбору. Напярэдзе яшчэ два, і ў бліжэйшыя дні будуць названы пераможцы ў трох узроставых групах. Але цікавасць уяўляе сама экспазіцыя. Як сённяшняя моладзь, для якой вайна і яе жахі сталі не больш чым далёкай гісторыяй, выхаваныя на сучасных тэхналогіях і новай логіцы мастацкага і гістарычнага мыслення, уяўляе і адлюстроўвае халакост (катастрофу) і генацыд насельніцтва Беларусі. Відавочна, што з узростам тэма пачынае ўспрымацца дзецьмі як абстрагаваная бяда, не звязаная са зброяй ці пачварнай жорсткасцю самой вайны. Многія з работ адлюстроўваюць абстрагаванае адчуванне трывогі, жаху, многа эмоцый передаецца праз кампазіцыі і партрэты.

Работы маладых мастакоў не падпісаны прозвішчамі, бо паралельна з экспанаваннем выставы працуе журы. Але вядома, што ў выставе ўдзельнічае сваімі малюнкамі дзесяцігадовая дачка Д. Спекхарда, пасла ЗША ў Рэспубліцы Беларусь, які прысутнічаў на адкрыцці з усёй сваёй вялікай сям'ёю.

**Н. Ш.**

КОНКУРСЫ

## Да раяля выклікалі..."хуткую"

У 1-м туры Міжнароднага конкурсу піяністаў "Мінск-2000", як вядома, удзельнічалі 42 спаборнікі. Кожны выступаў з 15-хвілінный праграмай. Шкада часу — а то можна было б дакладна падлічыць, колькі разоў прагучалі папулярныя шубертаўскія экспромты, До мінорны эцюд Ф. Шапэна, Эцюд-карціна фа-дыез мінор С. Рахманінава, 32 варыяцыі Бетховена; колькі твораў Гайдна, Моцарта, Дэбюсі, Скрабіна давялося праслухаць наведнікам філарманічнай залы за пяць конкурсных дзён ды вечароў.

Хтосьці слухае выбарачна. Затое самы непахісны слухач — журы, якому, апроч выканання твораў класікаў ды рамантыкаў, даводзілася ацэньваць інтэрпрэтацыю абавязковых твораў беларускіх аўтараў. "Легенду пра караля Стаха" Г. Каротківай, "Перпетуум мобіле і Пасакалію" А. Літвіноўская гралі многія беларускія і замежныя канкурсанты, ды самым рэпертуарным аказаўся опус Ю. Блінова "Экспромт і фуга". Пэўна, з-за таго, што сам аўтар не прафесійны кампазітар, а піяніст, які дасведчаны ў выканальніцкіх праблемах і таму напісаў проста зручную для грання музыку. Да слова: вызначаючы лепшую трактоўку беларускага твора, журы ўлічвае і меркаванне саміх аўтараў.

Напружаны графік 1-га тура нікога, аднак, не давёў да страты прытомнасці, хаця выпрабаваннўў хапала для ўсіх — ад працаўнікоў штаба на чале з энергічнай і карэктнай дырэктарам-распарадчыцай Г. Вагнер да публікі — невыпадковай, але не залежнай ад конкурсных жарсцяў.

"Нервы здалі"... у раяля!

Не паспела масквічка З. Амбарцумян завяршыць выкананне 15-ці бетховенскіх варыяцый з фугай на тэму з балета "Стварэнне Праметэя", як высокім жаласлівым енкам "пэмкнула" струна. Канкурсантка дайграла, але журы перапыніла праслухоўванне. З-за куліс выйшлі майстры "хуткай дапамогі". Замяніўшы парваную струну і падстроіўшы актаву, элегантны дуэт пакінуў сцэну пад воплескі залы. Канкурсантка прадоўжыла праграму, але цяпер ужо нервы не вытрымалі ў яе: здарылася некалькі прыкрых збояў. Яны, зрэшты, не сапсавалі прыемнага ўражання ад выступлення. Ды і журы дапусціла гэтую піяністку да ўдзелу ў 2-ім туры, наогул спаляніўшы колькасць яго спаборнікаў.

Такім чынам, пасля 1-га тура застаўся 21 канкурсант. З іх 12 — беларуская каманда. Калі ж улічыць, што кітаянка Чжан Цы вышэйшую адукацыю атрымала ў Беларускай акадэміі музыкі, дзе і цяпер стажыруецца ў прафесара Л. Шаламенцавай; калі ўлічыць, што студэнтка Вышэйшай школы музыкі ў Гановеры К. Папова — выпускніца Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі (клас І. Алоўнікава), а, прадстаўляючы Германію, яна ўключыла ў праграму 2-га тура Адажыо з балета "Маленькі прынц" Я. Глебава ў транскрыпцыі І. Алоўнікава — у якасці твора краіны ўдзельніка, значыць, можна гаварыць пра абсалютнае лідэрства беларускай фартэпіяннай школы на гэтым конкурсе.

У сябе дома, дзе і сцены спрыяюць, мы можам паказаць лепшыя дасягненні айчыннага фартэпіяннага мастацтва. Замежныя госці пакуль не могуць стварыць сур'ёзнай канкурэнцыі, бо лепшая моладзь рыхтуецца да ўдзелу ў сусветна вядомых буйных спаборніцтвах. Да нас яшчэ прыглядаюцца. Хаця і сёлета прыехалі адметныя піяністы з Украіны, Расіі, Вялікабрытаніі...

Менавіта прадстаўніца "туманнага Альбіёна" Ю. Ураяма, якая нарадзілася ў Японіі, скончыла Музычную акадэмію імя Ф. Шапэна ў Варшаве, заваявала першыя прэміі на міжнародных конкурсах (імя Радзівіла ў Польшчы і Парына — у Італіі), завяршала сваёй 45-хвілінай праграмай праслухоўванне 2-га тура. Гэта было ўвечары. К ночы вызначыліся тыя шасцёра, каго журы допусціла да ўдзелу ў 3-м туры. Але мы мусілі выправіць газету ў друк, не дачакаўшыся прозвішчаў фіналістаў.

Сёння яны ўжо рэпеціруюць з дырыжорамі, з аркестрамі. А ў Акадэміі музыкі адбываецца навуковая канферэнцыя, наладжаная Беларускай асацыяцыяй педагогаў фартэпіяна, якую ўзначальвае прафесар В. Яканюк. Журы адпачывае... Праўда, які тут адпачынак: праз пару дзён давядзецца зрабіць выбар паміж лепшым — і лепшым. Цяжка ацэньваць таленты...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

## Фонд Orsa-Romano падтрымаў настаўніка

24 сакавіка суполка ТБМ мінскай беларускай гімназіі N 4 (Кунцаўшчына) адзначыла сваю першую гадавіну. На імпрэзу былі запрошаныя і прадстаўнікі "суседзяў" — сябры суполкі ТБМ Педагагічнага каледжа, а таксама старшыні гарадской і раённай радаў ТБМ Леанарда Мухіна і Віктар Бекіш. Урачыстасць была зладжана дзякуючы падтрымцы культурна-адукацыйнага фонду Orsa-Romano (Нью-Йорк, ЗША), які рэпрэзентавалі прадстаўнікі гарадскога бацькоўскага камітэта Ілона і Зміцер Саўкі.

Гэта ўжо другая публічная акцыя падтрымкі беларускага школьніцтва нашымі суродзічамі з далёкага замежжа. Першы падобны чын адбыўся на гэтыя Каляды: Зора і Вітаўт Кіпелі з Нью-Джэрсі (ЗША) перадалі беларускім школярам калядныя падарункі.

Сведчаннем актыўнай дзейнасці ТБМ і стала ўзнікненне новых суполак таварыства і ў 4-й гімназіі. Мяркую, беларускім педагогам было б карысна пазнаёміцца з некаторымі эфектыўнымі тэхналогіямі, якія выкарыстоўваюцца беларускімі ТБМаўцамі для распаўсюджання беларушчыны сярод вучнёўства.

Заснавальніца фонду, наша суродзічка з ЗША Ала Орса-Рамана, — сама педагог, доктар навук, выкладчыца хіміі Нью-Йоркскага гарадскога універсітэта, — вырашыла падтрымаць настаўнікаў, бо вырасла ў сям'і беларускіх педагогаў, якія прысвяцілі ўсё сваё жыццё справе школьніцтва.

Бацька Алы Орсы, Аляксандр Орса, выкладаў яшчэ ў Навагрудскай беларускай гімназіі (за што пазней быў высланы польскімі ўладамі з Заходняе Беларусі) аж да моманту гвалтоўнага закрыцця ў 1934 г. Пасля другой сусветнай вайны стаў арганізатарам і дырэктарам Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Міхэльсдорфе (Заходняя Нямеччына). Гэтую гімназію скончылі дзесяткі выдатных дзеячаў беларускай эміграцыі, у тым ліку й сама Ала Орса.

Дарэчы, муж Алы Орсы, Фрэнк Рамана, нарадзіўся ў Брукліне ў сям'і італьянскіх эмігрантаў, быў прафесарам матэматыкі. Шчыра прыняўшы беларускасць, прафесар Рамана вывучыў беларускую мову, таму ў амерыканскай сям'і Алы й Фрэнка па-беларуску выхоўваліся два сыны — Паўлюк і Коля.

**Дамінік ЛОСЬ**

ГАСТРОЛІ

# Гродзенцы для дзяцей і дарослых

Гродзенскі абласны тэатр лялек здабыў прыхільнасць айчыннага і замежнага гледача дзякуючы выдатнай трупе акцёраў. А ўдасканальвала яна сваё майстэрства ў гістарычным будынку найстарэйшага тэатра Беларусі, заснаванага ў 1769 годзе гарадскім старастам графам Антоніем Тызенгаўзам. Класічны інтэр'ер залы стасуецца з больш чым двухсотгадовай традыцыяй. Гэта абумовіла мастацкі накірунак тэатра. Адсюль і арыентацыя пераважна на класічны рэпертуар, які прайшоў выпрабаванне часам і не страціў сваёй актуальнасці. Гэта найперш інсцэнізацыя сусветнавядомых казак ("Папялушка" паводле Я. Шварца, "Кот у ботах" паводле Ш. Перо, "Храбры кравец" паводле Братоў Грым, "Аладзін і чароўная лямпа" паводле арабскай казкі ды інш.), на якіх выхаваліся цэлыя пакаленні гледачоў.

Гродзенскі тэатр лялек у асноўным выконвае функцыю дзіцячага тэатра, хаця і не цураецца дыялога з дарослымі, пра што сведчаць спектаклі "Лекар панявалі" паводле Ж. Б. Мальера, "Тутэйшыя" паводле Я. Купалы, "Кароль; Стрыптыз" паводле С. Мрожака ды іншыя. Большасць пастановак тэатра рэалізаваў галоўны рэжысёр Мікалай Андрэеў.

Адметна тое, што гродзенскія лялечнікі маюць шырокі моўны дыяпазон. Яны іграюць спектаклі на беларускай, польскай, рускай мовах, адлюстроўваючы этнакультурную спецыфіку рэгіёна. У лістападзе трупа адзначыць 20-годдзе заснавання свайго роднага тэатра.

Падчас гастроляў, якія пройдуць у Мінску з **14 па 23 красавіка**, гродзенцы прапануюць увазе гледачоў "Казкі Пушкіна" і "Казку пра Ямелю", а таксама спектаклі "Неверагодны ілюзіён" і "Тутэйшыя".

Першы спектакль адметны тым, што складаецца з двух твораў: "Казкі пра Залатую рыбку" і "Казкі пра папа і яго работніка Балду" (пастаноўка М. Андрэева, сцэнаграфія і лялькі А. Сурава, музыка А. Кандрусевіча). Дэкарацыйная канструкцыя ўяўляе сабой рухомы трохкутнік, што сімвалізуе мора. Адначасова на ім змацаваныя відарысы звычайнай хаты і царскіх харомаў, базару і пакояў папа. Усе ролі ў "жывым плане" і з вельмі пацешнымі планшэтнымі лялькамі выконвае выдатны акцёрскі трумвірат: Людміла Паўлоўская, Юрый Буракоў, Іван Дабрук.




"Казка пра Ямелю" (пастаноўка М. Андрэева, сцэнаграфія і лялькі В. Разумавай, музыка А. Кандыбы) — вясёлае відовішча з выкарыстаннем маляўнічай шырмы і яркіх трасцёвых лялек. У аснове фабулы — прыгоды вынаходлівага хлопца Ямелі, які ў якасці падарунка ад шчупака атрымаў чароўныя словы. З іх дапамогай здзяйсняюцца ўсе яго жаданні. На працягу казкі Ямеля сутыкаецца з ляснымі звярамі, царскім вестуном Генералам і войскам, урэшце з самім Царом і Царэўнай Несмяянай, якую здолеў развесяліць ды супраць волі Цара ўзяць за жонку. У спектаклі іграюць І. Дабрук (Ямеля), Л. Паўлоўская (мацi Ямелі, царская Мамка), Ю. Мянько (Вястун), Г. Закрэўская (Несмяяна), В. Шалкевіч (Мядзведзь, Цар), А. Баброўскі (Генерал).

Пастаноўка магілёўскім рэжысёрам А. Жугждам "Неверагоднага ілюзіёна" адрозніваецца ад звычайнага сюжэтнага спектакля. Гэта хутчэй займальнае шоу, якое складаецца з асобных цыркавых нумароў (сцэнаграфія і лялькі Л. Быкава). А паказваюць на сцэне "цуды" з дапамогай забаўных лялек акцёры І. Дабрук, Л. Паўлоўская, С. і А. Баброўскія, Т. Лабар, В. Корнеў, В. Калеснікава.

Спектакль "Тутэйшыя" пастаўлены паводле знакамітай п'есы Янкі Купалы. Сама спроба сцэнічнага ўвасаблення гэтага твора ў лялечнай версіі была досыць смелай і рызыкоўнай. Але дзякуючы выдатнай рэжысуры М. Андрэева, першакласнай гульні акцёраў Ю. Мянько (у ролі Мікіты Зносака), В. Шалкевіча, А. Ігнаценкі і Т. Лабар, арыгінальным лялькам і дэкарацыям (мастак Л. Герлаван), гэты спектакль стаў значным мастацкім дасягненнем гродзенскіх лялечнікаў. Нечаканы сцэнічны эксперымент нават узмацніў і асучасніў змест купалаўскай п'есы, падкрэсліў надзённасць адвечнай праблемы нацыянальнага самаўсведамлення. Складанасць рэалізацыі "Тутэйшых" была не столькі ў раскрыцці галоўнай ідэі, колькі ў тэхнічным плане. Аднак акцёрская гульня і гульня з лялькамі выглядаюць вельмі эфектна. Больш таго, яна дапамагае гледачу знаходзіцца ў цэнтры імпрэзы. З пэўнасцю можна сцвярджаць, што спектакль "Тутэйшыя" адна з найбольш значных на сёння мастацкіх падзей у культурным жыцці Гродзеншчыны.

**Юрый ГУМЯНЮК**

*На здымку: сцэна са спектакля "Тутэйшыя".*

ІМПРЭЗЫ

## Пісьменніца... і чытачка

Юбілейная вечарына ў Брэсцкім абласным грамадска-культурным цэнтры была не зусім звычайнай: весці яе ўзялася сама юбілярка — паэтка, празаік, драматург Зінаіда Дудзюк. Родам яна з Браслаўшчыны, раннія гады дзяцінства прайшлі ў Рэчыцы на Дняпры, а на Украіне давялося разам з бацькамі пажыць... 31 год ужо — у Брэсце, дзе працавала будаўніком, вучылася ў інжынерна-будаўнічым інстытуце, пачала пісаць вершы.

Першай ад імя Саюза беларускіх пісьменнікаў віншавала юбілярку ганаровай граматай Вольга Іпатава. Адзін за адным на сцэну выходзілі прадстаўнікі гарадской культурнай эліты, якія ведаюць З. Дудзюк па літаб'яднанні, працы ў тэатры і абласной газеце, па творчасці. Сярод іх выкладчыкі БрДУ, прафесар В. Ляшук і З. Мельнікава, паэт М. Пракаповіч, рэжысёр абласнога тэатра драмы і музыкі В. Янавец, кіраўнік мясцовага літаратурнага аб'яднання "Зарніца" М. Сянкевіч, кіраўнік Целеханскага народнага тэатра Д. Кузняцова і многія іншыя.

Адмыслова вітаў Зінаіду Дудзюк, якая напісала кнігу пра лясную гаспадарку вобласці, старэйшы лесавод М. Сякерыч. Ён уручыў ёй білет ганаровага паляўнічага і рыбалова, форменную фуражку і карту лясоў Брэстчыны. Абяцанне пасадзіць у гонар пісьменніцы бярозавы гай выклікала воплескі залы.

Не прамінула выказаць добрыя пажаданні і мясцовае начальства — ад АГКЦ, Абласнога ўпраўлення культуры, прафсаюза работнікаў культуры.

Гучалі песні на словы З. Дудзюк (кампазітар і выканаўца Галіна Гедзік), навучэнцы музычнага каледжа выконвалі класіку. Як заўсёды эфектна выступіў рэдактар першай і апошняй па часе кнігі паэткі Леанід Дранько-Майсюк, абраз Божай Маці падаравала Ніна Загорская, ад "ЛіМа" віншавала Галіна Каржанеўская.

На выставе, падрыхтаванай краязнаўчым аддзелам абласной бібліятэкі, прадстаўлены шматлікія публікацыі, кнігі, фотаздымкі Зінаіды Дудзюк. Можна было адзначаць і яшчэ адзін юбілей: роўна 30 год з'яўляецца яна актыўнай чытачкай бібліятэкі. Што гэта, як не сведчанне працавітасці, дапытлівасці, прагі ведаў?..

**Г. ЗІНКЕВІЧ**

## Лепшыя творы пачаткоўцаў

Падведзены вынікі рэспубліканскага творчага конкурсу на лепшы літаратурны твор сярод маладых аўтараў, заснавальнікамі якога з'яўляюцца Дзяржаўны камітэт па друку, Дзяржаўны камітэт па справах моладзі і Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Па выніках мінулага года журы ўзнагародзіла першай прэміяй і дыпломам I ступені Ю. БУРСАВА за нізку вершаў "Вецер хоча паліць" ("Першацвет", N 10—11), А. БУЛАНКОВА за апавяданне "Аўтастоп" ("Першацвет", N 12) і І. ШАЎЛЯКОВУ за літаратурна-крытычны артыкул "Наш універсум. Вопыт сімвалічнай інтэрпрэтацыі беларускай літаратуры" ("Полымя", N 6).

Другая прэмія і дыплом II ступені прысуджаны І. ДАРАФЕЙЧУК за вершы, апублікаваныя ў газеце "ЛіМ" (N 11 ад 19 сакавіка 1999 г.), К. ТЫЧЫНЕ за пераклады вершаў І. В. Гётэ ("Першацвет", N 10—11), Н. УЛАСАВАЙ за празаічныя мініяцюры ("Першацвет", N 2—3), Н. ГУСАКОЎСКАЙ за трыпціх "Девушка, смотрящая в даль" ("Сям'я", N 38) і Ю. САЛЬНІКАВАЙ за артыкул "Да крынічкі я дабрацца мушу, альбо Аб чым сумуе ў "Смуце" А. Федарэнка ("Маладосць", N 10).

**Аляксандр ГАЙДУК**

**У рэдакцыю газеты "Літаратура і мастацтва".**
*Сардэчны дзякуй усім, хто павіншаваў мяне ў дні майго 60-годдзя.*
**Аляксей МАРАЧКІН**

АБСЯГІ

МАГІЛЁЎШЧЫНА...

## У філармоніі — дзень народзінаў

Магілёўская абласная філармонія адзначыла дзесяцігадовы юбілей. За гэты час прафесійная канцэртная арганізацыя на чале з дырэктарам Уладзімірам Браілоўскім стала добра вядомай не толькі ў рэспубліцы. Менавіта дзякуючы філармоніі жыхары Магілёўшчыны і Беларусі змаглі пачуць і пабачыць зорак сусветнага ўзроўню, наведаць шэраг самых розных фестываляў, самы прэстыжны з якіх — "Залаты шлягер"... Урачыстасці з нагоды юбілею пройдуць у траўні, у час канцэртаў традыцыйнага фестывалю "Магілёўская музычная вясна".

## "Марцовы кот"

Напрыканцы сакавіка ў Палацы піянераў і школьнікаў Магілёва прайшоў фестываль аўтарскай песні "Марцовы кот". Арганізатары — мясцовы бард-клуб "Новы горад" пры падтрымцы гарадскіх улад і грамадская аб'яднання беларускай інтэлігенцыі "Кола сяброў" — мяркуюць, што свята аўтарскай песні будзе пастаянным. Дарэчы, бард-клуб разам з "Колам сяброў" плануе правядзенне яшчэ аднаго фестывалю пад назвай "Вабіч-2000", які адбудзецца напрыканцы траўня на беразе аднайменнай ракі.

## Польскі кінаэксклюзіў

Кінавідэапрадпрыемства "Пазірк" разам з амбасадай Польшчы ў Беларусі і Домам Польскім у Магілёве нядаўна правялі ў кінатэатры "Чырвоная зорка" Дні польскага кіно. Аматары змаглі пагледзець польскія кінастужкі, якія яшчэ не былі ў масавым пракаце.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

ГОМЕЛЬШЧЫНА...

## Музей прыехаў у госці

У дзіцячым аддзеле абласной бібліятэкі арганізавана выстава работ навучэнцаў сярэдняй школы N 19 з архітэктурна-мастацкім ухілам. Выставу наведалі супрацоўнікі Веткаўскага музея народнай творчасці. Тут адбылася прэзентацыя кнігі "Веткаўская буквіца", аўтарамі якой з'яўляюцца музейшчыцы Галіна Нячаева і Святлана Лявонцьева. Былі прадстаўлены таксама старажытныя кнігі з фонду Веткаўскага музея.

## Паэтычны клуб

Пры Палацы культуры вытворчага аб'яднання "Гомсельмаш" створаны паэтычны клуб. Днямі тут сабраліся гомельскія паэты Эма Усціновіч, Міхась Буткевіч, Міхась Болсун, Ганна Атрошчанка, якія выступілі перад аматарамі паэзіі са сваімі новымі вершамі.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

ВІЦЕБШЧЫНА...

## Памяці Лісіцына

Вечарыну, прысвечаную творчасці паэта Уладзіміра Лісіцына, правялі ў Віцебскай бібліятэцы імя У. Караткевіча.

— Уладзімір — наш зямляк, родам ён з Лёзненшчыны, — гаварыў Давід Сімановіч. — А калі дакладна, нарадзіўся Лісіцын у нямецкім канцлагеры, у красавіку 44-га. Пасля вызвалення маці з сынам вярнуліся дахаты... Жыццё паэта абарвалася рана, на 29-ым годзе, у 1973-ім. Пасля яго смерці, дзякуючы намаганням Рыгора Барадуліна, у выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшла кніга паэзіі Лісіцына "Жураўлінае вясло". А ў 1990-ым — другая кніга "Беларусь — мая калыска"...

Юныя чытачы бібліятэкі чыталі на вечарыне вершы Уладзіміра Лісіцына.

## Малюнкі-экспромты

Малюнкі прафесійнага мастака — маленькія фрагменты вялікай карціны пад назвай "Жыццё". Аляксандр Салаўёў іх называе экспромтамі, у сваіх запасніках трымае тысячу такіх непасрэдных і натуральна занатаваных "думак"-работ, зробленых алоўкам, тушшу, фламастарам. Намаляваў іх Салаўёў, калі працаваў галоўным мастаком драмтэатра імя Я. Коласа.

Зараз у Віцебскім мастацкім музеі адкрылася выстава графікі Аляксандра Салаўёва пад назвай "Метамарфозы".

**Святлана ГУК**

БРЭСТЧЫНА...

## Музычная вясна каледжа

Справаздачнымі канцэртамі і гала-канцэртам на заключнай урачыстасці адзначыў свой 60-гадовы юбілей Брэсцкі музычны каледж імя Р. Шырмы. Творчыя сілы тут немалыя, і нездарма каледж лічыцца флагманам музычнага жыцця краю. Лаўрэатамі рэспубліканскіх і міжнародных фестываляў становіліся камерны аркестр і маладзёжны хор, званне народнага носяць хор і цымбальны аркестр, удала выступаюць многія салісты — скрыпачы, піяністы, спевакі. І ўсё гэта дзякуючы карпатлівай працы педагогаў, такім, як Ганна Пячонкіна, Лілія Міхайлава, Віктар Шыманоўскі, Мікалай Трафімчук, Уладзімір Мішула... Найперш ім, старэйшым педагогам, былі адрасаваны вітальныя словы і навучэнцаў каледжа, і прадстаўнікоў Міністэрства культуры Беларусі і аблвыканкама, творчых і грамадскіх арганізацый на заключнай урачыстасці, што прайшла ў перапоўненай зале Брэсцкага тэатра драмы і музыкі.

## І ва універсітэце ёсць мастакі

Кафедра мастацка-графічных дысцыплін Брэсцкага дзяржуніверсітэта і маладзёжная грамадская арганізацыя "Альба" наладзілі выставу лепшых творчых прац студэнтаў псіхолага-педагагічнага факультэта. Называецца яна "І ўсюды святло, і ўсюды колер..." Назва адпавядае зместу выставы: большасць карцін і малюнкаў выкананы ў мажорных танах, а іх аўтарам уласцівы жанравыя і тэматычныя пошукі. Прываблівалі гледачоў партрэты алоўкам Л. Новікавай, І. Афанасьевай, графічныя кампазіцыі У. Шапялевіча, М. Казлова, гуаш і акварэлі М. Казекі, М. Кузняцовай, М. Міцкевіча.

**Сымон АКСЕНІН**

## Было цікава паслухаць...

У Клубе журналістаў, што існуе пры Міжнародным адукацыйным цэнтры (IBB), пабывала шмат цікавых гасцей. Там умеюць захоўваць палітычны баланс, і калі запрасілі выступіць І. Сярэдзіча, то абавязкова паклічуць і П. Якубовіча. Іншая справа — пагодзіцца той альбо ўстрымаецца ад візіту ў мадэрновы будынак на Паўднёвым Захадзе сталіцы...

І ў красавіку падабралася пара не абы-якая: лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, аўтар незлічоных скульптурных выяў у стылі сацрэалізму Іван Місько — і палітолаг, журналіст, стваральнік "найноўшай гісторыі" Беларусі Аляксандр Фядута.

Першы — напярэдадні Дня касманаўтыкі — засяродзіўся ў асноўным на гэтай экзатычнай тэме. Паездкі ў Зорны гарадок, прыватныя кантакты з П. Клімуком і іншымі героямі космасу, работа над цэлай галерэяй вобразаў і яе непатрэбнасць у постсавецкім часе — пра ўсё апавядалася шчыра і не без гумару.

Фядута, у адрозненне ад Місько, не быў схільны да самараскрыцця. Можа, таму, што з пачатку 95-га, па яго словах, "трапіў на барыкады". Лёс па-свойму незвычайны: настаўнік з Гродна, знаўца Пушкіна і Баратынскага, незалежніцкай хваляй выносіцца на грэбень палітычнага жыцця, каб пасля перамяніць курс і стаць "проста журналістам", аўтарам палітычных партрэтаў у газеце "Имя", супрацоўнікам "Белорусской деловой газеты" і нарэшце карэспандэнтам у "Московских новостях".

А. Фядута адзначыў "геацэнтрычную сістэму" маскоўскага друку і ілюзорнасць паняцця "адзіная савецкая культура". Расія, як і раней, мала ведае пра Беларусь, з пісьменнікаў на слыху толькі Быкаў і Алексіевіч, і каб пра некага з вядомых у нас людзей напісаць, даводзіцца доўга тлумачыць, хто гэта такі.

А. Фядута даражыць меркаваннямі П. Якубовіча, Г. Бураўкіна і Ю. Дракахруста. На пытанне наконт журналісцкай карпаратыўнай салідарнасці адказаў, што ніякай салідарнасці няма, а ёсць толькі пачуццё годнасці ды інстынкт самазахавання. Госць клуба сваю пазіцыю сфармуляваў так: "Я катэгарычны праціўнік насілля, бо тоўсты і не ўцяку ад дубінкі". Ён зноў і зноў дапрацоўвае сваю кнігу "Лица власти", якую не ўдалося выдаць. Тым часам і кніга траціць злабадзённасць, і "лица" няўхільна становяцца шарыкаўскімі...

**Галіна ЗІНКЕВІЧ**

## Электронная кніжка

Напрыканцы сакавіка нацыянальная бібліятэка Беларусі сумесна з кніжным клубам ТБМ ладзілі чарговую творчую сустрэчу. На гэты раз гераіняй імпрэзы была вядомая беларуская паэтка — і адначасна супрацоўніца гэтай бібліятэкі — Людміла Сільнова.

Літаратары і мастакі, калегі-бібліятэкары, маладыя сябры кніжнага клуба віншавалі Людку (паэтычнае імя) з галоўнай падзеяй сустрэчы — прэзентацыяй электроннага варыянту яе кнігі "Зеланавокія вої і іх прыгажуні" (па назве аднаго з апошніх вершаў). Гэты зборнік прадставіў старшыня кніжнага клуба Зміцер Ціхановіч. Трэба аддаць належнае яго шляхетнай манеры ў ролі вядучага літаратурных імпрэз.

У электронную кнігу Людкі Сільновай увайшлі 45 вершаў. Што адметна, усе яны — з прысвячэннямі.

Аўтарка паказала таксама прыватную калекцыю саматробных кніг, выкананых з разнастайных матэрыялаў: паперы, шоўку, вэлюму, фольгі і — у адным экземпляры — кнігу-вышыванку. Людка працягвала размову прызнаннем, што з дзяцінства яе захапляў феномен кнігі, таму невыпадковая яе праца ў бібліятэцы. І пранікнёна падзякавала калег за магчымасць займацца сваімі творчымі эксперыментамі.

Добрыя словы ў адказ гаварыла намеснік дырэктара "нацыяналкі" Галіна Кірухіна. Затым выступілі "адрасанты" вершаў з прысвячэннямі — Галіна Дубянецкая, Глеб Артханаў і, вядома ж, Леанід Дранько-Майсюк, рэдактар першай кнігі Л. Сільновай "Ластаўка ляціць" (1993 г.).

І нарэшце — адрас у Інтэрнэце: http://tbm.org.by

**Ядвіга КВЯТКОЎСКАЯ**

## Чарговае выданне ТБМ

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны з нагоды 160-х угодкаў ад дня народзінаў Францішка Багушэвіча выдала каляндарык на 2000-2001 навучальны год з выявай знанага беларускага пісьменніка. Інфармацыю пра набыццё каляндарыка спадарства атрымае ў сядзібе ТБМ, што ў Мінску на вуліцы Румянцава, 13 альбо праз тэл. 284-85-11.

ПАМЯЦЬ

# Асвейскія хатулі

11 красавіка на календарах пазначана як Міжнародны дзень вызвалення вязняў фашысцкіх канцлагераў. Вясенняя радасць тых, хто застаўся жыць пасля чорных млыноў другой сусветнай вайны, не перадалася наступным пакаленням і ў нашай дзяржаве да апошняга часу не з'яўляецца днём асаблівым. Несправядлівая фраза: "Палонных у нас няма" з гадамі пачала асэнсоўвацца так, што і мільённых ахвяр як бы не было. Не модна было нагадваць пра 260 лагераў смерці толькі на тэрыторыі Беларусі. Тысячы "нестраявога" насельніцтва (не магу гаварыць — мірнага) палеглі ў Саласпілсе, Равенсбруку, Асвенціме... Вязні з асвейскай партызанскай зоны гаварылі мне, што з транспарту ў тысячу чалавек, дастаўленага ў Майданак, дадому вярнулася толькі чатыры паўжывыя істоты. 380 тысяч нашых суайчыннікаў, сведчыць статыстыка, было вывезена ў Германію. Лічба недакладная, як і ўсе страты Савецкага Саюза ў другой сусветнай вайне.

Днямі ў Верхнядзвінскім раёне Віцебскай вобласці гартаў першую кнігу двухтомнай "Памяці" — гісторыка-дакументальнай хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі. Трапіў на даклад карнай групы "Цаўнкёніг". З 25.02 па 5.04.1943 г. "забітых у баях бандытаў — 1, падвергнутых асобай апрацоўцы — 633". Страты цывільнага насельніцтва, па нацысцкай тэрміналогіі "бандыцкіх памагатых" у параўнанні з партызанскімі стратамі суадносяцца як 1:600!

Увесь свет ведае пра французскі Арадур-Сюр-Глан, пасёлак, поўнасцю знішчаны гітлераўцамі разам з яго жыхарамі. Так вось на Асвейшчыне такіх Арадураў — 80! Чэхі паклапаціліся, каб у кожным куточку планеты ведалі пра разбураны і напаўрастраляны пасёлак Лідзіцэ. У Дрысенскім і Асвейскім раёнах (зараз гэта тэрыторыя Верхнядзвінскага раёна) 366 такіх Лідзіцэ. У Саласпілсе з малалетніх вязняў з Асвейшчыны было выкачана сотні літраў крыві. Вязні — донары Еўропы, вязні — рабы. Ацалелыя, яны знайшлі прымусовы прытулак у Старым і Новым свеце. А тыя, хто вярнуўся на котлішчы 446-ці разам узятых "лідзіцэ" і "арадураў", доўга яшчэ хадзілі з таўром ужо "нямецкіх памагатых". Антон Бубала, укладальнік кнігі "Памяць", пяцімесячным немаўлём трапіў разам з маці ў Саласпілс пасля чарговай карнай экспедыцыі. У "вогненнай вёсцы" яму не паспелі разбіць галаву аб вугал роднай, нікім не абароненай хаты, рознамасцёвыя шкуралупы, бандыты па сваёй звярынай сутнасці.

А выжылі вязні, нашыя суайчыннікі, не толькі дзякуючы шчаслівым выпадкам, Божаму заступніцтву, а яшчэ і таму, што валодалі духоўнай сілай, прагаю да волі. Дапамагала ўзаемавыручка, пабрацімства, еднасць, самаадданасць — чалавечыя якасці, якія катастрафічна дэвальвіруюцца ў сучасным грамадстве.

Лёс былых вязняў фашысцкіх канцлагераў павучальны яшчэ і тым, што ў часы татальнага вынішчэння нашага народа яны далі высакародны прыклад Нацыянальнага Супраціўлення, аб якім паспеў толькі заікнуцца ў сваёй перадсмяротнай публіцыстыцы Янка Купала. Згадаем яго радкі: "Партызаны, партызаны, Беларускія сыны!"

У Купалы ўжо былі "беларускія сыны" — пра іх верш 1919 года. Паэт, сам вязень таталітарнай сістэмы, не хацеў бачыць свой народ у паслугачах у чужынцаў.

Уражвае асабістая трагедыя суайчыннікаў: самаахвярнасць дзеля супраціву і неабароненасць "памагатых". Калі ж будзе сама краіна сплачваць доўг людзям адданасці, людзям непакоры, людзям несправядлівага лёсу?

Абыякавым жа быць не выпадае. 25 гадоў назад я спаткаўся з першым маім сааўтарам — Эдуардам Абуховічам. Праз здранцвенне і боязь сотні асвейцаў, былых вязняў, расказвалі мне пра тое, што потым увайшло ў дакументальныя выданні: "Пасля вогненных вёсак..." (1980), "Браніслава" (1985), "Освейская трагедия" (1992), ва ўкладзеную мной кнігу народнай памяці "Дзеці вайны" (1993). І сёння я блукаю па сцежках маіх сааўтараў. Разам з імі...

*Пад намі нетры.*
*Курганы — упобачкі:*
*пячаць вякоў і памяць*
*продкаў-даннікаў.*
*А што над намі?*
*Праплываюць воблачкі,*
*ці хатулі*
*з-пад вогненных выгнаннікаў,*
*якія не вярнуліся з майданакаў?*
*Асвея... Тлее шнар ад баразны.*
*Пралескі-вёскі:*
*кожная — праталінка.*
*Вастраціца маладыя курганы...*
*Няхай — пры нас —*
*не горбяцца яны!*

**Сяргей ПАНІЗНІК**

ДРУК

# Што прынёс з сабой "Кур'ер"?

Не так даўно свет пабачыў новы грамадска-палітычны часопіс "Кур'ер". Гэта чарговы праект Ігара Герменчука. Новы прадукт экс-дэпутата Вярхоўнага Савета з'явіўся ціха і са спазненнем. І зараз, калі цяжкасці з рэгістрацыяй выдання ў Дзяржкамдруку пераадолены, а сам часопіс прадаецца ў кожным шапіку "Саюздруку", застаецца толькі здагадвацца, якая будучыня чакае "Кур'ера". Вітаючы з'яўленне новага СМІ, жадаю яму ўсяго найлепшага, але дазволю сабе і некаторыя крытычныя заўвагі.

Варта адзначыць: яшчэ зусім нядаўна лічылася, што існаванне ТАКОГА часопіса ў Беларусі немагчыма ў прынцыпе. Маленькая краіна, маленькае інфармацыйнае поле, існаванне даволі вялікай колькасці разнапланавых газет — усё гэта з'яўлялася (ды й з'яўляецца) глебай для сумненняў у паспяховасці герменчукоўскай ідэі. Як высвятляецца, і сам Ігар Іванавіч на ўсе сто не ўпэўнены ў шчаслівым лёсе "нованароджанага"... І вось калі чытаеш тэму нумара — "Прагноз-2000. Ці будуць у Беларусі перамены?", міжволі ўспамінаеш свае ранейшыя сумненні. Нават газетныя апытанні С. Шушкевіча, А. Патупы, М. Статкевіча, А. Лябедзькі і інш. пра ўсё на свеце надакучылі. А тут часопіс, першы ў сваім родзе і... зноў тыя ж "эксперты"! Самае цікавае, што прагноз збольшага аказаўся аптымістычным. Вельмі пераканаўча піша Віталь Цыганкоў пра непазбежнасць настраёвых змен у грамадстве. Ледзь не навуковую глебу падводзіць журналіст пад свае высновы. Верыць часопісу замінае адно што памяць. Узгадайце, што ў 94-м прагназавала газета "Свабода", у якой тады працавалі І. Германчук і В. Цыганкоў.

Нельга не адзначыць нетрываласць некаторых рубрык. Скажам, што будзе з "Суседзямі", калі карэспандэнты ў краінах, з якімі мяжуе Беларусь, усе надрукуюць па адпаведным нарысе? Дарэчы, ці паўсюль у "К" ёсць спецкары?.. Зразумела, што партрэтны нарыс аўтарства Аляксандра Фядуты — для любога выдання — выйгрышны крок. Аднак ці з'яўляецца згода да супрацоўніцтва, дадзеная паважаным публіцыстам, падставай для ўвядзення даволі канкрэтнай рубрыкі "Профиль"? Аляксандр Іосіфавіч, наколькі вядома, працуе адразу на некалькі беларускіх і расійскіх СМІ. Ці не здарыцца з "Профилем" тое самае, што і з аналагічнай па змесце рубрыкай у "Белорусской газете", мешчай назву "Призраки". Між іншым, апублікаваны "Кур'ерам" "партрэт" міністра ўнутраных спраў Юрыя Сівакова толькі пацвярджае гэтую небяспечнасць. У матэрыяле інфармацыі пра Сівакова мінімум. Журналісцкага самасузірання дастаткова, апісання клянавых разборак — таксама, а вось самога Сівакова... кот наплакаў.

Асобныя матэрыялы ўвогуле можна было б не друкаваць. Першы ў краіне грамадска-палітычны часопіс мог бы абысціся без крымiналу, інтэрнэтаўскіх перадрукоўвак і баек пра тое, як "Білу Гейтсу пагражае канфіскацыя". Маштабнасць, з якой асвятляюцца падзеі без "прывязкі" да грамадска-палітычнага жыцця краіны, даваляе здагадвацца пра адсутнасць у "Кур'ера" т.з. "рэдакцыйнага партфеля" (запасу матэрыялаў). Ёсць недарэчнасці і са зместам палітычных артыкулаў.

Так не зусім зразумела, навошта было "К" змяшчаць на сваіх старонках артыкул Валерыя Мікуліча "Камандаваць парадам будзе хто?"? Каб сцвердзіць факт адсутнасці ў шэрагах апазіцыі чалавека, здольнага стаць "першым нумарам" беларускай дэмакратыі? Дык гэта даўно ўжо не навіна, і хто толькі пра гэта не пісаў! Але ж стылістычна слабенькі матэрыял Мікуліча, змешчаны пасля аптымістычных сентэнцый Віталя Цыганкова, ледзь не разбівае агульную скіраванасць нумара.

Смешныя ці недарэчныя рэплікі, фразы, выказванні так ці інакш спрабуюць выкарыстаць многія СМІ. Натуральна, з розным поспехам. Ёсць рубрыка "Цытатнік" і ў "Кур'ера". І калі форма, знойдзеная калегамі з "Белорусской деловой газеты", падаецца цікавай і арыгінальнай, то часопісныя спробы такімі не назавеш. Дзве паласы пад загалоўкам "Пороте ахинею!" пакідаюць пачуццё расчараванасці. Журналіст шукаў у газетах "ахинею". Знайшоў, але знойдзенае — зусім не шэдэўр. "Кіслыя" каментары вясёлага ў жыцці Вадзіма Казначэева наводзяць на думку аб няўдалым характары самой ідэі. Здзіўляе і месца размяшчэння гэтай "забаўкі": наступным матэрыялам стала сінтэрв'ю з кіраўніком ядзернай бяспекі ў Інстытуце радыеэкалагічных праблем НАН. І назва артыкула адпаведная "Саркафаг (той самы, ЧАЭСаўскі. — **В. Д.**) жывы, і памірацъ не збіраецца". Вось і хацелася б ведаць, пра што думалі складальнікі часопіса, ставячы матэрыялы ў такой паслядоўнасці?

Напэўна, не варта патрабаваць ад шчыра апазіцыйнага (як урэшце і ад дзяржаўнага) выдання, плюралізму думак. Не той узровень дэмакратыі ў краіне! Аднак трэба аддаць належнае "Кур'еру". Магчыма, для надання часопісу своеасаблівай экзатычнасці абвяргаюцца некаторыя выказванні калег па апазіцыйным лагеры, выслухоўваюцца высокапастаўленыя беларускія чыноўнікі і нават прысутнічае спроба міні-дыскусіі. У прыватнасці, візаві абмяркоўваюць "Ці варта апазіцыі ўдзельнічаць у восеньскіх парламенцкіх выбарах?" Дарэчы, пад рубрыкай "PRO ET CONTRA", якая калісьці выкарыстоўвалася на старонках "ЛіМа".

Відавочны недахоп якасных ілюстрацый (а гэта якраз тое, што ў першую чаргу павінна адрозніваць часопіс ад газеты). Падбор фотаздымкаў хутчэй хаатычны. Так бы мовіць, "што ёсць, тое і прапануем". Апроч таго, што здымкі рознага аўтарства і мастацкай вартасці, скарыстаны яны часам зусім не да месца. Да таго ж тое-сёе мы ўжо бачылі на старонках іншых выданняў. У прыватнасці, на палосах той жа "Свабоды". І добра, калі б здымкі тыя былі з "залатога запасу". (Як вядома, некалі газета славілася сваёй фотажурналістыкай.) Аднак першыя дзве ілюстрацыі да артыкула "Стомленыя застоем" да "золата" ніяк не аднесці. Як не аднесці фотаварыяцыі з помнікам Леніну. Здымкі ідалаў у СМІ надакучылі не менш, чым самі ідалы. Варта нагадаць таксама, што памер здымка не дадае яму прыгажосці.

Тым не менш, пажадаем новаму выданню добрага шляху.

**Вадзім ДОЎНАР**

НАДЗЁННАЕ

# Быць ці не быць нацыянальнаму універсітэту?

**_Таварыства беларускай мовы заканцэптавала ідэю стварэння Беларускага нацыянальнага універсітэта. Спецыяльная ініцыятыўная камісія завяршыла працу над праектам Статута гэтай вышэйшай навучальнай установы._**

**_Праект распаўсюджаны па рэдакцыях шэрагу СМІ для грамадскага абмеркавання. Гэтым кіраўніцтвам ТБМ спадзяецца павялічыць рэзананс ініцыятывы як сярод насельніцтва, так і ва ўладзе._**

**_Пэўным чынам удалося зайдзейнічаць у справе стварэння нацыянальнага універсітэта і Міністэрства адукацыі. У прыватнасці, у распрацоўцы згаданага праекта браў удзел Скарынаўскі цэнтр, які з'яўляецца структурай гэтага міністэрства. Хаця, на жаль, гэтым кантакты ТБМ з Міністэрствам адукацыі вычэрпваюцца. На дзяржаўны ўзровень праблема дагэтуль не ўзнятая. ТБМ — у ліку тых 90 арганізацый і партый, што вырашылі ўдзельнічаць у з'ініцыяваным А. Лукашэнкам дыялогу грамадска-палітычных сіл. Трусаў кажа, што ТБМ ідзе на перамоўны працэс не ў палітычным фармаце, а менавіта з пытаннямі стварэння нацыянальнага універсітэта як дзяржаўнай ВНУ і аднаўлення рэальнага статуса беларускай мовы як дзяржаўнай._**

**_Што з гэтага атрымаецца — пабачым._**

**_Сёння мы знаёмім нашых чытачоў з праектам канцэпцыі стварэння беларускага нацыянальнага універсітэта (БНУ)._**

**_Кірыла ПАЗНЯК_**

## СУЧАСНЫЯ ПЕРАДУМОВЫ

Паводле перапісу насельніцтва 1999 года каля 81% грамадзян Беларусі назвалі сябе беларусамі па нацыянальнасці, а прыкладна 37% (амаль 4 млн. нашых суайчыннікаў!) у якасці мовы паўсядзённых зносін назвалі беларускую. Разам з гэтым каля трэці школьнікаў навучаюцца зараз менавіта ў беларускамоўных сярэдніх школах і класах.

У артыкуле 50 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь пазначана: "Кожны мае права карыстацца роднай мовай, выбіраць мову зносінаў. Дзяржава гарантуе ў адпаведнасці з законам свабоду выбару мовы выхавання і навучання".

На жаль, гэты артыкул нашага Галоўнага закона не дзейнічае ў поўным аб'ёме, бо на Беларусі няма ніводнай вышэйшай навучальнай установы, дзе б усе студэнты навучаліся на роднай, а разам з тым і дзяржаўнай беларускай мове і дзе б вытрымліваўся адпаведны моўны рэжым. Тыя нешматлікія фармальныя беларускамоўныя плыні, што засталіся на некаторых гуманітарных факультэтах некалькіх ВНУ, у разлік браць нельга, бо поўнае выкладанне па-беларуску ўсіх дысцыплін (асабліва замежных моў) там адсутнічае.

У сувязі з гэтым ТБМ імя Ф. Скарыны цягам апошніх трох гадоў патрабуе ад кіраўніцтва краіны адкрыцця ў Мінску новага беларускага нацыянальнага універсітэта (далей БНУ), у якім усе дысцыпліны **без выключэння** выкладаліся б па-беларуску, а таксама на дзяржаўнай беларускай мове дзейнічала б уся сістэма справаводства (уключна з бухгалтэрыяй) з філіяламі ў тых вялікіх беларускіх гарадах, дзе жыве болей за 100 тыс. жыхароў і дзе адсутнічаюць іншыя ВНУ.

На сёння ТБМ мае больш 15000 подпісаў грамадзян Беларусі ды іншых краін з патрабаваннем адкрыць на Беларусі вышэй згаданую навучальную ўстанову, у якой усе дысцыпліны (у тым ліку й замежныя мовы) будуць выкладацца на дзяржаўнай беларускае мове. У нашай дзяржаве ёсць дастатковая колькасць дактароў і кандыдатаў навук, прафесараў і дацэнтаў, каб цалкам укамплектаваць усе факультэты БНУ высокапрафесійнымі, беларускамоўнымі кадрамі.

На жаль, звароты ТБМ да кіраўніка беларускае дзяржавы А. Лукашэнкі засталіся дасюль без адказу і таму было вырашана ўзнавіць збор подпісаў жыхароў нашае краіны з патрабаваннем адкрыцця БНУ. А напрыканцы мінулага года пры ТБМ была арганізаваная ініцыятыўная група па стварэнні БНУ.

У адпаведнасці з рашэннем лістападаўскае рады ТБМ і з асабістымі пажаданнямі ў склад ініцыятыўнае групы зараз уваходзяць больш за 50 асоб. Сярод іх акадэмікі Радзім Гарэцкі ды Сямён Шарэцкі, член-карэспандэнт НАН, былы прарэктар БДУ Станіслаў Шушкевіч, дактары навук ды прафесары Алесь Астроўскі, Анатоль Грыцкевіч, Мікола Крукоўскі, Уладзімір Кулажанка, Алесь Краўцэвіч, Леанід Лыч, Адам Мальдзіс, Генадзь Цыхун, Генадзь Пятроўскі, вядомыя беларускія пісьменнікі Ніл Гілевіч, Вольга Іпатава, Васіль Зуёнак, старшыня ТБШ Алесь Лозка, кіраўнік Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны Любоў Канаплянік, былы пасол Беларусі ў Германіі дацэнт Пятро Садоўскі ды іншыя вядомыя на Беларусі выкладчыкі ВНУ з Мінска, Гродна, Брэста, Віцебска ды Горак. Удзельнікі групы распрацавалі праект Статута БНУ.

## ПРЫНЦЫПЫ СТВАРЭННЯ БНУ І ЯГО СТРУКТУРА

Удзельнікі ініцыятыўнае групы выказаліся за стварэнне менавіта новай навучальнае ўстановы з улікам дэмакратычнага вопыту лепшых універсітэтаў Еўропы ды ЗША, а таксама станоўчага вопыту беларускіх ВНУ.



Беларуская мова, як мова выкладання і навучання, — прынцыповая сутнасць БНУ. Выкладчыкі ды студэнты свядома, без усялякага адміністрацыйнага прымусу выбіраюць беларускую мову навучання, як адну з самых буйных ды распрацаваных славянскіх моў. Разам з гэтым высокая якасць падрыхтоўкі спецыялістаў застаецца асноўнай мэтай арганізацыі навучальнага працэсу.

Асаблівасцю БНУ з'яўляецца таксама і шырока апрабаваны ў свеце падыход да атрымання адукацыі, які грунтуецца на прынцыпах акадэмічнай свабоды. Мяркуецца, што будзе вызначана толькі пэўнае кола дысцыплін, якія ёсць абавязковыя. Разам з мінімумам прадметаў па канкрэтнай спецыяльнасці нам уяўляецца абавязковымі для вывучэння адна з заходнееўрапейскіх моў (англійская, французская, нямецкая і г. д.), а таксама адна з славянскіх моў (польская, чэшская, балгарская, украінская, руская і г. д.).

Студэнты кожнага факультэта будуць вывучаць таксама шырокі курс беларусазнаўства і гісторыю свае асноўнае спецыяльнасці, якая павінна грунтавацца на мясцовых беларускіх і агульнаеўрапейскіх прыкладах. Сучасныя беларускія студэнты (хімікі, біёлагі ці фізікі) не ведаюць, як гэтыя навукі развіваліся на тэрыторыі Беларусі, не ведаюць і пра сваіх найбольш дасведчаных у вышэйзгаданых навуках землякоў. Уяўляецца неабходным скасаваць гэты значны для агульнай адукаванасці недахоп.

Плануецца, што абавязковыя дысцыпліны будуць вывучацца ў першай палове дня. Другая палова будзе адведзена для вывучэння свабодна выбраных студэнтамі дысцыплін. Тут магчымы больш паглыбленыя спецыяльныя курсы, вывучэнне другой заходнееўрапейскай мовы, латыні, гісторыі рэлігіі і г. д.

Падмуркам практычнай падрыхтоўкі студэнтаў БНУ з'яўляюцца НАН Беларусі, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, Нацыянальная бібліятэка, Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі, Нацыянальны архіў. БНУ мусіць шчыльна супрацоўнічаць з адзіным у Беларусі цалкам беларускамоўным гуманітарным ліцэем імя Якуба Коласа, лепшыя выхаванцы якога будуць аўтаматычна залічацца ў шэрагі студэнтаў БНУ.

Рэктар БНУ абіраецца таемным галасаваннем Вучонае рады універсітэта. Ва універсітэце дзейнічаюць еўрапейскія нормы памеру працы для выкладчыкаў і 10-бальная сістэма адзнакі ведаў студэнтаў.

Папярэдне прыйшлі да згоды ў тым, што БНУ павінен складацца з наступных факультэтаў: юрыдычны, філасофскі, эканамічны, прыродазнаўчы, гісторыка-лінгвістычны, фізіка-матэматычны. Колькасць студэнтаў мусіць быць абмежаванаю да 3-3,5 тысячы чалавек. Галоўная мэта універсітэта — падрыхтоўка кадраў для беларускай нацыянальнае эліты ў наступным стагоддзі. Мяркуецца, што выпускнікі БНУ павінны стаць кіраўнікамі ў розных сферах палітыкі, культуры, адукацыі ды гаспадаркі незалежнай дэмакратычнай Беларусі.

Юрыдычны факультэт будзе мець аддзяленні міжнароднага, грамадзянскага ды адміністратыўнага права. Сярод прапанаваных кафедраў трэба вылучыць кафедру міжнароднага марскога і паветранага права, а таксама кафедру міжнароднага экалагічнага права.

Філасофскі факультэт папярэдне складаецца з двух аддзяленняў: культуралогіі і тэалогіі. Прычым аддзяленне тэалогіі можна размясціць у старажытным Пінску, дзе пашыраная дзейнасць розных канфесіяў і нават маецца адпаведны будынак былога езуіцкага калегіума 17 ст.

Эканамічны факультэт, акрамя аддзялення банкаўска-фінансавай справы, мусіць мець кафедру дэмаграфіі, бо, на жаль, Беларусь зараз мае адмоўнае сальда нараджальнасці.

Прыродазнаўчы факультэт утрымлівае два буйныя аддзяленні: хіміка-біялагічнае і геолага-геаграфічнае. У перспектыве да іх далучыцца і экалагічнае з выхадам на чарнобыльскую праблему.

На гісторыка-лінгвістычным факультэце плануецца мець тры аддзяленні: гістарычнае, музейна-архіўнае і лінгвістычнае. Тут будуць рыхтавацца прафесійныя перакладчыкі, літаратурныя крытыкі і журналісты, рэдактары ды спецыялісты выдавецкай справы.

Сярод найважнейшых кафедраў трэба адзначыць кафедры вайсковай гісторыі Беларусі, гісторыі архітэктуры і дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, а таксама кафедры балцкіх, славянскіх і ўсходніх моў (арабская, кітайская, фарсі, турэцкая і японская мовы). Частка лінгвістычнага аддзялення з кафедраў балтыйскіх і славянскіх моў можа месціцца ў Лідзе, горадзе, блізкім да Польшчы і Летувы.

Фізіка-матэматычны факультэт мае на мэце распрацоўваць розныя тэарэтычныя накірункі сучаснай навукі. Студэнты гэтага факультэта будуць праходзіць доўгатэрміновыя стажыроўкі ў лепшых універсітэтах Еўропы і ЗША, а таму мусяць вольна валодаць англійскай мовай.

Паколькі выкладаць дысцыпліны будуць высокакваліфікаваныя выкладчыкі, БНУ стане таксама навукова-метадычным цэнтрам падрыхтоўкі нацыянальных беларускамоўных падручнікаў для вышэйшай школы.

Прапануецца надаць БНУ імя Францішка Багушэвіча, вядомага беларускага пісьменніка, юрыста, публіцыста, чалавека, які ўпершыню слову "беларус" надаў палітычнае і нацыянальнае вызначэнне.

*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ.*

## "Слоўнік-мінімум па літаратуразнаўству"

**Слоўнікі, як вядома, бываюць розныя. І слоўнікаў выходзіць шмат, асабліва апошнім часам. Аднак "Слоўнік-мінімум па літаратуразнаўству" Вячаслава Рагойшы (выпушчаны ў аўтарскай рэдакцыі Беларускім дзяржаўным універсітэтам) адметны тым, што дагэтуль нічога падобнага не было. А наколькі ён арыгінальны, відаць з прызнання аўтара, што прагучала ва ўступе: "Таму, хто знаёмы з філалагічнай літаратурай, найперш па лінгвістыцы, назва "слоўнік-мінімум" не падасца незвычайнай. Аднак у дачыненні да літаратуразнаўства яна ўжываецца, бадай, упершыню. Сапраўды, чаму "мінімум"? І які гэта "мінімум", калі ў слоўніку растлумачваецца каля 500 літаратуразнаўчых тэрмінаў?" І далей В. Рагойша адказвае на гэтае пытанне: "А ўся справа ў падачы матэрыялу. Ён скампанаваны так, што самастойна растлумачана крыху больш 100 тэрмінаў — найбольш важных, шырокаўжывальных (абразок, балада, верш, гімн, паэзія, паэма, раман, рыфма, санет, страфа, троп і г.д.), ведаць якія патрэбна кожнаму адукаванаму чалавеку, тым больш студэнтам-філолагам. Яны спецыяльна авалодваюць тэорыяй літаратуры ў курсах "Уводзіны ў літаратуразнаўства" (І курс) і "Тэорыя літаратуры" (4 курс), сустракаюцца з гэтымі (і іншымі) словамі-паняццямі пры вывучэнні беларускай, рускай і замежнай літаратур". Але ж, акрамя згаданых асноўных тэрмінаў, у слоўнік увайшло яшчэ і каля 400, так званых, адсылачных, неабходнасць знаёмства з якімі "абумоўлена канкрэтным адрасатам слоўніка". І хоць слоўнік В. Рагойшы ў першую чаргу арыентаваны, так бы мовіць, для "ўнутранага карыстання", адсюль і наклад яго ўсяго 300 паасобнікаў, з ім з цікавасцю пазнаёмяцца не толькі студэнты, а і вучні-старшакласнікі, выкладчыкі беларускай літаратуры ды і ўвогуле ўсе, хто цікавіцца пытаннямі літаратурнай гісторыі, тэорыі і крытыкі. Праўда, калі ўдасца ўзяць "Слоўнік-мінімум..." у бібліятэцы. Як і любое выданне слоўнікавага тыпу, слоўнік зручны для карыстання. Тэрміны падаюцца ў алфавітным парадку. Адсылачныя тэрміны ў асноўных артыкулах выдзелены тлустым шрыфтам. В. Рагойша паклапаціўся, каб тэорыю літаратуры як мага лепш спалучыць з яе гісторыяй, а таму ў амаль кожным артыкуле падаюцца не толькі неабходныя тэарэтычныя звесткі, але і згадваюцца пэўныя творы. І яшчэ адна важная адметнасць "Слоўніка-мінімуму..." — аўтар паруціўся ўвесці ў яго як мага найноўшы матэрыял. У прыватнасці, гэта яскрава відаць з артыкула "Гімн", у якім ёсць і такое сведчанне: "Новая жыццёвая рэальнасць пачатку 90-х гг. XX ст. (ліквідацыя манаполіі КПСС, распад СССР, абвяшчэнне незалежнасці Рэспублікі Беларусь) патрабуе новага Дзяржаўнага Г. Беларусі. Да яго афіцыйнага зацвярджэння ролю такога Г. часам выконвае рэлігійны Г. "Магутны Божа" (словы Н. Арсенневай, музыка М. Равенскага)". Шкада, што ў слоўніку памылкова М. Равенскі стаў І. Равенскім. Або ўзяць артыкул "Санет". В. Райгошу ўдалося ўстанавіць, што першыя вянкі санетаў з'явіліся з-пад пяра М. Кавыля ("Цяжкія думы" ў 1956 годзе і "Чорны мёд" — у 1958-м). Гэтым жа годам пазначаны і "Вянок санетаў" А. Салаўя, а ўжо ў 1967 годзе вянок санетаў "Нарач" напісаў Н. Гілевіч. Зразумела, што творчасць першых двух аўтараў да нядаўняга часу на Беларусі ведалі не ў дастаткова поўным аб'ёме, адсюль і недакладнасць у энцыклапедычных даведніках. І ўвогуле, час не стаіць на месцы. Высnova В. Рагойшы (не ў папрок яму): "Першы і пакуль што адзіны беларускі вянок вянкоў С. "Апакаліпсіс душы" надрукаваў у 1992 г. З. Марозаў" устарэла. Што першы так, але пакуль "Слоўнік-мінімум..." рыхтаваўся да друку, з'явіўся яшчэ адзін вянок вянкоў санетаў, напісаны М. Вінцкім. Але і сам В. Рагойша разумее, што магчымы пэўныя ўдакладненні і заканчвае ўступ такімі словамі: "Праца над слоўнікам працягваецца. Таму буду ўдзячны усім, хто выкажа свае заўвагі і прапановы па яго ўдакладненню".**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

АСОБЫ

# Першакніжнік

## З ПІСЬМЕННІКАМ, ЗАСЛУЖАНЫМ РАБОТНІКАМ КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ Анатолем КЛЫШКАМ ГУТАРЫЦЬ КРЫТЫК Галіна ТЫЧКА

**— Анатоль Канстанцінавіч, мяне цікавіць ваша рознабаковасць. Згадаю для чытача: у вашым набытку — кніга крытыкі "Права на верш", вы пераклалі са старагрэцкай твор Лонга пра Дафніса і Хлою — адзін з першых раманаў пра каханне ў еўрапейскай літаратуры. У часопісе "Спадчына" надрукаваны ваш пераклад Чатырох'евангелля і ведаю, што вы працуеце над "Адысеяй" Гамера. У часы перабудовы былі ініцыятарам тэлеўрокаў "Гаворым па-беларуску", пасля гэтыя ўрокі друкаваліся ў пятнаццаці нумарах часопіса "Маладосць". У выдавецтве "Вышэйшая школа" выйшаў ваш "Беларуска-польскі размоўнік". Але найбольш вы працавалі ў дзіцячай літаратуры — "Вярэнька загадак", "У лясах Белавежы", "Самая лепшая хатка", "Францыск Скарына, альбо Як прыйшла да нас кніга". Перакazалі цікава "Шыльдбюргеры", склалі чытанкі "Верасок" і "Чабарок".**

**Па сумеснай працы ў "Полымі" ведаю, як вы не любіце слухаць слова пахвалы. Але тым не менш: больш за трыццаць гадоў прысутнасці вашага буквара ў школе, дарэчы, адзначанага сярэбраным медалём на ВДНГ СССР, залатым медалём на міжнароднай Лейпцыгскай выстаўцы дый сёлета — першая прэмія Міністэрства адукацыі як за лепшы падручнік года, абавязвае мяне загаварыць з вамі перш за ўсё пра...**

— Толькі не пра буквар. Я ўжо даўно, што меў сказаць, сказаў. А да ўсяго хачу заўважыць: дарослы, узяўшы буквар, глядзіць на яго як на чытанку. А я праз трыццаць гадоў ад таго конкурсу ў 1968 годзе — не было і тыдня, каб не думаў пра тое, як лепш вучыць чытаць. Дзевяць гадоў, працуючы ў Інстытуце педагогікі, эксперыментаваў у школах і садках, каб прыйсці да сённяшняга буквара, да зусім іншай, чым была агульнапрынятая, методыкі. Але пра гэта трэба гаварыць з настаўнікамі.

**— Але ж летась выйшаў і ваш рускі "Букварь". Чым кіраваліся пры яго напісанні?**

— Працуючы над ім, апроч методыкі, я раздумваў над тым, якім павінен быць рускі буквар у Беларусі. Не той усесаюзны рускі буквар, якім у савецкія часы карысталіся ў Беларусі і ў якім, зразумела, нічога не было пра Беларусь. І не нядаўні рускі буквар, у якім як бы для адчэпкі быў, скажам, тэкст пра Мінск ды надзвычай слабы верш А. Русака...

Мой рускі буквар са Скарынаю на першай старонцы. У ім ёсць згадкі пра Полацк, Навагрудак, пра Еўфрасінню Полацкую, Кірылу Тураўскага, пра слуцкія паясы... Побач з Пушкіным і Талстым ёсць Янка Купала і Якуб Колас.

Але мяне вельмі дзівіла, як можа рускі буквар амаль абыходзіцца без Пушкіна і зусім — без Лермантава, Цютчава, Сурыкава — рускай класікі. У дарэвалюцыйны час руськія пісьменнікі віншавалі адзін аднаго, калі іх творы траплялі ў падручнік. Існаваў як бы назоў "хрэстаматыйны аўтар" як адзнака ўзорнасці. А тут першы — лепшы твор можа трапіць у буквар. А загадкі з адным толькі прыкідам, каб хоць жа адгадалі дзеці. Я пісаў ужо нават пародыю на такія загадкі.

*Што мы на галаву надзяём,*
*Калі зімой на двор ідзём?*

Які дзбіл не адгадае гэтай загадкі? А вялікі Ушынскі казаў, што адгадку можна нават сказаць дзецям, а важна навучыць іх разуменню загадкавасці свету, вобразнасці слова, уменню "прыкладці адгадку да загадкі"...

**— Дык дзякуй. Вось вы і сказалі, што я хацела пачуць.**

**А каму вы найбольш абавязаны ў сваім жыцці?**

— Я цалкам згодны тут з Сяргеевым-Цэнскім: усім лепшым мы абавязаны бацькам.

**— Раскажыце трошкі пра іх.**

— Маці мая толькі дзве зімы хадзіла ў школку. Калі на трэцюю зіму не пайшла, настаўнік за тры кіламетры знарок прыходзіў да яе бацькі ўгаворваць: "Сцяпане, пасылай сваю Алесю ў школу". "А мне такі гонар, — успамінала маці, — да нікога больш у вёсцы не прыходзіў настаўнік. Але як жа ісці ў тую школу, каб хоць у сваёй вёсцы была, а то далёка, і няма ні абутку, ні добрай вопраткі..."

Я ад маці запісаў 250 беларускіх народных песень, а яна ж ведала яшчэ і рускія, і польскія. Казала: за сем кіламетраў у завею ішла на вяселле ў чужую вёску, бо, можа, там будуць спяваць не тыя вясельныя песні, што спяваюць у Данейках...

Бацька праву́чыўся яшчэ менш, толькі адну зіму. Але ўсё жыццё стараўся вучыць дзяцей. Памятаю, як ён, паказваючы на падручнік старэйшага брата (гэта была граматыка беларускай мовы), казаў мне: "Вывуч адну гэтую кнігу, і ты назаўсёды будзеш правільна пісаць". І пасля, многія гады працуючы ў рэдакцыях, ані не мог зразумець людзей з вышэйшай адукацыяй, асабліва пісьменнікаў, якія неахайна ставяцца да мовы, робяць самыя грубыя памылкі, сапраўды не могуць адолець адной гэтай кнігі.

Згадваецца дасціпная эпіграма Ніла Гілевіча на такога дзіцячага пісьменніка:

*Нічаво, што непісьменна,*
*Для дашкольнікаў сайдзёць.*
*А дзе трэба непрамення,*
*Там рэдактар давядзёць.*

(Прашу прабачэння ў Ніла Сымонавіча, калі якое слова я мо тут падзамяніў: цытую з памяці праз сорак гадоў.)

У хаце быў культ кнігі. Вельмі рана заўважыў я, што бацька, калі я чытаю, ніколі не адрывае мяне ад кнігі да якой-небудзь іншай работы. І пасля я нярэдка злоўжываў гэтым. Бачу, што вось-вось паклічуць мяне нешта рабіць, дык браў у рукі кнігу, і тады работа мяне абмінала.

А пра замілаванне бацькоў да мастацкага слова пасведчыць такое. Прыязджаю неяк у Баранавічы да бацькоў, яны тады жылі ў майго брата Сцяпана. Гадоў ім было каля 80. І яны расказваюць мне: "Вось паглядзі, спадабаўся нам гэты верш Някрасава". Выяўляецца, яны ўжо вывучылі яго на памяць і падабралі матыў, каб спяваць...

**— Пра вашага тату цёпла напісаў у сваіх успамінах Рыгор Барадулін. А што вы маглі б успомніць, напрыклад, пра дзеда?**

— Дзед Міхалка прыгожа расказваў казкі. Штовечар распальваў печку. На каленях у яго грэўся кот. (Награвaўся, між іншым, так, што да шэрсці яго нельга было дакрануцца — такая была гарачая!) А мы, дзятва, акружалі дзеда і з заміраннем сэрца слухалі казкі. А то і розныя апавяданні. І шмат чаму вучыліся.

Напрыклад, дзед расказваў, як ён салдатам быў "у Кітайшчыне". Моцны холад па начах. І салдаты, не маючы паліва, каб сагрэцца, разбівалі драўляныя скрыні, якія стаялі ў полі і ў якіх захоўваліся труны. Палілі гэтыя скрыні. "Але я ніколі не падыходзіў да такога агню", — казаў дзед.

Дарэчы, хочаце — згадаю, як мой дзед гаварыў з апошнім усерасійскім самадзержцам Мікалаем II?

**— Было і такое?**

— Было. У Баранавічах, дзе стаяла іх часць (адбывалася гэта, відаць, у пятнаццатым годзе), паслалі дзеда прыбраць дарожку. Толькі ўзяўся за працу, як ідзе некалькі вайскоўцаў. Стаіць дзед з мятлою. І пярэдні пытаецца ў яго, што ён тут робіць. Дзед яму даверліва адказаў: "Тут будзе ісці сам імператар. І мяне вось паслалі прыбраць..." — "Дык я і ёсць імператар", — прамовіў Мікалай II.

Дзед, вядома, не даў веры. З выгляду так даволі дробны чалавек і ніякай генеральскай формы на ім. І на далікатна-польскі лад запярэчыў яму:

— Пан махлюе. (Вы хлусіце. У нас слова махляваць мае вузкае значэнне хлусіць.)

Цар не зразумеў і ў сваіх вайскоўцаў, што ішлі з ім, перапытаў, што гэта значыць. Адзін з іх пераклаў. Мікалай II тады выняў тры рублі і даў дзеду. Грошы па-царску былі не малыя. Казалі, што даўней можна было за тры рублі купіць карову або справіць вельмі добрыя боты...

**— Так што ад вашага дзеда ўсерасійскі імператар пачуў данейска-навагрудскае значэнне слова махляваць.**

— Ды ўжо ж. Прызнацца, я доўгі час, як лынькоўскі Міколка-паравоз, ставіўся да дзеда і думаў, што гэта выдумкі. Дзе Баранавічы, дзе той Мікалай II! Як ён мог трапіць сюды? Але пасля ўжо, праз дзесяткі гадоў, калі і дзеда не было ў жывых, сустрэў пацверджанні, што Мікалай II сапраўды быў у Баранавічах. Так што дзед не хлусіў, бо, зрэшты, і не ўмеў, хоць і бачыў аднаго разу чорта каля Паляшучковага калодзежа...

**— Дык раскажыце яшчэ пра гэтага цікавага чалавека.**

— Дзеда душыла беззямелле. Паводле бацькавых успамінаў, штогод з ранняй вясны да глыбокай восені дзед не стыкаўся дома, ездзіў у Расію на заробкі, у Забайкалле, дзе тады пракладалася чыгунка, на земляныя работы. Быў моцны сілы. На яго шырокую грабарскую лапату станавіўся чалавек, і дзед мог выкінуць яго наверх з двухметровай ямы...

Плацілі, казаў дзед, на выбар — золатам ці папяровымі грашыма. Дзед заўсёды браў паперкамі, бо везці золата, зазначаў, было б цяжка і нязручна. Збіраў, збіраў грошы, а зямлі прыкупіць так і не паспеў, майму бацьку дастаўся толькі гектар поля — гэта як два прысядзібныя калгасныя ўчасткі. У час рэвалюцыі ўсе дзедавы грошы ляснулі. Ніяк дзед не мог зразумець, што грошы прапалі. "Як можа прапасці праца, калі яна зроблена! Дзе ж яна можа дзецца?.."

Памятаю, аднае зімы ў вайну, калі я хварэў і дужа нудна і маркотна было ляжаць аднаму, бабка прынесла мне скрутак царскіх грошай. Я глядзеў на гэтыя глянцавыя шматкаляровыя паперкі з расійскімі імператарамі, з Кацярынаю II, пакуль дзед не выхапіў іх і рупліва зноў паклаў у бляшаначку. Верыў, што яны яшчэ будуць хадзіць...

**— Вось вы згадалі вайну. Як жа вы перажылі яе?**

— Вайна як бы і абышла нашы Данейкі, не спаліла, не вынішчыла, калі не згадаць маладых хлопцаў, узятых у 1944 годзе ў войска і палеглых пры вызваленні многіх краін Еўропы.

Але ў дзіцячай памяці: фашысты паляць навакольныя вёскі, хай яшчэ і не цалкам, — Малую Сваротву, Вялікую Сваротву, Заполле... Страшны крык: "Немцы!" І, усё кінуўшы, бяжым у лес. Хвіліна тваёй няўвагі ці прыпынку з-за пракалатай аб сучок нагі — і можаш сам-насам астацца сярод тысячы дрэў, не ведаючы, у які бок падацца...

З пагорка 2 мая 1943 года я глядзеў разам з іншымі данейкаўцамі, як палала ад рук фашыстаў Застарынне, дзе было знішчана амаль 400 чалавек. Адна з соцень нашых Хатыняў. У Застарынні згарэла і 10-гадовая дачка маёй настаўніцы.

Для мяне самыя кашмарныя былі ночы. Сніш, што цябе паляць або страляюць па табе, і ты са свайго цела, нібы з гумы, выцiскаеш кулі. Часамі па некалькі разоў на ноч сніш адно і тое ж. І не можаш вызваліцца ад такіх сноў.

Да мае мамы на суцехі прыходзіла часта суседка, сын якой перад вайною паступіў у рамесніцкае вучылішча ў Баранавічах. Прыязджаў у вёску ў форменным абмундзіраванні, якое мне здавалася надзвычай прыгожым. Вёску абегла погаласка: кармілі там тры разы на дзень — і бясплатна! Для ўсіх нас пасля панскай Польшчы падзея незвычайная. А як пачалася вайна, пра хлопца ні слыху, ні духу. Моцна ўбівалася жанчына. Вельмі хацела хоць сасніць сына. Казала, і порткі яго пад падушку клала, і перад тым, як заснуць, думала, думала і ўсяляк яго ўяўляла, а сасніць ані не магла. І мне раптам прыйшло азарэнне. Тое, пра што думаеш, не сасніш. І вось, кладучыся спаць, перабіраю ў думках: немцы схапілі мяне, вядуць расстрэльваць ці вешаць... Перадумаю так і сапраўды нічога гэтага не сасню. Нарэшце выбавіўся ад кашмараў.

Але часам набегаешся за дзень, кінешся ў ложак і забудзешся перабраць у памяці розныя катаванні. І тады зноў прыходзяць кашмары...

Міжволі лаўлю сябе на думцы: а што сёння сняць чачэнскія дзеці?

Наша хата стаяла на канцы вёскі і да нас першых заходзілі партызаны і розныя ўцекачы, а то і немцы.

Памятаю, як у завейную ноч з мястэчка Дварэц з гета ўцякла жанчына з трыма дзецьмі. Адразу ж на кухні завешваем коўдраю акно, каб ніхто не мог падгледзець, дзверы з сянец



*Па цукеркі... З унучкай Вікай і жонкай Зосяй.*

у кухню — на зашчапку, каб ніхто туды не зайшоў, а яўрэйчанят — на цёплую печ.

Яны жывуць у нас, можа, з тыдзень. Мама на "Зінгеры" шые ім цяплейшую вопратку, хочацца дапамагчы, чым можна, а над хатаю завісае яшчэ большы, чым заўсёдны страх, бо калі наскочаць немцы, то ўсім пэўная смерць.

Яўрэйскія дзеці такія чуйныя. Як толькі хто з суседзяў да нас у хату, яны хуценька на печ і сядзяць ціха-ціха, ані шахнуць, нават мама мая дзівілася. А жанчына казала сваю бяду: "Самы меншанькі — хлопчык. Ён жа ў мяне адзін, як жа яго кінуць?.. А старшую не трэба пільнаваць. Яна сама за мною бяжыць і меншых паглядзіць. А сярэдняя дзяўчынка, гляньце ж, вельмі прыгожая. Шкада яе..." А праз нейкі час чуваць: "Цётачка, дайце — я вам чым дапамагу. Дайце, я вам звяжу што-небудзь..." Бярэцца за ніткі, але адразу відаць: не ўмее. А мама ўвесь час яе адгаворвае.

Дзецям усё ахвота гуляць са мною, з хаты ж выйсці нельга. А мне хочацца і па двары пабегаць.

Пры адыходзе іх маці дала ім, што магла, помню, і маё палітко. Тата раіць ім не ісці адразу з нашай больш-менш спакойнай вёскі. Перабыць яшчэ некалькі дзён у суседняй хаце, але не казаць, што былі ў нас, а пасля — у наступнай... Так яны і перахаваліся ў нашай вёсцы да вясны. Далейшы лёс іх невядомы.

**— А як узнікла ў вас замілаванне да паэзіі, літаратуры?**

— Мне ў жыцці неяк шчасціла на людзей. Мой першы настаўнік, партызанскі сувязны Мікалай Мікалаевіч Юшкевіч пісаў вершы, прытым не рытарычныя, а пра сваю вёску, пра Гецаву яму, у якой, прыгнаўшы каровы, купаліся дзеці. Ён адкрываў мне паэзію побач, якая дыхала, гуляла з намі.

А першым жывым паэтам быў Раман Сабаленка, намеснік галоўнага рэдактара баранавіцкай абласной газеты, дзе тады працаваў мой брат. Помняцца і цяпер яго радкі: "Я на чорны рынак не панёс ні сваіх пачуццяў, ні імкненняў..." Або: "Геолаг, геолаг! Паплечнік паэта..." У Сабаленкавай кватэры на кніжнай паліцы я знайшоў у 1947 годзе пражскі зборнік Ларысы Геніюш... Аднойчы я быў запалонены, калі Раман Карпавіч за бяседным сталом амаль усю ноч чытаў на памяць Сяргея Ясеніна. Гэта былі такія непадобныя да тагачаснай паэзіі, дзіўныя вершы. Зборнікі яго тады яшчэ не перавыдаваліся... Помню таксама, як Раман Сабаленка, прыехаўшы ў нашу вёску, ужо пасля не першай чаркі, абдымаў вялізную, шырозную ліпу і праз слёзы замілавання казаў: "І хай мяне назавуць нацыяналістам, я люблю Беларусь". Пасля я ў брата распытваў, што такое нацыяналіст і ці забаронена любіць Беларусь.

**— А як вы ўпершыню надрукаваліся ў Мінску?**

— Першы верш пра каханне быў змешчаны ў "Чырвонай змене" перад паступленнем ва універсітэт. У той жа час была надрукавана і крытычная нататка ў "Літаратуры і мастацтве" пра вольны пераклад К. Сіманавым паэмы Валянціна Таўлая "Таварыш". Тут "хросным бацькам" быў Янка Брыль, перад талентам якога я заўсёды з юнацкім трымценнем... А праз усе студэнцкія гады — вечары з Сяргеем Дзяргаем. Удумлівы паэт і цудоўны, гасцінны чалавек. Але пра гэта трэба пісаць асобны артыкул.

Вельмі шмат дапамог мне ў жыцці Максім Лужанін.

**— Вы сёння з найбольшым стажам супрацоўнік часопіса "Полымя". Як жа трапілі ў рэдакцыю?**

— Прыношу аднаго разу пародыі ў часопіс. Анатоль Вялюгін прабег вачыма і кажа да Танка: "Паслухай, Максіме". Адразу пачалі чытаць і смяяцца. І тут жа вырашылі завесці гумарыстычна-сатырычны раздзел "Дзядоўнік на Парнасе". А Рыгор Шкраба прапанаваў: "Ідзі да мяне літработнікам у аддзел крытыкі".

**— Вы былі, напэўна, на сёмым небе.**

— Я быў самы малады ў рэдакцыі, нават не быў членам Саюза пісьменнікаў і раптам працаваць з такімі класікамі!

Я спяшаўся ў рэдакцыю, як ва універсітэт, штодня ўзбагачаючыся развагамі, роздумам такіх людзей, як Максім Танк, Анатоль Вялюгін, Алесь Бачыла, Рыгор Шкраба, пазней працавалі ў "Полымі" Янка Брыль, Ян Скрыган. Не было дня, каб сюды не заходзіў хто-небудзь з іншых нашых знакамітых пісьменнікаў. А пасля праз пару гадоў прыйшлі ў "Полымя" і мае студэнцкія сябры — Сачанка, Пташнікаў, Чыгрынаў, Стральцоў, Адамчык... Цяпер, калі большасць з іх адышла, я рады з кім-небудзь з іх павітацца хоць бы ў сне.

**— А з кім найбольш вы хацелі б сустрэцца?**

— З Валянцінам Таўлаем, якога ні разу не бачыў, але ў паэзію якога закаханы навечна, захоплены прагаю чалавека да волі... Ва ўсе цяжкія, адказныя хвіліны ратаваўся яго вершамі, яго рытмамі — ці калі хваляваўся перад экзаменамі, ці ў час аперацыі пры мясцовым абязбольванні, калі боль перавышаў мяжу трывання:

*Спачатку было тут вузка*
*і яму і яго вясне.*
*Краты гнуў, надрываючы мускулы, —*
*думаў хлопец: краты сагне...*

І маё сэрца пачынала мерна біцца.

**— Анатоль Канстанцінавіч, Янка Сіпакоў у леташнім інтэрв'ю згадваў, як ён убачыў ваш тэкст з буквара пра пяро і аловак ва ўкраінскім буквары. І я напрыканцы падрыхтавала для вас амаль такую неспадзяванку. Выпадкова праглядала метадычны дапаможнік Анны Чохры і Ірэны Таркоўскай да польскага буквара і на старонках 126 і 202 напаткала вашы загадкі пра хлеб і лесвіцу.**

— Прыемная навіна. Гэта Алесь Барскі гадоў пятнаццаць таму пераклаў для польскага часопіса некалькі маіх загадак.

**— І вось — бачыце — дзве загадкі трапілі ў польскую школу.**

— А я якраз працую над адным падручнікам для беларускіх палякаў. І, між іншым, давайце зробім неспадзяванку і для галоўнага рэдактара, які заказаў гэтае інтэрв'ю.

**— Якую?**

— Я пераклаў на польскую мову яго крылатае чатырохрадкоўе пра марожанае "Як быць?"

*Без марожанага*
*Гіну,*
*А з марожаным —*
*Ангіна.*

Паслухайце, як гучыць яно ў маім польскім перакладзе:

*Gdy jem lody,*
*mam anginę.*
*A bez lodów*
*prawie ginę.*

**— Здаецца, вельмі няблага. Дык поспехаў вам, Анатоль Канстанцінавіч, і ў гэтай новай працы. Сонца ў жыцці вам, здароўя, шчасця!**

— Дзякую, шчыра дзякую.

**P.S.** *Рэдакцыя штотыднёвіка "ЛіМ" шчыра віншуе Анатоля Канстанцінавіча з 65-годдзем з дня нараджэння і зычыць яму моцнага здароўя і творчых поспехаў.*

КНІГАРНЯ

# Покліч абуджанай памяці

"Званы памяці абуджаюць нашу гісторыю такой, якая яна была. І кожны раз кожны з нас чуе ў гэтым перазвоне штосьці сваё: сваю радасць, сваю смуту, сваю тугу, сваю памяць". Гэтыя словы з новай кнігі Леаніда Лабаноўскага "Званы памяці" могуць стаць дэвізам, своеасаблівым эпіграфам да ўсёй дзейнасці гэтага нястомнага рупліўца на ніве вывучэння гісторыі сваёй роднай Краснапольшчыны. Леанід Васільевіч — шырокавядомы і паважаны ў сваім краі чалавек. На яго рахунку не толькі амаль паўстагоддзя выкладання гісторыі і іншых грамадазнаўчых дысцыплін у Краснапольскай сярэдняй школе, але і карпатлівая праца па стварэнні пры ёй багатага і надзвычай цікавага гісторыка-краязнаўчага музея, які ўжо на працягу паўтара дзесяцігоддзяў з'яўляецца важным асяродкам грамадзянскага і нацыянальна-патрыятычнага выхавання вучнёўскай моладзі і насельніцтва раёна. Шмат сіл і творчых намаганняў было аддадзена Л. Лабаноўскім стварэнню пры раённым Доме культуры тэатральнага калектыву, які з аматарскага самадзейнага гуртка вырас да народнага тэатра, што з вялікім поспехам выступаў на сцэнах многіх гарадоў і раёнаў Магілёўшчыны і на Беларускім тэлебачанні.

Разнастайныя матэрыялы Л. Лабаноўскага пра гісторыю Краснапольшчыны, пра славутых землякоў, іх справы часта публікуюцца на старонках раённага, абласнога і рэспубліканскага друку. Нямала зроблена ім і ў такой галіне, як Краснапольшчына літаратурная, у справе захавання памяці і папулярызацыі творчасці пісьменнікаў-краснапальчан — братоў Васіля Шашалевіча, Андрэя Мрыя, Аляксея Пысіна, Міколы Ткачова, Сцяпана Кухарава, Сяргея Анісава і многіх іншых.

Гарачы водгук у сэрцах чытачоў знайшлі ягоныя кнігі "Краснапольская хроніка" (1998), "Пісьмы з фронту" (1999), "На афганскай вайне". І вось нядаўна ў Краснаполлі адбылася прэзентацыя яшчэ адной кнігі Л. Лабаноўскага "Званы памяці" (неабгрунтаваныя палітычныя рэпрэсіі на Краснапольшчыне 20—50-ых гг.). У гэтай даволі вялікай памерам (амаль 10 друкаваных аркушаў) працы аўтарам выяўлены і творча выкарыстаны багаты фактычны матэрыял: афіцыйныя дакументы архіваў і розных дзяржаўных устаноў, успаміны сваякоў і блізкіх, сведчанні відавочцаў, якія расказваюць пра лёс сотняў краснапальчан — сялян-земляробаў, рамеснікаў, настаўнікаў, урачоў, святароў — якія сталі нявіннымі ахвярамі крывавых рэпрэсій. У кожнага з іх было сваё жыццё, клопаты, мары, спадзяванні, што раптоўна абрываліся пагрозлівым начным стукам у дзверы, вобыскам, арыштам і далейшай поўнай безвыходнасцю і невядомасцю...

Пра гэта з горыччу і душэўным болем расказваецца ў асобных аповедах-раздзелах, кожны з якіх успрымаецца як суровае абвінавачанне антынароднаму таталітарнаму рэжыму. Характэрныя ўжо самі назвы "Судзіла тройка...", "Трэба была суцэльная калектывізацыя", "Раскулачванне ў вёсцы Касцягаўка", "Бажковы чакалі расстрэлу", "На Выдранскім спіртзаводзе — "ворагі народа", "Судовы працэс супраць ветурачоў", "Святароў абвінавачвалі ў антысавецкай агітацыі", "Справа краснапольскіх настаўнікаў", "На польскім аддзяленні ЛІФЛІ — трацкісты", "Яго прымусілі нагаварыць на самаго сябе", "За што пакутвалі дзеці?" і іншыя. За кожнай са старонак людскія трагедыі, узноўленыя ярка і дакладна, з прыцягненнем многіх яскравых рэалій, псіхалагічных дэталей і жыццёвых падрабязнасцей.

У кнізе прыводзяцца асобныя малавядомыя звесткі пра беларускіх пісьменнікаў, жыццё або дзейнасць якіх звязана з Краснапольшчынай. Цікавыя і каштоўныя ў гэтым сэнсе ўспаміны настаўніцы Яўгеніі Каплуновай, жыццёвыя дарогі якой у свой час перакрыжоўваліся з біяграфіямі многіх вядомых літаратараў — Васіля Шашалевіча, Платона Галавача, Сяргея Грахоўскага, сяброў па Мінскім педагагічным інстытуце маладых пісьменнікаў і журналістаў Усевалада Шыдлоўскага, Яфіма Га-варушкі, Янкі Валасевіча, Алеся Разно, Міхаіла Плашчынскага, Мітрафана Жукаўца і іншых. Пазней у сібірскай ссылцы лёс зводзіў яе з сёстрамі маршала Тухачэўскага, жонкай Якіра, унучкай Бухарына, сястрой Свярдлова. Чытач знойдзе многія факты, істотныя падрабязнасці пра сям'ю Шашалевічаў, члены якой у 20-я гады самааддана працавалі ў Краснаполлі на ніве народнай асветы і тэатральнай культуры, асабліва драматург Васіль Шашалевіч і ягоны старэйшы брат вядомы празаік Андрэй Мрый. Удакладнены асобныя моманты біяграфіі і творчасці беларускага паэта Сяргея Мурзо, які ў 30-я гады настаўнічаў у Краснаполлі, дзе быў арыштаваны і абвінавачаны ў шпіёнскай і тэрарыстычнай дзейнасці.

Л. Лабаноўскім адшуканы асабовыя справы многіх падвергнутых рэпрэсіям, у якіх маюцца розныя дакладныя звесткі пра гэтых людзей і іх далейшы лёс. Сабраныя матэрыялы, паводле сведчання аўтара, складаюць у гісторыка-краязнаўчым музеі асобны фонд "Палітычныя рэпрэсіі на Краснапольшчыне". Гэта — шэсць тамоў архіўных картак на асуджаных, закатаваных, расстраляных, сасланых жыхароў раёна. Прыведзены ў раздзеле "Вернуты добрыя імёны" пералік грамадзян Краснапольшчыны, неабгрунтавана рэпрэсіраваных у 20—50-я гады, уключае каля 650 прозвішчаў, у тым ліку звыш 500 сялян, вяскоўцаў, калгаснікаў, аднаасобнікаў, 67 рабочых, служачых, 29 настаўнікаў. І гэта толькі тыя, хто па просьбах сваякоў быў афіцыйна рэабілітаваны і дакументальна засведчаны ў 60—80-я гады. А колькі ж іх засталося яшчэ "незапатрабаванымі", а з імі іх сем'яў, жонак, дзяцей, якія так і адышлі ў невядомасць? Названыя ў спісе, магчыма, абудзяць памяць жывых старэйшых землякоў і яны дапоўняць яго імёнамі тых, хто застаўся пакуль па-за ўвагай аўтара "Званоў памяці". Зробленае ім скіроўвае на гэта ўсіх нас, краснапальчан, ураджэнцаў гэтай дарагой нашым сэрцам зямлі, малой радзімы.

**Кузьма ХРОМЧАНКА**

ЧАСОПІСЫ

## "Мастацтва", N 2

"Ці можа акадэмія быць маладой?" — развагі Т. Арловай пра стан спраў у Беларускім дзяржаўным акадэмічным драматычным тэатры імя Я. Коласа. В. Красіцкая ("Прастора і час, увасобленыя ў метале") падрыхтавала матэрыялы з "круглага стала", прысвечанага абмеркаванню праблем сучаснага стану мастацкай металаапрацоўкі. Як была знішчана беларуская нацыянальная эстэтычная школа, адказ на гэтае пытанне ў артыкуле М. Крукоўскага "З гарчычнага зярнятка..." Л. Салавей ("Пацінка") расказвае пра мастачку Р. Сіплевіч. Змешчаны артыкулы І. Паньшынай "Творы І. Ф. Хруцкага ў Польшчы", Л. Вакар "Пра мужыцкасць Фердынанда Рушчыца і шляхетнасць Язэпа Драздовіча, або Пра складнікі беларускай нацыянальнай традыцыі і яе мастацкае ўвасабленне", М. Загідулінай "З глыбінь памяці панямонскай", М. Самалюк "Далёкі нашчадак кінематографа: відэаінсталяцыя", Д. Падбярэзскага "Заяўка на трэцяе тысячагоддзе", В. Пятрова "Мастацтва перформансу", Н. Фральцовай "Разгубленая муза тэлебачання", працяг артыкула В. Угрыновіч "І гліна набывае дух". Н. Сакалоўская ("Патрыярх беларускай музыкі") прадстаўляе "Аўтабіяграфію" М. Чуркіна і ўспаміны пра яго Я. Цікоцкага. Ёсць падборкі "Дыскаграфія", "Хроніка мастацкага жыцця", "Старонкі календара: сакавік 2000".

## "Роднае слова", N 3

Нумар адкрываецца артыкулам Н. Дзянісавай "Аўтарскія пераклады Васіля Быкава". Змешчаны заканчэнне артыкулаў І. Навуменкі "Уладзімір Жылка", Т. Шамякінай "Культура антычнага Рыма", працяг артыкула Л. Выгоннай "Беларуская мова для цікаўных" (таямніцы прынцыпаў арфаграфіі), артыкулы М. Новік "Кветкі Палесся ў еўрапейскім кантэксце" (паводле твораў Л. Дранько-Майсюка), С. Малюковіч "Зорка вечару ясная..." (лірыка паэтаў Францыі), П. Сцяцко "Сучасныя моўныя рэальнасці і праект новай рэдакцыі "Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі", П. Міхайлава "Кланілася кума куму нізенька ў ножкі" (назвы кумоў і хрэснікаў у беларускіх гаворках), Л. Тарасюк "Набліжэнне да Багушэвіча", П. Банцэвіча "Асветніцкая ідэя ў рамане Уладзіміра Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім", Л. Баршчэўскага "Росквіт еўрапейскай літаратуры ў эпоху Адраджэння", часопіс пачаў публікацыю даследавання Р. Стаховіч-Ларчанкі "Буду сніць і днямі і начамі", у якім разглядаецца лірыка кахання М. Багдановіча. "Паэтычная старонка прадстаўлена вершамі В. Шніпа. Друкуюцца таксама вершы Л. Дранько-Майсюка і А. Пысіна.

ПРОЗА

# ТРОЕ Ў НЬЮ-ЙОРКУ

Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ



*Чым было ў гістарычнай перспектыве наша XX стагоддзе? Кім былі мы? Што зразумелі? Сёння пра гэта думаецца асабліва часта, узнік нават намер выказаць свае меркаванні, нешта напісаць. Па прафесіі я крытык, літаратуразнавец, для якога пісаць справа звыклая, але ў гэтым выпадку сказаць тое, што хацелася, у літаратуразнаўчай працы не ўяўлялася магчымым і, прызнаюся, мяне паманіла белетрыстычная форма, тым больш, што, як кажуць, адзін раман можа напісаць кожны, — раман свайго жыцця. Відаць, гэта правільна, таму што, як сказаў паэт, "людей неинтересных в мире нет", жыццё кожнага чалавека па-свойму непаўторнае. Праўда, для гэтага неабходны не толькі шчырасць, але і, я так думаю, павышанае пачуццё самапавагі, нават, у пэўным сэнсе, эгацэнтрызм, што, у сваю чаргу, можа прывесці да страты патрэбнай меры аб'ектыўнасці. І я падумаў пра іншага, аднак вельмі блізкага чалавека — пра свайго дзядулю Лявона Міхайлавіча, ля якога прайшло маё дзяцінства. Чалавек, здавалася б, звычайны, як усе, у гераічных справах не западозраны, які пражыў, дзякуй Богу, не малое жыццё і завяршыў яго на зыходзе 70-х гадоў. У нашай вёсцы яго называлі "амерыканцам", таму што ў маладосці, у пачатку стагоддзя, ён рашыўся на паездку ў далёкую Амерыку, дзеля заробку. Зрэшты, пабываў ён не толькі ў Амерыцы, а шмат дзе яшчэ, ваяваў, быў паранены, выжыў і г.д., пра што я гаварыць тут не буду, — гэта доўгі ланцуг падзей, здарэнняў, сустрэч і перажыванняў. Хачу толькі сказаць, што знешні ланцуг падзей выяўляе ўнутраную, маральную своеасаблівасць гэтага чалавека. Была ўсё ж такі нейкая духоўная дамінанта, якая кіравала яго лёсам, учынкамі, — я б і хацеў яе дашукацца і ў гэтым бачу сваю задачу. Не імкнуся пісаць прыгожа, галоўнае — жыццёвая праўда і дакладнасць.*

*Перад вамі — фрагмент гэтага лёсу, частка, калі хочаце, сямейнай хронікі.*

...НА ДВАЦЦАЦЬ першы дзень плавання, апоўдні, "Santa Maria" ўвайшла ў Гудзонаў заліў. Уперадзе, над морам, паўстала высокая, асветленая сонцам постаць жанчыны з паходняй у паднятай руцэ. Стомленыя амаль трохтыднёвым падарожжам пасажыры выйшлі наверх і са здзіўленнем узіраліся ў яе суровае аблічча.

— Хто гэта?

— Статуя Свабоды, — патлумачыў нехта.

Горад уставаў з вады. Узнімаліся рознай вышыні прамавугольнікі будынкаў, безліч фабрычных трубаў, шматлікія карабельныя мачты. Нью-Йорк, па меры набліжэння, рос, шырыўся на вачах, прамавугольнікі ператвараліся ў хмарачосы. Увайшлі ў порт, які здзівіў мітуснёю і няўрымслівасцю сваіх працоўных рытмаў: вылі сірэны, грымелі якарныя ланцугі, туды-сюды снавалі кацеры. "Santa Maria" падцягнулі да прыстані, спусцілі масткі, і пасажыры сталі выходзіць на амерыканскую зямлю. Людзі не таілі радасці, што нарэшце апынуліся на беразе. Гэта быў востраў Эліс Айленд, з якога пачынаўся Нью-Йорк. Тут знаходзіўся галоўны іміграцыйны пункт ЗША. Далёка не кожнаму шукальніку шчасця ўдавалася адолець гэта "чысцілішча" і трапіць у краіну, якая з'яўлялася мэтаю іх падарожжа. Нездарма Эліс Айленд называлі "востравам слёз".

Пасажыраў "Santa Maria" сустрэлі высокія, аднолькава апранутыя дзецюкі з нейкімі, як падалося прускаўцам, даўбешкамі ў руках. Гэтымі даўбешкамі яны паказвалі ў напрамку шэрых аднапавярховых будынкаў, куды павінен быў кіравацца прыезджы люд. Зайшоўшы ў адзін з такіх будынкаў, пасажыры апынуліся ў распараджэнні чыноўнікаў іміграцыйнай службы і медыцынскіх інспектараў, якія праводзілі апытванні, праверку дакументаў і агляд усіх прыехаўшых. Амерыканскія федэральныя законы 1882—1892 гадоў забаранялі ўезд жабракам, палітычна ненадзейным асобам, хворым, а таксама тым, хто мог быць у цяжар грамадству.

Прускаўцы палахліва азіраліся па баках. Перш за ўсё іх чакаў пашпартны кантроль.

— Пашпарт! — загадаў чыноўнік, нават не глянуўшы, хто перад ім стаіць.

Прускаўцы прад'явілі дакументы, той доўга іх вывучаў, і нарэшце штосьці запісаў у свой гросбух. Лявонка пагледзеў на незнаёмыя словы:

White Russia, — стаяла ў радку.

У Піліпковым куфэрку адляцела зашчапка, і яго прыйшлося звязаць вяроўкай.

— Вы не анархісты? — строга спытаў чыноўнік, аглядаючы ўсіх трох.

Прускаўцы рашуча заматлялі галовамі, адчуўшы сур'ёзнасць гэтага пытання, хоць і не ведалі, адкуль яна, гэтая сур'ёзнасць. Не ведалі, што ахвярай анархіста колькі гадоў назад стаў прэзідэнт Злучаных Штатаў — Мак-Кінлі.

Пытанні і адказы праходзілі праз перакладчыка.

— Чаму пакінулі свой край? — з твару чыноўніка не выходзіў халодны выраз.

— Можа, грошай заробім...

Перакладчык пераклаў. Адказ, відаць, задаволіў мытніка, і ён загадаў прапусціць. Затым імі зацікавіўся чалавек у белым халаце. Лявонку здалося, што іх ён аглядаў асабліва прыдзірліва — адцягваў павекі, узіраўся ў вочы. Трахому шукаў ці якую іншую трасцу... Пасля ўрача іх чакала новая праверка. Мытнік, да якога яны трапілі, сядзеў у незвычайнай позе: ногі задраў на стол і курыў тоўстую чорную папяросу.

— Колькі ў вас грошай пры сабе?

У кожнага з прускаўцаў было па дваццаць даляраў, і гэта задаволіла інспектара. Ён нават падняўся і ляпнуў па плячы нізенькага Піліпка, сказаўшы штосьці па-амерыканску.

— Ты ў Амэрыцы, Амэрыка — лепшая ў свеце краіна! — растлумачыў перакладчык.

І тут прускаўцам давялося стаць сведкамі жахлівай сцэны, якая зрабіла на іх цяжкае ўражанне. У іх спадарожнікаў з-пад Берасця, якія ішлі следам, не аказалася належнай сумы даляраў, каб пачаць жыццё ў Амерыцы. Мытнікі былі няўмольныя. Тут жа падскочылі дзецюкі ў форме і літаральна выштурхнулі людзей з памяшкання.

— Іх назад вяртаюць! — жахнуўся Цімоша.

Землякі спрабавалі нешта даказаць, але дарэмна. Эліс Айленд стаў для іх першым і апошнім пунктам знаходжання на гэтай невядомай зямлі. Хлопцы маўчалі, перажываючы за землякоў. Гэта ж колькі нягод давялося адолець, каб выбрацца ў дарогу і ў самой дарозе. Цяпер трэба было вяртацца...

Драўляныя чамаданчыкі прускаўцаў нікога з мытнікаў не зацікавілі.

З Эліс Айленда яны пераправіліся на бераг і апынуліся на шырокай плошчы з процьмай народу. "Ну, чалавеча, лаві сваё шчасце!" — мільгатнула ў Лявонкавай галаве. Відаць, у гонар прыезджых увесь час іграла музыка, і гэта падбадзёрвала.

— Ого! Тут усё бурліць! — не ўстрымаўся ад захаплення Цімоша.

Ад такога скопішча народу прускаўцам стала не па сабе, і яны адно толькі круцілі галовамі, разглядаючыся па баках. Лявонку здзівіў непрывычны, дзіўны нейкі пах — пах вялікага порта, які перамешвае дух мора і горада. Асабліва ўразілі высокія, у дваццаць і больш паверхаў, дамы, якія акружалі плошчу. Сапраўды, хмарачосы... Піліпко, задраўшы галаву ўверх, непакоіўся: "А што, як каторы паваліцца?.. Задушыць..." Яны глядзелі на свет, як дзеці, шырока адкрыўшы вочы, уражаныя ніколі не бачаным і разгубленыя...

Куды ж падацца? "Там вас сустрэнуць!" — запэўніў дома вербаўшчык. Не відаць нешта, каб сустракалі. Дзе ж спыніцца? На прыстані жыць не будзеш. І на дзядзьку Васіля спадзявацца не даводзілася — невядома, дзе яго знайсці. Сярод натоўпу, праўда, круціліся нейкія ўвішныя, у саламяных капелюшах, постаці, перабягаючы ад адной купкі прыезджых да другой. Адзін з такіх увішных падступіўся да прускаўцаў:

— А вы откудава? — спытаў ён па-руску, — капялюш збіты на патыліцу, на шыі матлялася шырокая, нейкага няпэўнага колеру хустка, штаны ў клетку. Ад нечаканасці прускаўцы ажно падскочылі.

— Так і ёсць — з Расіі! — упэўнена вырашыў незнаёмы, які нечым нагадаў Лявонку камянецкага яўрэя Алту, што гандляваў цялятамі.

— Мы з-пад Берасця! — амаль не крыкнулі прускаўцы, з радасцю пачуўшы знаёмую мову.

— Дык я сам з Польшчы! Рады сустрэць землякоў! Завуць мяне містэр Лейбе Грос! — Чалавек франтавата паправіў капялюш. — Едзем на Іст-Сайд! Будзеце мець ложак і снеданне.

"Яўрэй, напэўна, — падумаў Лявонка, здзіўлена ўглядаючыся ў гэтага вясёлага чалавека, але ж надта непадобны на камянецкіх знаёмых — людзей ціхманых і набожных".

Прускаўцам нічога не заставалася, як згадзіцца.

— Першыя два месяцы я грошай не бяру, — патлумачыў містэр Лейбе.

— А тады?

— А тады па пяць даляраў з чалавека ў тыдзень.

Прускаўцы пераглянуліся паміж сабой.

— Гэта не шмат! — махнуў рукою Лейбе.

Падняўшы куфэркі, усе разам пайшлі па адной з вуліц. Пад нагамі ўсюды цвёрды покрыў, не відаць ні травінкі. Містэр Лейбе ішоў наперадзе. Аблічча людзей, якія траплялі ім насустрач, дыхалі энергіяй і бадзёрасцю. Шмат чарнаскурых. Уражанне было такое, што ўсе некуды спяшаюцца. Лявонка ўвесь час узіраўся ў людскія твары: а раптам Ганнін бацька дзядзька Васіль!

Міма, шырока распырскваючы лужыны, з аглушальным трэскам праімчаўся матор — дзіўнае стварэнне — самаход на чатырох колах. Чорны, як жук. Матораў, аднак, не так і шмат — больш карэт, вазкоў, брычак. На тратуарах стаялі невялічкія цялежкі з малаком у бутэльках, хлебам і іншымі прадуктамі. Прускаўцы пачувалі сябе так, быццам трапілі ў нейкія вялікія жорны, і ходу назад няма. Лявонка ўспомніў нават пра землякоў з-пад Берасця: "Можа, і сапраўды лепш, што вяртаюцца?.." Але містэр Лейбе, усё роўна як ведаў настрой сваіх кліентаў, не даваў маркоціцца:

— Вы павінны быць удзячны ўжо за тое, што вас пусцілі ў Амэрыку!

Прускаўцы маўчалі, уважліва слухалі кожнае слова новага знаёмага, які да таго ж быў амаль што іхнім земляком.

— А якая ваша прафесія? Што вы ўмееце рабіць? — пацікавіўся Лейбе.

— Усё, што спатрэбіцца, — за ўсіх адказаў Лявонка.

— Амэрыка — добрая краіна, толькі тут трэба ўмець уладкавацца, — тлумачыў Лейбе. — Калі пашанцуе, і мільянерам можна стаць!

Яны не ведалі, што такое мільянер, але слухаць земляка было прыемна.

— У нас кожны марыць стаць мільянерам!

Жыццё на нью-йоркскіх вуліцах віравала і пенілася. Крычалі прадаўцы газет. Праносіліся аўтамабілі. Паўсюль валялася шмат рознага смецця. Там-сям проста на тратуары сядзелі негры са шчоткамі ў руках. Размахваючы гэтымі шчоткамі, яны прапаноўвалі прахожым свае паслугі — пачысціць чаравікі. Сярод чысцільшчыкаў шмат дзяцей.

Грукатаў па бруку сваімі вялікімі ботамі Піліпко. Сустрэчныя і асабліва чысцільшчыкі звярталі ўвагу на яго дзіўны абутак. Нейкі падлетак крутнуўся каля Піліпка, і той згледзіць не паспеў, як гэты вісус сарваў з яго галавы прускаўскую шапку-кучомку. Бедны Піліпко кінуў куфэрак, схапіўся за галаву, але было позна ўжо: рабаўнік знік гэтак жа хутка, як аб'явіўся.

— От, халера! — вылаяўся Лявонка. — Дагнаць бы заразу!

— Глядзі, каб боты не знялі, — насмешліва насцярожыў дружбака Цімоша, — бо нешта ўсе яны на іх зіркаюць.

Містэр Грос з абурэннем паківаў галавой.

У гасцініцу містэра Гроса дабіраліся "паветранай дарогай" — на нью-йоркскай электрычцы, якая называлася тут "элевейтэд". Электрычка часам узнімалася ўпоравень з невысокімі дамкамі. Падарожнікаў здзівіла рознакаляровая стракатасць дахаў: зялёныя, сінія, чырвоныя, рудыя — розных фарбаў і адценняў! Бралася ўжо на вечар, калі яны нарэшце сышлі на нейкай станцыі і вузкімі вулачкамі дабраліся да ўладанняў містэра Дайча. Гэта быў прадаўгаваты драўляны дамок няпэўнага колеру з дзесяткам пакойчыкаў па абодва бакі доўгага калідора.

— Вось ваш пакой, — сказаў гаспадар, шырокім жэстам запрашаючы новых пастаяльцаў, — ложкі выбірайце самі. Будзеце забяспечаны снеданнем. За снеданне асобная плата.

— А за абед?

Лейбе пасміхнуўся:

— Вяртацца сюды на абед у вас не будзе часу.

Прускаўцы здзіўлена паглядзелі на гаспадара. Містэр Лейбе падняў угору палец:

— Заўтра прыйдуць...

— Хто прыйдзе? — раскрыў рот Піліпко.

— Ну, наймаць вас на работу.

Прускаўцы ўзрадаваліся.

— З работай не так проста, — пацмокаў языком містэр Лейбе, — цяпер тут крызіс, нават карэнныя амерыканцы не могуць дастаць работы... Але, я думаю, пашанцуе! Тым, хто спыняецца ў мяне, заўсёды шанцуе. А пакуль што адпачывайце! З дарогі трэба адпачыць, — з гэтымі словамі Лейбе выйшаў.

Лявонка выбраў ложак ля акна, сеў на яго. Цімоша з Піліпком атабарыліся побач. Пакой быў даволі вялікі і ўвесь застаўлены ложкамі. У кутку стаяла печка. Ракавіна з халоднай вадой знаходзілася тут жа, у пакоі. На акне — гаршчочкі з кветкамі.

— Што, хлопцы? Відаць, дадому трэба напісаць, каб не думалі... — устрывожыўся Лявонка.

— Паспеецца... — стрымаў яго Цімоша. — Давай крыху перакусім.

Хлопцы адчынілі свае куфэркі, дасталі рэшткі сала, сухары, нацадзілі з крана вады (паказаў Лейбе), склалі ўсё разам і пачалі вячэраць.

— Трэба, мусіць, дзядзьку Васіля шукаць, — сказаў Лявонка.

— Дзе ж ты яго ў такім мурашніку знойдзеш? — усумніўся Піліпко. — Як іголку ў стозе сена.

— Ёсць жа адрас.

— Заўтра ж прыйдуць на работу наймаць, а дзядзьку Васіля і потым пашукаем, — разважыў Цімоша.

Стомленыя, яны распрануліся і паклаліся спаць.

Крызіс 1907 года ў Амерыцы ўзмацніў беспрацоўе і голад. Працу цяжка было знайсці. Але прускаўскім хлопцам пашанцавала. Цімоша адразу ж уладкаваўся ў рэстаран мыць посуд.

— Там хоць галодны не будзеш! — падтрымалі яго сябры.

Піліпка ўзялі падносчыкам у магазін адзення. Яго справа — упакаваць куплены тавар, скласці ў карзіну, памагчы паднесці. Праз тыдзень ён і Цімоша пахваліліся заробленымі грашыма: дзесяць даляраў!

Лявонку не шчасціла: яго ніхто нікуды не браў. Дзядзькі Васіля па ўказаным адрасе не аказалася — перамяніў, відаць, і кватэру, і работу. Лепшую, можа, знайшоў. У яго ж пакуль што не было ніякай. "Таму, відаць, што малы ростам ды і з выгляду малады надта... — з трывогай думаў Кужаль. — Але Піліпко яшчэ меншы за мяне, а ўзялі, працуе..." Ён хадзіў у розныя месцы, але безвынікова. Вечарам тлумачыў сябрам і гаспадару:

*(Працяг на стар. 12)*

*Поўнасцю з творам можна пазнаёміцца ў трэцім, чацвёртым, пятым нумарах часопіса "Маладосць".*

## Усе формы бясконцасці

Мастацкая крытыка — таксама мастацтва, тонкае і даволі рэдкаснае. Крытыка-творцу пазнаеш па некалькіх радках: ці то ў лаканічнай газетнай нататцы, ці то ў навуковым зборніку пад бранёю калянай вокладкі. Тыя радкі, нават калі яны справакуюць тваю рашучую нязгоду, не дазволяць спыніцца, прымусяць дачытаць — у цікай захопленасці ўмельствам, штукарствам, дасведчанасцю, талентам аўтара. З такіх вось "чытэльных" аўтараў — і Юлія Чурко, непаўторная ў сваім унікальным для беларускага культурніцкага асяроддзя амплуа балетнага крытыка, спецыяліста ў розных сферах мастацтва танца.

Да яе шматлікіх, і заўсёды неардынарных, публікацый у перыёдыцы, да яе вядомых кніг дадалося новае выданне: "Линия, уходящая в бесконечность". Метафара назвы адлюстроўвае адвечны і няспынны працэс пошуку новых выразных магчымасцяў, уласцівы прыродзе сцэнічнага танцавальнага мастацтва ва ўсіх яго формах. Дарэчы, пра тры асноўныя з гэтых формаў і вядзецца размова на старонках кнігі: народная харэаграфія, танец-мадэрн, балет адмыслова вядуць "лінію ў бясконцасць".

Праца Ю. Чурко пабачыла свет дзякуючы выдавецтву "Полымя" (рэдактар В. Лучанок) і фінансавай дапамозе з фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы культуры і мастацтва. Кніга прывабна аформлена (мастак Р. Кондрад), з мноствам фотаілюстрацый. Бадай, галоўнае — яе лагічная, але не дагматычная, сур'ёзная і акрыленая творчай лёгкасцю "рэжысёрская" канцэпцыя. Тры асноўныя раздзелы складаюцца з больш ці менш аўтаномных артыкулаў або нарысаў, з мудрай сціпласцю пазначаных аўтарам як "суб'ектыўныя нататкі пра сучасную харэаграфію". Зрэшты, "Лінія..." нагадвае дзівосную жывую істоту, якую цяжка "раскласці па палічках". Юлія Чурко (хаця і доктар мастацтвазнаўства, хаця і прафесар, і акадэмік, і лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, і заслужаны дзеяч мастацтваў) пазбягае замкнёных межаў рацыянальнага і навукападобнага аналізу. Не саромеецца уласных эмоцый, прыхільнасцяў. Дае волю палемічным думкам, дасціпным назіранням. Сур'ёзны, інфарматыўна насычаны матэрыял "прыпраўляе" трапнымі вобразнымі апісаннямі, вострымі заўвагамі.

"Разгерметызацыя" постсавецкага мастацтва паспрыяла тым, хто пра мастацтва піша: яны часцей уключаюць з'явы айчыннай культуры ў кантэкст сусветных працэсаў, нязмушана параўноўваюць, тонка супастаўляюць адметнасці почырку, пошуку, сцэнічнага выніку працы творчых асоб у розных краінах. Яны смела ўзіраюцца ў аблічча мастакоў, узгадаваных у пэўных сацыяльных умовах і надзеленых рознай мерай таленту. Вось і ў кнізе Ю. Чурко — прывабная шырыня і свежасць позірку на творчасць і творцаў, падмацаваная энцыклапедычнай дасведчанасцю.

Аўтар не абмінае супярэчнасцяў працэсу развіцця народна-сцэнічнай харэаграфіі, праблем трансфармацыі фальклору на самадзейнай і прафесійнай сцэнах. З цікавасцю і захоплена піша пра самабытную постаць Ларысы Сімаковіч, якая праз творчасць знанай "Госьціцы" паяднала старажытныя формы беларускага фальклору з танцам мадэрн.

Зразумела, харэаграфія мадэрна разглядаецца ў асобным раздзеле. Тут знойдзеш і маляўнічае апісанне постмадэрніцкай версіі класічнай "Жызелі", і гісторыю нараджэння мадэрн-танца на Захадзе, і панараму яго распаўсюджвання на прасторах СНД. І — творчы партрэт Яўгена Панфілава, чый тэатр нашы суайчыннікі адкрылі для сябе найперш дзякуючы Міжнароднаму фестывалю сучаснай харэаграфіі ў Віцебску.

Раздзел, прысвечаны балету, уражвае двума нарысамі. Герой першага — лідэр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Беларусі, якім шчыра, клапатліва, захоплена і патрабавальна апекавалася Ю. Чурко з першых яго творчых крокаў ("Трагедыі ды казкі Валянціна Елізар'ева"). Герой другога — прызнаны геній сучаснага балетнага мастацтва Расіі Барыс Эйфман. Не пабаяўшыся мажлівых папрокаў у нястрыманасці, Ю. Чурко піша шчодрым пяром, і "Узыходжанне Эйфмана" ўспрымаецца як "кніга ў кнізе". За тое і дзякуй: далёка не ў кожнага ёсць магчымасць паглядзець яго спектаклі нават на відэа, ну, а Ю. Чурко валодае рэдкасным дарам "вербальнай рэканструкцыі" сцэнічнага відовішча.

Новае выданне, бадай, не варта трактаваць як нейкую кропку ў спасціжэнні развіцця трох формаў сцэнічнага танцавальнага мастацтва напярэдадні новай эры. Гэта нават не шматкроп'е. Гэта проста яшчэ адна форма лініі, што мкне ў бясконцасць. Будзе новы паварот лініі, новы паварот думкі — будзе новае слова крытыка.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

ВЫСТАВЫ

# "Іспанская партыя" беларускіх мастакоў

***Удзельнікі выставы "Іспанская партыя", што адкрылася і, на жаль, вельмі хутка закрылася ў Музеі сучаснага мастацтва, людзі сур'ёзныя. Але выстава, якую яны прыдумалі і здзейснілі, аказалася нетрадыцыйнай і правакуючай на развагі.***



Ідэя, якая нарадзілася ў Руслана Вашкевіча і Міхаіла Нацэўскага, была больш глабальнай, датычылася абгрунтавання і абагульнення сусветнай мастацкай спадчыны і меркавала заняць экспазіцыяй галерэю Нацыянальнага мастацкага музея. Але праз пэўны час мастакі зразумелі, што такую "глыбу" адразу не адолець і спыніліся на Іспаніі.

Чаму Іспанія? Гэта краіна парадоксаў, жывых, яркіх, выбуховых колераў, сакавітасці, сонца, краіна мастацкіх пошукаў. Сусвету Іспанія дала шмат вядомых імёнаў, кожнае з якіх абагульняла напрамак, стварыла плынь у мастацтве. Яны "прысутнічаюць" у экспазіцыі — Эль Грэка, Веласкес, Сурбаран, Гоя, Гаудзі, Пікаса, Далі, Міро. У творчасці кожнага з іх шукалася тая своеасаблівасць, якая была б характэрна іспанцам і зразумелая адначасова беларусам. Бо нягледзячы на адлегласці часу, прастору паміж нашымі краінамі, нас уражваюць і эфекты незямнога свячэння колераў Эль Грэка, і сціплыя нацюрморты Францыска Сурбарана, і прыгажосць жаночага цела "аголеных махаў" Францыска Гоі, і кубістычныя фантазіі Пабла Пікаса, і метад "спантаннага пісьма", падобнага на каракулі дзіцяці, Хуана Міро, і сюррэалістычныя сны Сальвадора Далі.

Адкрыццё праекта было адзначана таксама "вынасам" дзяўчыны-"махі" (на жаль, у астатнім Гоя аказаўся "пакрыўджаным" у экспазіцыі) і "прысутнасцю" выдатнага іспанскага паэта Гарсіа Лоркі ў выкананні яго тых твораў акцёрамі віцебскага Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа. Яны паказалі драматычнае прадстаўленне "Сны Андалузіі" — фрагмент п'есы "Йерма" (рэжысёр — А. Грышкевіч, харэограф — В. Дзмітрыева). Шкада, што само прадстаўленне здолелі пабачыць толькі першыя шэрагі гледачоў. Неймаверная колькасць прыйшоўшых на адкрыццё, стала як перамогай аўтараў выставы, так і іх пралікам, бо згубілася не толькі задуманае ўздзеянне відовішча, але як у багне патанулі гукі гітары і спевы вялікага хору. Выратавала незакамплексаванасць, неакадэмічнасць самой экспазіцыі, якая дазваляла любыя зрухі і перамены. Таму натуральным стала гучнае абурэнне на адкрыцці адказнага за супрацьпажарную бяспеку музея на запаленыя свечкі і штандарт Пушкіна, павешаны дужа блізка да лямпаў на століі, і шэрагі крэслаў, якія дадалі экспазіцыі "хатні" элемент (асабліва, калі мне давялося наступным днём сутыкнуцца з пастцюю заснуўшага ня іх чалавека...).

Мастакі па-свойму ахарактарызавалі прычыны ўзнікнення "іспанскага капрызу". Паперш, як закон прыцяжэння супрацьлегласцяў, калі шэрасць і сырасць патрабуюць агню, тэмпераменту. Па-другое, падсвядомая падобнасць такіх знешне непадобных культур, некаторых фактаў нашых гісторый, што глыбей параўнання кшталту "іспанцы і беларусы — дзве самыя партызанскія нацыі ў Еўропе". Сэнс выкарыстання слова партыя таксама быў невыпадковы. Партыя — гэта група аб'яднаных агульнымі інтарэсамі людзей. На выставе кожны "ішоў" да сваёй Іспаніі сам-насам. Амаль усе працы былі задуманы незалежна адна ад адной, таму і варыянты разумення "іспанскай тэмы" такія розныя. Партыя — гэта і сэнс гульні паміж партнёрамі. Справа ў тым, што гэту выставу можна назваць першай рэплікай з беларускага боку праз час і прастору. Мусіць будзе і адказ. Ён меўся быць і зараз, на гэтай выставе. У Нацыянальным мастацкім музеі тымі днямі павінен быў распачацца вялікі праект выставы Хуана Міро. Але, на жаль, яго перанеслі. Таму аўтары выставы мяркуюць паўтарыць свой праект яшчэ раз у зале Беларускага таварыства дружбы падчас экспанавання ў маі выставы Міро. Тым больш хлопцы спадзяюцца, што іх экспазіцыю ў такім выпадку пабачаць іспанскія госці і здолеюць ацаніць яе больш глыбока, знутры.

Экспазіцыя выставы не вымагае ў гледача вялікай падрыхтаванасці, але перадумоўлівае веданне канкрэтыкі — творчасці іспанскіх класікаў. Для тых жа, хто далёкі ад мастацтва, складзена другая частка экспазіцыі, дзе ў дасціпнай, але неабцяжаранай тэрміналогіяй манеры падаецца творчасць знакамітых іспанцаў. Але экспазіцыю варта ўспрымаць як гульню на матывы іспанскага мастацтва, як эксперымент. Многія з работ пісаліся спецыяльна да выставы і вымяраліся па экспазіцыйнай прасторы. Напрыклад, вялізнае палатно Міхаіла Нацэўскага "Assomption de Vierge" — фантазія па творчасці Эль Грэка. Але некаторыя з твораў даўно задуманыя і пражытыя мастакамі. Кубі-

МУЗЫКА

# Назавём яго асветнікам...

***Асветнікам зазвычай называюць чалавека, які распаўсюджвае перадавыя ідэі і веды. Гэта — паводле кніжнага вызначэння. А яшчэ добрае слова "асветнік" мае сэнсавае адценне "светач", "сьвяцільнік розуму".***

Віталя Радзіёнава іначай як асветнікам не назавеш. Гэты чалавек аддае ўсё сваё жыццё мастацкай творчасці і падтрымцы маладых талентаў. На Беларусі ён вядомы перш за ўсё як педагог. Больш за чвэрць стагоддзя ён вучыць выхаванцаў дзіцячых музычных школ Гродзеншчыны складаць музыку. Ён проста апантаны ідэяй, каб усе таленавітыя дзеці і падлеткі пазнаёміліся з асновамі кампазіцыі.

Вучні Радзіёнава, стаўшы больш дарослымі, працягваюць адукацыю, актыўна займаюцца творчасцю. Дарэчы, сярод іх — Андрэй Бандарэнка, Яўген Паплаўскі, Валеры Жывалеўскі, Уладзімір Захараў, Мікалай Калешка, Ніна Ролік...

Андрэй Бандарэнка — аўтар оперы "Князь Наваградскі", за якую ўзнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі. Заснаваў Гродзенскую гарадскую капэлу. А цяпер плённа працуе ў галіне праваслаўнай харавой музыкі.

Яўген Паплаўскі — адзін з арганізатараў і першы дырэктар Нацыянальнага тэатральна-канцэртнага аб'яднання "Беларуская Капэла", якая нястомна займаецца адраджэннем культурнай спадчыны. Яму ўдалося плённа папрацаваць у бібліятэках замежжа, вярнуць на Беларусь сёе-тое з не запатрабаванай дасюль творчай спадчыны некаторых дзеячаў культуры. Сам ён актыўна працуе ў розных музычных жанрах.

Валеры Жывалеўскі — дацэнт Беларускай акадэміі музыкі. Ён слушна лічыцца лідэрам беларускай гітарнай школы, а яго творы для гітары адзначаны тонкім мастацкім густам і ўзвышанасцю пачуцця. Дарэчы, вядомыя гітарысты, лаўрэаты міжнародных конкурсаў Уладзімір Захараў і Дзяніс Асімовіч, якія жывуць у Гродне, — таксама вучні В. Радзіёнава. Іх творы для гітары ўжо выдадзены ў Італіі і Польшчы.

Лідчанка Дзінара Мазітава ў свае 14 гадоў ужо неаднаразова станавілася лаўрэатам міжнародных конкурсаў маладых кампазітараў у Санкт-Пецярбурзе, Маскве, Мінску і Гродне. Яе творчы багаж — дзесяткі песень і рамансаў, сотні фартэпіянных мініяцюр, оперы "Кветкі пад дажджом" і "Чарадзейная флейта", балеты "Дзюймовачка" і "Торт у небе". Яе адкрыў і выхаваў Віталь Радзіёнаў.

Гэта, зразумела, далёка не поўны пералік яго выхаванцаў. Мноства іншых музыкантаў, пакуль юных і ўжо масцітых, далучаліся да творчасці ў класе кампазіцыі Віталя Радзіёнава, а сёння працягваюць шлях у прафесію на якасна новым узроўні.

У 1994 годзе Віталь Канстанцінавіч быў абраны старшынёй Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны, і з таго часу яго працоўны графік гранічна ўшчыльніўся. Ён арганізоўвае аўтарскія канцэрты, прадстаўляе творы гродзенскіх кампазітараў на радыё і тэлебачанні, спрыяе выданню нотных зборнікаў, выпуску аўдыёкасет. І да кожнага творцы ў яго індывідуальны падыход, кожнаму ён дае трапныя парады і рэкамендацыі, зыходзячы з дакладнага разумення асаблівасцяў музычнага дару.

Ён падтрымлівае і кампазітараў-землякоў, якія працуюць у песенным жанры: Мар-



ка Копа, Аляксандра Чопчыца, Аляксандра Маркелава, Алену Пячыніну, Вячаслава Пыпеца, Ігара Кумпеля. Пастаянна кансультуе аўтараў камернай і харавой музыкі: Вераніку Швец, Станіслава Гулецкага, Сяргея Бугасава, Аляксандра Шашкова. Вядома, у прыватнасці, што менавіта Радзіёнаў паспрыяў, каб фартэпіянныя цыклы Веранікі Швец прагучалі на сцэне сталічнай філармоніі і ў нацыянальным радыёэфіры.

А як не згадаць яшчэ адну сферу дзейнасці Віталя Радзіёнава — арганізацыю ўсемагчымых творчых конкурсаў! Менавіта

стычная серыя Аляксея Шалімы пісалася ім год дзесяць таму для, так бы мовіць, "хатняга" карыстання і яе "лабараторнасць" надае ёй сапраўдную шчырасць. Сам Аляксей сёння адышоў ад сучасных форм жывапісу і стала, на жаль, займаецца капіраваннем класікаў у музеях. Штандар Алеся Пушкіна на тэму творчасці Хуана Міро таксама сямігадовай даўніны і ствараўся да святкавання 100-годдзя мастака ў Віцебску. Нечакана непрэтэнцыёзна ўпісаліся ў агульную прастору і вёдры Артура Клінава, якія прадстаўляюць партрэт сям'і Карла I з серыі "Пяцьдзесят шэдэўраў сусветнага мастацтва". Фёдар Драгун, выкладчык архітэктурнага аддзялення Беларускага політэхнічнага інстытута, прысвяціў свае творы мастацтву Гаудзі. Найбольшую ж частку экспазіцыі складаюць жывапісныя серыі Руслана Вашкевіча, які пераасэнсаваннем і гульнёй з класічнымі формамі займаецца даўно. У экспазіцыі прадстаўлены "Дзяўчынка на шары наадварот", "Штудыі па Веласкесу", "Раман з Веласкесам", "Нацюрморт Сурбарана".

Нароўні з работамі беларускіх мастакоў у экспазіцыі выконваюць сваю ролю і канапа, і стол з раскіданымі паштоўкамі, і крэслы, і бягучы радок рэкламы, і шматлікія згарэлыя свечкі, і супрацьпажарная рыдлёўка... Усё гэта праваkye вобраз Іспаніі.

"Новае мастацтва развіваецца складана, у выглядзе эксперыментаў, памылак, адчайных спробаў, — распавёў Руслан Вашкевіч. — На адкрыцці выставы ў нас пыталіся, няўжо няма нічога цікавейшага за погляд назад? Але ж калі Іспанія — мінулае, то што тады будучае? Зараз няма патрэбы ў мастацтве вынаходзіць веласіпед. Варта проста пераглядзець створанае папярэднікамі і знайсці сябе... Мы рызыкнулі. Сёння многа прафесійных мастакоў, але зусім мала мастакоўскай ініцыятывы. І гэта прывяло да таго, што на выставу прынесцца выпадковыя творы, і замест зладжанай экспазіцыі атрымліваецца нейкая салянка. Перабярые ў памяці, ці многа выставаў запомнілася за апошні час? Мы вырашылі папрацаваць з прасторай, з аб'ёмамі, стварылі працаёмістыя, шматмерныя рэчы, вялікія аб'екты, каб у гледачоў выбіць з-пад ног жаданне філасофстваваць. Гэта выстава задумвалася як раздражняльнік. Так яе і ўспрымайце".

На закрыцці выставы мастакі ўсё-ткі здзейснілі сваю задуму: на канапе ляжала сярод экспанатаў аголеная дзяўчына ў класічнай позе гераінь Гоі. Гэта стала апошняй кропкай свята, якая натуральна ўпісалася ў правілы гульні, што абралі мастакі. Дый сама выстава стала спробай асэнсаваць сябе ў прасторы сусвету. І мастацкая смеласць, і разняволенасць у адносінах да класікі засведчылі сталасць новага беларускага мастацтва.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

*Фота М. ПРУПАСА.*

---

ён быў ля вытокаў спаборніцтва юных кампазітараў Гродзенскай вобласці ў 1979 абласнога конкурсу юных выканаўцаў "Новыя імёны" ў 1993 г., раённага конкурсу юных выканаўцаў імя Канстанціна Горскага ў Лідзе (1996 г.), Міжнароднага конкурсу юных і маладых кампазітараў "Надзея", прысвечанага Максіму Багдановічу, у Гродне (1992 г.), конкурсу кампазітараў Гродзеншчыны (1999 г.).

І не трэба думаць, што гэта былі разовыя, аднойчы "праведзеныя мерапрыемствы". Напрыклад, конкурс "Надзея" адбыўся пяць разоў, на яго прыязджала кампазітарская моладзь не толькі з Беларусі, а і з Расіі, Украіны. У яго рамках была прадстаўлена практычна ўся палітра музычнага мастацтва: ад песні да оперы і сімфоніі. Тут упершыню з'явіліся перад слухачамі бліскучыя таленты, з якімі, несумненна, звязана будучыня музычнай культуры.

Асветнік... Зноў успамінаецца гэта слова, калі спрабуеш уявіць, колькі музычных з'яў і падзей адлюстравалася ў друку, дзякуючы В. Радзіёнаву. Яго публікацыі пра музыку ў раённых, абласных і рэспубліканскіх газетах, у тым ліку і ў "ЛіМе", склалі зборнік, які рыхтуецца да выдання Гродзенскім абласным метадычным цэнтрам народнай творчасці. Зборнік будзе называцца "Гродзеншчына музычная" і прадставіць адметны летапіс культурнага жыцця вобласці ў канцы XX стагоддзя (1984—2000 гг.).

Чытач "апынецца" ў галерэі творчых партрэтаў выканаўцаў, педагогаў, кампазітараў; пачуе ўсхваляваны голас чалавека, які не мог заставацца абыякавым да яшчэ не вырашаных праблем музычнага жыцця. І — досыць падрабязна пазнаёміцца з выкладчыцкай ды асветніцкай дзейнасцю Віталя Радзіёнава, які ўнёс значны ўклад у развіццё музычнай культуры Прынёманскага краю.

**Аляксандр РАМАНАЎ**

*г. Гродна*

---

ТВОРЦА

# Пакутлівы шлях да прызнання

***У лютым 1994 года на пасяджэнні Магілёўскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны абмяркоўвалася пытанне ўжывання беларускай мовы ў грамадстве. Шукаліся адпаведныя, ненавязлівыя формы, каб людзі пераконваліся, што толькі з роднай мовай можна выжыць, мець стасункі з суседзямі, выпрацоўваць у іх спаважлівыя адносіны да сябе і да нашай культуры.***



На жаль, Магілёўскі абласны драматычны тэатр не з'яўляецца асяродкам беларускасці — ён рускамоўны. Тады і ўзнікла ідэя стварыць свой беларускамоўны самадзейны тэатр, узначаліць які было прапанавана сябру рады, заслужанаму дзеячу культуры Беларусі Валянціну Ермаловічу. Асновай новай тэатральнай групы сталі студэнты філфака тады Магілёўскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. Куляшова разам з дэканам Я. Клімуцём. З цягам часу далучыліся прадстаўнікі згуртавання "Машэка" І. Пушкін і Т. Крукоўская, разам з якімі В. Ермаловіч раней ажыццявіў некалькі масавых прадстаўленняў.

У тым годзе было надрукавана апавяданне Васіля Быкава "На Чорных лядах". В. Ермаловіч прапанаваў ажыццявіць яго пастаноўку. Ён сам напісаў сцэнарый, даўшы падзагаловак "Перадсмяротныя маналогі". Першыя рэпетыцыі ішлі даволі цяжка — у акцёраў зусім не было вопыту. Было відавочна, што на сцэне мала руху, няма дзеяння, і асноўным статыка. Тым не меней, справа пасоўвалася, год напружанай працы даў плён, і 26 лістапада 1994 года адбылася прэм'ера.

Акцёрам удалося перадаць драматызм падзей, безвыходнасць, у якую патрапілі апошнія ўдзельнікі вядомага Слуцкага збройнага чыну. Яны, каб не даць падстаў чэкістам для пераследу родзічаў, прымаюць рашэнне скончыць жыццё самагубствам.

Першы поспех акрыліў акцёраў, надаў упэўненасці. Выказалася жаданне звярнуцца да пастановак твораў камедыйных, якія асабліва прыхільна ўспрымаюцца гледачом. Летам 1995 года адбылася прэм'ера спектакля па творах Л. Родзевіча. Спектакль патрабаваў ад беларусаў глянуць на сябе, падумаць, чаму ў іх дрэнна ладзіцца гаспадарка, чаму яны ўвесь час на ўскрайку жыцця. Палітычныя лозунгі і дэкларацыі звычайна адыходзяць на другі план, калі небяспека датычыць уласнай хаты і дабрабыту. І гэта трэба зразумець, каб не быць папіхачамі ў свеце, даводзіў рэжысёр. Гэты спектакль ішоў пад агульнай назвай "І смех, і грэх, і на плач забірае".

Спектакль "Пан Міністр" па камедыі Ф. Аляхновіча быў пастаўлены ў лютым 1996 года. Поспех гэтага спектакля яшчэ раз падкрэсліў, што магчымасці тэатра вялікія, патэнцыял да астатку не выкарыстоўваецца, трэба, значыць, шукаць новых магчымасцяў для самавыяўлення!

Тады ж зарадзілася ідэя стварыць пры тэатры студыю аднаго акцёра. Гэта было ўласнае пачынанне рэжысёра В. Ермаловіча. Галоўны цяжар ён узяў на сябе, абавязаўся зрабіць два спектаклі. З далучэннем выкладчыцы Магілёўскага вучылішча культуры Л. Кузьменкі з'явіліся спектаклі "Жыціе Еўфрасінні Полацкай", "Полымя кахання" па драматычнай паэме Л. Рублеўскай (Л. Кузьменка), "Чаго жыў?", кампазіцыя па творах А. Дударава, "Новая зямля" (В. Ермаловіч). Эфект ад спектакляў быў ашаламляльны. Людзі з заміраннем дыхання слухалі споведзь жанчыны, якая хацела даць людзям дабро, спакой, любасць. Л. Кузьменка здолела пераканаць, што Еўфрасіння Полацкая пайшла ў манахіні не з нейкіх кар'ерысцкіх заахвочванняў, а менавіта з-за клопату пра бліжняга, пра братоў і сёстраў сваіх. Вялікую ролю тут адыграў і прафесіяналізм актрысы.

Тэатр станавіўся вядомым у горадзе. Запас спектакляў даў магчымасць прыняць удзел у тэатральным фестывалі пад назвай "Тэатральная восень-96". З 25 па 30 лістапада 1996 года ў гарадскім доме адпачынку і вольнага часу былі паказаны спектаклі: "Таленты з глыбінь" Я. Янкоўскага, "Юбілей" А. Чэхава, "Жыцце Еўфрасінні Полацкай", "І смех, і грэх, і плач забірае" Л. Родзевіча, "Салдат і яго жонка" М. Гарэцкага, "Чаго жыў?" А. Дударава, "Новая зямля" Я. Коласа, "Пан Міністр" Ф. Аляхновіча. Гэтыя спектаклі, новыя рэпетыцыі далі падставы прэтэндаваць на званне народнага тэатра. У 1997 годзе прадстаўнічая камісія прыняла рашэнне аб хадайніцтве прысуджэння тэатру-студыі звання народнага. На калегіі міністэрства вырашылі станоўча.

На працягу гэтага, значнага для тэатра, года былі падрыхтаваныя і пастаўленыя на сцэне Магілёўскага ГЦКіВЧ тры спектаклі. У сакавіку ў Доме літаратара да 100-годдзя Васіля Шашалевіча быў прадстаўлены даволі вялікі ўрывак з драмы пісьменніка "Сімфонія гневу". Ролі выконвалі В. Ермаловіч, Я. Клімуць, Т. і І. Пушкіны. Пастаноўка выклікала ўхвалу прафесіяналаў: пра той вечар апублікаваны артыкул у часопісе "Тэатральная творчасць".

Акрамя таго, былі падрыхтаваны і поўнаметражныя, як кажуць, спектаклі. За працу над камедыяй К. Крапівы "Хто смяецца апошнім" браліся з поўнай перасцярогай. Усё ж в'еса вядомая ў пастаноўцы прафесійных тэатраў. Тым не менш, за работу ўзяліся з натхненнем. На працягу трох месяцаў падрыхтавалі прэм'еру. У маі 1997 года спектакль быў прадстаўлены гледачу. Крытыкі адзначалі прафесіяналізм самадзейных акцёраў. Гэта і дало падставы для пастаноўкі гэтага спектакля на сцэне абласнога драматычнага тэатра ў час правядзення тэатральнай дэкады.

Напружаным для калектыву Народнага тэатра-студыі стаў і 1998 год. Па ініцыятыве гарадскога Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны было вырашана адзначыць выдатныя юбілеі ў гісторыі і культуры Беларусі: 190 гадоў з дня нараджэння В. Дуніна-Марцінкевіча, 160 гадоў — К. Каліноўскага і 135 гадоў з часу паўстання на Беларусі. Пасля абмеркавання вырашана было правесці вечарыну ў адзін дзень — 25 сакавіка. Першае аддзяленне імпрэзы склала літаратурна-мастацкая частка, другое — спектакль па вадэвілі В. Дуніна-Марцінкевіча "Пінская шляхта".

Артысты не імкнуліся рассмяшыць гледача, але іх ігра захапіла залу. Цудоўна раскрываў характар чыноўніка-авантурыста В. Ермаловіч, дасканала выявіў якасці чыноўніка-прыслужніка і афэрыста І. Пушкін, добра прадставіў абмежаванасць засцянковай шляхты М. Бацэвіч, а іх самахвальства — Я. Клімуць. Адзначу, што В. Ермаловіч — працаўнік дублёраў у спектаклі. Ён лічыць, што адчуванне гатовай замены расхалоджвае артыста, не дае магчымасці раскрыць талент, іграць з поўнай аддачай, выкладваца на рэпетыцыях.

Тэатр паставіў перад сабой задачу: не замыкацца ў адным драматургічным жанры. Таму поруч з камедыйнымі творамі калектывам рыхтаваліся і драматычна-псіхалагічныя спектаклі. Напрыклад, у красавіку 1998 года адбылася прэм'ера спектакля па п'есах М. Карпечанкі "Ёй хацелася жыць" і "Першы пацалунак" пра сучаснае жыццё моладзі.

Калектыў тэатра неаднаразова выказваў думку, што ў рэпертуары павінны быць творы класікаў беларускай літаратуры з Магілёўшчыны. В. Ермаловіч разам з загадчыкам літаратурнай часткі Я. Клімуцем падабралі для пастаноўкі творы Максіма Гарэцкага. Спыніліся на аднаактоўках "Салдат і яго жонка" і "Свецкі чалавек". Яшчэ раней была задума ўвасобіць на сцэне драму "Антон". Рэпетыцыі ішлі цяжка, твор надзвычай складаны, не было рэквізіту, каб перадаць трагізм беларускай вёскі.Таму на сцэне В. Ермаловіч зрабіў кампазіцыю пад назвай "Стогны душы", куды да згаданых аднаактовак далучыліся ўрыўкі з драмы "Антон".

1998 год для тэатра закончыўся вялікай вечарынай, прысвечанай 200-годдзю Адама Міцкевіча. Як звычайна, у такіх выпадках гучалі вершы паэта на беларускай і польскай мовах, барды С. Кулягін, І. Рабянок-Мухін выконвалі песні на словы А. Міцкевіча. У заключэнне акцёры народнага тэатра прадставілі на суд гледачу спектакль "Дзяды" (III карціна) у пастаноўцы В. Ермаловіча. Гэты спектакль з поспехам прайшоў і ў Музеі Бялыніцкага-Бірулі, дзе праводзіў сваё чарговае пасяджэнне клуб інтэлігенцыі Магілёва, у школах і бібліятэках.

Наступіў час прызнання. За афішамі глядач ужо сачыў. Таму новая прэм'ера па п'есе У. Рудава "Камедыя пра нешчаслівага селяніна, яго жонку Маланку, жыда Давіда і чорта, які страціў сэнс існавання", што адбылася 27 сакавіка 1999 года, стала сапраўднай падзеяй у горадзе. Твор напісаны па матывах "Камедыі" Каятана Марашэўскага і "Птушкі шчасця" Францішка Аляхновіча.

Летась упершыню ў ролі рэжысёра выступіў М. Бацэвіч. Ён аднавіў пастаноўку вадэвіля Л. Родзевіча "Збянтэжаны Саўка" і паставіў спектакль па вадэвілі Янкі Купалы "Прымакі".

У той жа час у тэатры ішлі рэпетыцыі спектакля па сацыяльна-палітычнай камедыі М. Матукоўскага "Калізей". У камедыі паказваецца няўдалае дзяржаўнае кіраўніцтва ў нейкай "Тутэміі".

Бяздарны дыктатар Праведыр (А. Буркін) трымае ў страху свой народ, але і сам усяго баіцца, бо ведае, што даверу народ да галечы. Ён шукае выйсця, але не знаходзіць. На дапамогу яму прыходзіць Галоўны Жрэц (У. Бяляцкі), які і раіць, каб паднясць прэстыж Праведыра ў народзе, зрабіць фіктыўны пераварот, дзе ахвярай павінен быць сам дыктатар. Яго, як трагічную асобу, вызваленую з лапаў змоўшчыкаў, і павінен палюбіць народ. Кіраўніком гэтага закалоту прызначаецца Ваенны Міністр (І. Пушкін). Пра гэта дакведваецца Ундзіна, жонка Міністра (Р. Ануфрыева) і спрабуе папярэдзіць Праведыра. Актыўным удзельнікам становіцца рэзідэнт разведкі суседняй дзяржавы Путана (П. Пушкіна) і контрразведчык Артур (М. Паддубскі).

Спектакль атрымаўся феерычным, займальным і даволі надзённым. Гэтая акалічнасць, дарэчы, і затурбавала мясцовае начальства.

У канцы года тэатральнаму калектыву прапанавалі прыняць удзел у Міжнародным фестывалі самадзейных драматычных тэатраў які праводзіўся ў Слуцку. На конкурс вырашана было прадставіць камедыю У. Рудава. У студзені 2000 года за гэтую пастаноўку тэатральнаму калектыву быў прысуджаны дыплом 1-й ступені, адзначаны як лепшы выканаўца мужчынскай ролі М. Бацэвіч. Прыйшло запрашэнне прыняць удзел у падобным фестывалі ў Літве, які адбудзецца летам гэтага года.

Да такога прызнання шлях быў калі і не надта доўгім, то даволі пакутлівым: праз расчараванні і сумненні, здабыткі і страты. Аднак калектыў умацаваўся, яму пад сілу пастаноўкі розных жанраў. Рэпетыцыі працягваюцца, значыць, будуць і новыя сустрэчы з гледачом.

**Радаслаў ПАНКА**

*г. Магілёў*

*На здымку: Валянцін Ермаловіч у монаспектаклі "Новая зямля".*

## Давяраючы факту

РАСЦІСЛАВУ ПЛАТОНАВУ — 70



**У шэрагу сучасных айчынных гісторыкаў, якія па-новаму асэнсоўваюць падзеі нацыянальнай даўніны, прымаюць актыўныя намаганні, каб менела "белых плям", адно з першых месц належыць доктару гістарычных навук, прафесару Расціславу Платонаву. Асабліва шмат робіць ён па вывучэнні тых падзей, што тычацца мінуўшчыны параўнальна нядаўняй, а калі канкрэтна — 20—30-х гадоў. І нязменна прытрымліваецца як мага больш аб'ектыўнага погляду. І, як правіла, выносіць у шырокі ўжытак матэрыялы, якія дагэтуль былі не вядомы даследчыкам, не кажучы пра тое, што звычайны чытач нават не мог здагадвацца пра іх існаванне. А яшчэ, што асабліва важна, Р. Платонаў, даючы ацэнку тагачасным падзеям і з'явам, найперш давярае самім дакументам, з'яўляючыся прыхільнікам канкрэтнага факта, разумеючы, што нішто так шмат ні гаворыць, як тое, што было ў свой час засведчана пісьмова. Таму і атрымліваецца так, што Р. Платонаў давярае факту, а мы, чытачы, не можам не давяраць яму самому. Падобны аўтарытэт даследчыка для яго невыпадковы. Р. Платонаў прайшоў доўгі жыццёвы і навуковы шлях.**

**Родам Расціслаў Пятровіч з горада Слуцка. У 1955 годзе скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, знаходзіўся на журналісцкай, камсамольскай, партыйнай, выкладчыцкай рабоце ў Мінскай вобласці і сталіцы рэспублікі. У 1963 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю. Загадваў кафедрай у Мінскім дзяржаўным педагагічным інстытуце замежных моў, з'яўляўся сакратаром Мінскага абласнога камітэта партыі, а ў верасні 1980 года быў прызначаны дырэктарам Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ (з 1990 года — Інстытут гісторыка-палітычных даследаванняў). У 1982 годзе абараніў дысертацыю на атрыманне навуковай ступені доктара гістарычных навук. З 1992 года Р. Платонаў быў вядучым, а з 1995-га — галоўным навуковым супрацоўнікам Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы. Цяпер — намеснік дырэктара гэтай аўтарытэтнай навукова-даследчыцкай установы. Акрамя таго, Расціслаў Пятровіч з'яўляецца членам спецыялізаванага савета па абароне кандыдацкіх дысертацый па гістарыяграфіі, крыніцазнаўстве і методыцы гістарычных даследаванняў у згаданым інстытуце, членам рэдакцыйнай калегіі навукова-тэарэтычнага часопіса "Архівы і справаводства", старшынёй Археаграфічнай камісіі Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводстве Рэспублікі Беларусь. А нядаўна, у студзені сёлетняга года зацверджаны галоўным рэдактарам "Беларускага археаграфічнага штогодніка".**

**Вельмі шмат Р. Платонаў зрабіў па даследаванні палітычнай гісторыі Беларусі савецкага перыяду, барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны, станаўлення і развіцця беларускай дзяржаўнасці. На даследчыцкім рахунку Расціслава Пятровіча да 350 артыкулаў, у тым ліку публікацыі на балгарскай, славацкай і польскай мовах. Ён аўтар, сааўтар, навуковы рэдактар, старшыня рэдакцыйных калегій 50 кніг, у тым ліку 15 манаграфічных і навукова-папулярных. Асаблівы рэзананс мелі кнігі Р. Платонава "Ідэі. Палітыкі. Лёсы", "Лёсы", "На крутым павароце. Ідэолага-палітычная барацьба на Беларусі ў 1929—1931 гг.". У 1999 годзе Расціслаў Пятровіч завяршыў яшчэ два вялікія дакументальна-аналітычныя даследаванні: "Палітычнае і духоўнае жыццё на Беларусі ў другой палове 1920-х гадоў: тэндэнцыі развіцця" і "1941 год: вядомае і невядомае (адлюстраванне ў матэрыялах НАРБ)". Пад яго кіраўніцтвам да друку падрыхтавана даведачнае выданне "Вышэйшыя органы дзяржаўнай улады і цэнтральнага кіравання БССР (1965—1991 гг.)".**

**Віншуем Расціслава Пятровіча, нашага даўняга і актыўнага аўтара, з юбілеем! Зычым яму і надалей знаходзіцца ў актыўным жыццёвым і даследчыцкім страі!**

УГОДКІ

# Творы, якім верыш

## Аляксею КАРПЮКУ СПОЎНІЛАСЯ б 80...

Жыццё Аляксея Нічыпаравіча было багатым на падзеі і даводзілася яму праходзіць праз розныя выпрабаванні. Яшчэ ў 1934 годзе, калі меў за плячыма ўсяго чатырнаццаць гадоў, трапіў пад суд за тое, што хацеў нелегальна перайсці з буржуазнай Польшчы ў Савецкі Саюз, дзе, быў перакананы, усе жывуць шчасліва. У час Вялікай Айчыннай вайны неаднойчы глядзеў у вочы смерці, уваходзячы ў склад падпольнай дыверсійнай групы. Пры выкананні аднаго з заданняў быў арыштаваны і адпраўлены ў беластоцкую турму, з якой трапіў у фашысцкі канцлагер Штутгоф. Адтуль удалося цудам уцячы ў 1943 годзе, каб прадоўжыць партызанскую барацьбу. Арганізаваў і ўзначаліў атрад імя Кастуся Каліноўскага, а пасля з войскамі рэгулярнай арміі дайшоў да Варшавы і Берліна.

Ды і ў мірны час А. Карпюку нясоладка жылося. З-за прынцыповасці, з-за няўмення прыстасоўвацца, з-за пастаяннага жадання гаварыць праўду ў вочы, не зважаючы на чыны. Аднак самы цяжкі і каварны ўдар атрымаў на схіле жыцця, калі знайшліся ахвочыя публічна абвінавачваць яго ў неіснуючых грахах, ставіць пад сумненне актыўны ўдзел у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, папракаць ледзь не ў здрадзе.

І хоць памёр Аляксей Нічыпаравіч з-за адной з самых страшных сёння хвароб, міжволі думаецца, а ці не подласць, несправядлівасць звялі яго ў магілу? Нездарма ж кажуць: усе хваробы ад нерваў. А нервы А. Карпюка пастаянна выпрабоўвалі, тыя, каму ён не баяўся гаварыць праўду ў вочы і з кім пастаянна змагаўся.

Пры гэтым, як і ўсе, з'яўляўся сынам свайго часу. Пацвярджэнне таму і прызнанне, што прагучала ў аўтабіяграфіі А. Карпюка "Мая Джамалунгма", упершыню апублікаванай у часопісе "Маладосць" ў 1965 годзе: "Для чаго чалавек жыве? Мабыць, для барацьбы за праўду. У мой век праўда знаходзіцца ў вялікіх ідэях камунізму, я за іх змагаўся, як толькі мог". І, як многія, калі прыйшлі змены ў грамадскім жыцці, пачаў спешна адмаўляцца ад сваіх поглядаў. І ў нечым, мабыць, перабіраў меру, верачы тым, каму — з-за сумленнасці, праўдалюбства — наўрад ці паверыў бы, калі б ведаў, які сапраўдны іх твар.

Аднак пра любога пісьменніка чытач мяркуе ў першую чаргу па яго творах. І тут смела можна сказаць, што творы А. Карпюка такія, што з цікавасцю можна чытаць і сёння. Зразумела, часам знаходзіш у іх і тое, што аўтар сёння наўрад ці падаў бы так, як рабіў у час напісання іх. Але прываблівае асноўная пазіцыя аўтара, тое, што патрапляе пад такія паняцці, як творчыя прынцыпы, мастацкая задума і яе ўвасабленне.

Да месца спаслацца на такое выказванне слыннага нашага крытыка і літаратуразнаўцы Серафіма Андраюка, які найбольш глыбока адчуў і зразумеў творчасць А. Карпюка: "Карпюк... піша заўсёды пра тое, што так ці інакш звязана з яго асабістым лёсам, з лёсам блізкіх яму людзей. Творы вылучаюцца моцнай насычанасцю рэальнымі, жыццёвымі фактамі. У іх грунтоўная аўтабіяграфічная (найчасцей) або дакументальная аснова, па-мастацку як бы непрыхаваная, выяўленая адкрыта. Часам нават быццам знарок падкрэсленая. Пісьменнік заўсёды (выключэнні — зусім рэдкія) непасрэдна сам прысутнічае ў творы, ён не хаваецца ад чытача за "падстаўных асоб" (сваіх герояў), не ўтойвае асабістых адносін да таго, пра што піша, — людзей, фактаў. Схільнасць да аўтабіяграфічна-дакументальнай жыццёвай напоўненасці твораў арганічна спалучаецца з непасрэдна-адкрытай, шчырай манерай апавядання — то рамантычна-лірычнай, то стрымана-дакладнай, публіцыстычнай. Прытым адкрытасць і шчырасць — рэзка выражаныя, недыпламатычныя як бы. Творам Карпюка верыш. З ім можна часам не пагаджацца, можна штосьці адмаўляць, але не верыць нельга. Да таго ж абгрунтаванасці сваёй пазіцыі, у сцвярджэнні сваіх думак аўтар паслядоўны, упарты, палемічны".

Адным словам, у творах сваіх А. Карпюк заставаўся такім, як і ў жыцці. І творы гэтыя былі як бы працягам жыцця, але той плыні яго, якая найбольш прыцягальная. Цікавымі людзьмі. Значнымі падзеямі. Праблемамі, вартымі ўвагі. І гэта добра відаць, пачынаючы з твораў, што ўвайшлі ў першую кнігу А. Карпюка "Дзве сасны", якая пабачыла свет у 1958 годзе. А вядомасць Аляксей Нічыпаравіч атрымаў дзякуючы аповесці "Данута". Гэты твор хораша прагучаў і быў прыхільна сустрэты не толькі ў арыгінале, але і ў перакладзе на рускую, украінскую, латышскую, польскую і чэшскую мовы.



Уяўленне аб адметнасці таленту А. Карпюка дапаўняюць такія яго кнігі, як "Пушчанская адысея", "Вершалінскі рай", "Свежая рыба", "Сучасны канфлікт" (у 1986 годзе адзначана Літаратурнай прэміяй імя Івана Мележа), "Карані" і іншыя. Розныя жыццёвыя пласты ўзнімаюцца ў творах, што ўвайшлі ў іх. Гэта і падзеі Вялікай Айчыннай вайны, і больш даўнія, і наша сучаснасць. Аднак пра што б ні пісаў А. Карпюк, ён не забываўся, што ў кожным творы аўтар не можа заставацца староннім асобай, як бы звычайнымназіральнікам таго, што адбываецца. Таму такая адчувальная прысутнасць яго. Асабліва ў творах, напісаных у апошнія гады жыцця пісьменніка (для прыкладу, у рамане "Карані").

Сапраўды: гэта творы, якім верыш. У тым і прывабнасць апісанага А. Карпюком, зямны шлях якога абарваўся 14 ліпеня 1992 года, а жыццё ў літаратуры працягваецца.

**А. АН-ЕВІЧ**

# ТРОЕ Ў НЬЮ-ЙОРКУ

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

— Спазніўся і на гэты раз. Каб крыху раней, а так ужо заняў нейкі чалавек...

Містэр Грос, які не пераставаў апекавацца сваімі пастаяльцамі, параіў:

— Тут ёсць спецыяльнае бюро іміграцыі і натуралізацыі, якое займаецца такімі людзьмі, як ты. Схадзі туды.

Лявонка ўжо быў і галаву апусціў. Містэр Грос гэта бачыў.

— Keep smiling! — сказаў гаспадар і дадаў: — Так гавораць у Амэрыцы. Гэта значыць: заўсёды ўсміхайся, нават калі табе цяжка.

Тут і сапраўды больш за ўсё цанілі вясёлы нораў і незалежнасць. Лявонка падаўся ў тое бюро, куды яго настрэнчыў містэр Лейбе. Яно знаходзілася на 21-й авеню, і пrускавец хутка яго знайшоў. У зручным крэсле, бокам да акенца, сядзеў чалавек без пінжака, у адной камізэльцы, паклаўшы ногі на стол. Цяпер гэта ўжо не здзіўляла. Чалавек маленькімі нажнічкамі падпраўляў пазногці на пальцах. Зірнуўшы на новага кліента, паклікаў перакладчыка.

— А што ты ўмееш? — запытаў праз перакладчыка.

Што ён умеў? Араць, касіць, сеяць...

— Вам трэба ў іншы штат.

Перакладчык пераклаў. У думках Лявонка ўжо быў гатовы да такога кроку, але...

— Перш, чым ехаць, я хацеў бы зарабіць трохі грошай, каб мець на што ехаць, — растлумачыў ён.

Выслухаўшы адказ у перакладзе, чыноўнік перастаў абразаць пазногці, апусціў ногі на падлогу, парыўся ў паперах.

— Ёсць тут адно месца, — сказаў ён таксама праз перакладчыка, — пакуль што вакантнае. Мыць вокны.

— Вокны мыць? — перапытаў Лявонка ў перакладчыка і падумаў: "У нас жа гэта жанчыны робяць. Перад Паскай. Прыехаў у Амэрыку, каб мыць вокны? У Прусцы засмяюць... Ды і што там заробіш — на тых вокнах? Зрэшты, мые ж Цімоша посуд. Чаму ж вокны нельга мыць?"

— Ну, як?

Давялося згадзіцца.

— Гэта непадалёку, — перакладчык назваў адрас, і Лявонка, падзякаваўшы, тут жа пайшоў.

Гэта быў вядомы многім дом на 23-й авеню, які меў дваццаць восем паверхаў. У ім размяшчаўся салідны гатэль. Навічка накіравалі ў падвал, дзе месціліся гаспадарчыя службы. Падалося, што там нават узрадаваліся яго прыходу. Адразу ж атрымаў рабочае месца і адзенне — камбінезон з шырокім брызентавым поясам, швабру і вядро. Назаўтра трэба было пачынаць.

— Ну што? — спыталі Цімоша з Пілiпком, калі вечарам вярнуліся з працы.

— Тое-сёе як быццам абяцалі. Вокны мыць маю.

— Вокны? — са здзіўленнем перапытаў Цімошка. — Няўжо?

Піліпко таксама быў здзіўлены:

— Няўжо іх мыюць?

Лявонка нічога не адказаў.

На працу ён пабег з самай раніцы. Пераапрануўся ў камбінезон, напусціў у вядро вады і з дапамогай майстра-сантэхніка зрабіў мыльны раствор. Майстар тлумачыў больш рукамі і мімікай, чым словамі. Абавязкі акнамыя не такія ўжо і складаныя, але і іх трэба ўмець выконваць.

— Well?

Прускавец кіўнуў галавой і апрануў, як вучыў майстар, камбінезон. Спачатку трэба было вымыць унутраны бок акна, потым знешні. Майстар паказаў, як гэта робіцца. Да пояса камбінезона прымацаваны дзве скураныя шлейкі з крукамі, якія чапляліся за ўмураваныя ў сцяну дома тоўстыя жалезныя скобы і ўтрымлівалі мыйшчыка ў паветры. Пачалі з першага паверха. Падняўшы ніжнюю шыбіну, Лявонка асцярожна, каб не сарвацца, стаў каленьмі на падаконнік і, трымаючыся адной рукой за раму, другой пачапіўся крукамі за скобы.

— О'кей! — сказаў майстар і пайшоў па сваіх справах.

Пачалася праца. Ступіўшы нагамі на карніз, хлопец нацягваў шлеі і асцярожна завісаў у паветры, браў у рукі швабру, макаў яе ў вядро з мыльнай вадой, шураваў па шыбіне, затым выціраў шкло сухой анучай і, нарэшце, канчаткова праціраў кавалкам замшы. Шыбіны ззялі святочным бляскам. Пасля гэтага акнамый вяртаўся ў памяшканне, зачыняў вымытае акно і браўся за наступнае.

"Добра, што вазонаў з кветкамі на вокнах не трымаюць, — думалася пры гэтым, — а то нязручна было б праз падаконнік пералазіць. Раптам зачапіў бы нагой, ды той вазон зваліўся з дваццатага паверха каму-небудзь на галаву".

Кожны паверх узносіў яго вышэй і вышэй, усё больш аддаляючы ад зямлі. Не жартачкі, дваццаць восем паверхаў! Папярэднік Лявонкі, як потым ён даведаўся, сарваўся з дваццаць першага. Спачатку ў Лявонкі кружылася галава, здавалася, што пад напорам ветру хістаецца, і ўсё з большым размахам, сам будынак, пагражаючы скінуць яго з падаконнага карніза. Людзі ўнізе выглядалі мурашамі. Сэрца падпірала пад самае горла і ўтрапёна калацілася, гатовае выскачыць з грудзей. У нагах з'яўлялася здрадлівая няўпэўненасць. Адольвала слабасць, ногі дрыжэлі, рабіліся як не свае. Не ставала зямной апоры. Успомнілася чамусьці Вавілонская вежа, пра якую некалі ў Камянецкім вучылішчы (як даўно гэта было!) расказваў айцец Нікадзім: "Хмар дасягнула і ўпёрлася ў неба..." Але як дрэнна ўсё скончылася! Гэты хмарачос — тая самая вежа...

Непадалёку стаяла яшчэ некалькі дамоў, амаль такіх жа высокіх, вокны якіх таксама мыла чыясьці швабра. Не адзін ён такі! І побач з панылымі настроямі ў свядомасці нечакана прачнулася як бы супрацьлеглая думка:

"Гэта твая работа, і ніхто яе за цябе не выканае. Прывыкай! Але ці магчыма загартаваць волю так, каб не баяцца?"

Адчуваў, як на руках і нагах цвярдзеюць мускулы і ўвесь ён становіцца цяжкім і шчыльным. Норма ў яго — сорак вокан за дзень. З верхніх паверхаў далёка відаць. Амаль у цэнтры Нью-Йорка вялікімі купінкамі дрэў зелянеў цэнтральны парк. На поўнач ад горада віднеўся лес. Калі ён мыў вокны з паўднёвага боку і паднімаўся на чатырнаццаты паверх, то бачыў удалечыні шырокі абсяг акіяна — таго, па якім нядаўна плыў на "Santa Maria".

Заканчваўся кастрычнік, але надвор'е стаяла вельмі цёплае, і ўдзень, і ўночы, — не такое, як у Прусцы, дзе ў гэты час ноччу ўжо пракідаліся замаразкі. А тут і свяціла і грэла гарачае сонца. Лявонка глядзеў знізу на сваю работу — вокны ззялі чысцінёй, і яму было прыемна. Успамінаў Ганну: "Эх, каб яна ўгледзела мяне тут... Там, пэўна, нават і не ўяўляюць, чым я тут займаюся. Ці каб дзядуля Кірыла ўбачыў, як я тут на гэтых вяроўчынах матляюся, от бы здзівіўся!"

У суботу ён атрымаў зробленыя за тыдзень грошы, разлічыўся з гаспадаром — містэрам Лейбам. Вечарам выпіў куфаль піва. Больш сабе не дазволіў — работа патрабавала здаровай галавы і незамутнёнай развагі. Ноччу бачыў сон: нябаскроб разгайдала так, што, здавалася, крукі вось-вось вырвуцца з петляў і ён паляціць уніз, у бездань вуліцы, заціснутай, як калодзеж, паміж гэтымі высознымі дамамі. А потым прыснілася Ганна...

## “Калібры” — птушка незвычайная

У вёсцы Вістычы Брэсцкага раёна ўжо пяць год працуе дзіцячая студыя пад назвай “Калібры”. Узначальвае яе Аляксандр Лазерка — самадзейны мастак і майстра. Нарадзіўся ён на Міншчыне, жыў і працаваў у Барысаве. Пераехаўшы на Брэсцкую зямлю, адразу стварыў студыю, якая арганічна аб'ядноўвае розныя віды мастацтва (жывапіс, графіка, скульптура, мастацкае слова, відэа).

У студыі займаецца 25 дзяцей рознага ўзросту. Студыйцы не толькі займаюцца практычна, але і знаёмяцца з гісторыяй мастацтва, біяграфіямі вядомых творцаў і майстроў народнай творчасці, рэпрадукцыямі сусветных шэдэўраў. Раз у тыдзень праводзяцца ўрокі, на якіх дзеці перадаюць на паперы свае пачуцці, выкліканыя музыкай.

Студыя “Калібры” неаднаразова прымала ўдзел у рэспубліканскіх і абласных выставах, плённая праца выхаванцаў адзначалася дыпломамі. Неардынарна праходзіць адкрыццё выстаў, дзеці дэманструюць не толькі свае мастацкія творы, але і тэатральныя, музычныя здольнасці. У 99-ым годзе ў абласным грамадска-культурным цэнтры яны паказалі спектакль “Не — абыякавасці”. А сцэнарыі такіх міні-спектакляў піша сам кіраўнік. Хочацца верыць, што і яго выхаванцы вырастуць сапраўднымі творчымі асобамі — з арыгінальным мысленнем і палётам фантазіі. Згадзіцеся, эстэтычны цэнтр у вёсцы — з'ява не такая частая... Так што гэтай маленечкай птушцы можна пажадаць толькі шырокага размаху крылаў.

Галіна ЗІНКЕВІЧ

## Да чаго ж вясною хочацца спяваць

Ад афішаў у падземных пераходах стракаціць уваччу. Тут прапаноўваюцца квіткі на канцэрты пераважна расійскіх (радзей — беларускіх) зорак, на тэатральныя імпрэзы, гумарыстычныя вечарыны. Адным словам — на ўсе густы.

У Палацы культуры Трактарнага завода спявалі дзве цудоўныя жанчыны, два барды, Вольга Залеская і Алена Казанцава. І стварылі такую цёплую да шчымлівасці, лірычную да самотнасці атмасферу, што нават тыя, хто чуў іх упершыню, расчуліліся і вельмі зацікавіліся. А даўнія прыхільнікі ўвесь час прасілі выканаць песні, што даўно палюбіліся. Значыць, памятаюць людзі, слухаюць, ім гэтыя песні патрэбныя...

У фае бойка ішоў продаж альбомаў спявачак, а таксама касет бардаў, якія даўно працуюць у замежжы: Марка Мермана, Міхаіла Валодзіна. Колькі часу ўжо няма творчага аб'яднання “Аллея АП”, а слухачы не забылі яе творцаў, не разлюбілі. Тыя, што засталіся на радзіме, выступаюць нячаста. Вользе Залескай у гэтым пашанцавала: яна сама працуе на радыё “РОКС” аўтаркай праграмы пра бардаўскую песню “На кухні з Вольгай Залескай”.

Такім чынам, іранічная, але заўсёды самотная Алена і моцная, ды пяшчотная Вольга — абедзве па-жаноцку мудрыя — стварылі настрой, свята. І абяцалі канцэрты яшчэ.

Вольга ЛАШКЕВІЧ

## Творчасць новага стагоддзя

З 20 па 22 красавіка ў Мінску пад патранажам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, Беларускага саюза кампазітараў і Беларускага аўтарскага фонду кампазітараў упершыню пройдзе фестываль “Мінская вясна-2000”. Ён прысвечаны творчасці маладых кампазітараў, сярод якіх — і студэнты кафедры кампазіцыі, музыказнаўцы БАМ.

У праграме фестывалю:

— два канцэрты камернай музыкі: 20 красавіка — а 18 гадзіне ў памяшканні Музычнай школы N 10 (Энгельса, 1); 21 красавіка — таксама а 18 гадзіне ў памяшканні Музычнай гасцёўні Рэспубліканскага каледжа пры Акадэміі музыкі (пл. Свабоды, 7);

— навуковая канферэнцыя “Музычная творчасць і XXI стагоддзе” — 21 красавіка, а дзесятай гадзіне ў памяшканні Беларускага саюза кампазітараў (пл. Свабоды, 5);

— “круглы стол” — 22 красавіка, апоўдні ў памяшканні Беларускага саюза кампазітараў;

— майстаркласы дацэнта Літоўскай акадэміі музыкі доктара мастацтвазнаўства Рымантаса Янялякскаса — апоўдні ў памяшканні Беларускага саюза кампазітараў (пл. Свабоды, 5).

Г. САСНОЎСКІ

# Быў час, быў век, была эпоха

Ніл ГІЛЕВІЧ

### СТАРОНКІ З БУДУЧАЙ КНІГІ

### ПРА ПАЭТА ЛЫСАГОРСКАГА

Чытаў, што і са многімі здараецца так, як са мною: прычэпіцца з раніцы якая-небудзь упадабаная мелодыя — і не адпускае цэлага паўдня, а часам і да вечара. Або не мелодыя, а нейкія паэтычныя радкі. І зноў жа — на ўвесь дзень ці, прынамсі, на некалькі гадзін. А тады сыдуць — і ўжо больш не вяртаюцца. У наступны раз прычэпяцца ўжо нейкія іншыя.

А ёсць радкі, якія пастаянна і досыць часта ажываюць у маёй памяці на працягу ўсяго жыцця. Вяртаюцца і вяртаюцца, — няпрошана, нечакана, самі сабой раптам, у якісь момант, уваскрэснуць у душы і пачынаюць гучаць. Чаму — не ведаю; што ў іх такое ёсць, якая магічная сіла, што зноў і зноў прымушае паўтараць іх, — не разумею. Тым больш, што і радкі не Бог ведае якой вобразнай яркасці, да таго ж — і не на маёй роднай мове.

***Весь мир прошел я в буре и огне,***
***Но Ляхия была моей судьбою...***

Было мне гадоў чатырнаццаць, калі я прачытаў іх упершыню. Дзесь у канцы 1945-га ці ў пачатку 1946-га, не пазней. Помню, як аднойчы бацька, Сымон Пятровіч, які, між іншага, любіў чытаць паэзію, прывёз з Лагойска тоненькую, маленькага фармату кніжачку “Песнь о Матери”, з партрэтам аўтара на вокладцы, пад якім значылася, што выдадзена гэтая “Песнь” у Маскве, у “Бібліятэцы “Огонёк”, у 1942 годзе. На тым пасляваенным бяскніжжы для мяне гэта была не абы-якая падзея: ого, новая кніга ў хаце! І я схапіў яе і ўсеўся каля газнічкі, каб тут жа “праглынуць”. На тытульнай старонцы мяне ўразіў радок: “Пераклад з ляшскай”. З ляшскай? А што — ёсць такая мова? Чаму я не чуў ніколі? Чуў, што ляхамі называлі калісьці палякаў. Дык, можа, гэта з польскай?

Заінтрыгаваны, пачаў чытаць прадмову, і заінтрыгаваўся яшчэ больш. Адкрылася мне, што сапраўды ёсць у Еўропе такі край, такая зямля — Ляхія, і што знаходзіцца яна там, дзе горы Бескіды — са славутаю Лысай Гарою, дзе гарады Рацібор, Цешын і Мараўская Астрава... Уразіла і вобразнае параўнанне Ляшскага краю з невялікім пакоем, у якім чатыры акны — па адным у кожнай сцяне: адно выходзіць у Чэхію, другое — у Германію, трэцяе — у Славакію, чацвёртае — у Польшчу. З той жа прадмовы я даведаўся, што ляшскага народу — каля паўтара мільёна чалавек, што ляшская мова блізкая да чэшскай, славацкай і польскай, што аўтар “Песни о Матери” — першы, хто пачаў пісаць на ёй мастацкія творы і стаў заснавальнікам ляшскай літаратурнай мовы. Цікаўнасць мая да мапы свету была ў той час незвычайнай, і адкрыццё яшчэ адной краіны і аднаго народа ў Еўропе было багатым падарункам той маёй геаграфічнай цікаўнасці. Дык, значыць, ёсць такая зямля — Ляхія, і такая мова ёсць, і на ёй пішуцца вершы, і выдаюцца кнігі!..

А затым пачаў чытаць паэму “Песнь о Матери”. Уся кніжачка складалася з адной гэтай паэмы.

***Когда вернусь на холм надгробный твой,***
***О чьих могилах вспомню я в печали,***
***Тебе вручив, как цвет и плод живой,***
***Те песни, что в скитаньях отзвучали?***
***Светла, как день, ты улыбнешься мне:***
***Рожден для милой Ляхии тобою,***
***Весь мир прошел я в буре и огне,***
***Но Ляхия была моей судьбою.***
***Какие бы ни встретил я ветра,***
***О, Ляхия, клянусь твоим вершинам:***
***Везде мой светоч — Лысая Гора,***
***Я был, я есмь, я буду ляшским сыном!***

Чым далей чытаў “Песнь” — тым мацней яна захоплівала мяне і брала ў палон высокім патрыятычным пафасам, нязвыкла інтымным сыноўскім пачуццём-настроем, шчырасцю лірычнай інтанацыі, важкай напорыстай ступою рытму.

***Я разбужу героя — близок срок!***
***Пусть изгнан я на муку без исхода,***
***Пусть вышвырнул разбойничий сапог***
***Живую совесть ляшского народа, —***
***Но, беженец, я пламень мой пронес,***
***Пусть вытянул я жребий страстотерпца,***
***Пусть голод грыз и жег меня мороз, —***
***Я Ляхию таил в святыне сердца.***

Уразіла і кампазіцыя паэмы: такім лагічна і эмацыянальна апраўданым варыянтным паўтарэннем першых строф у канцы твора, і самых першых радкоў — з тым жа пранізліва балючым пытаннем:

***О чьих могилах вспомню я в печали,***
***Когда вернусь на холм надгробный твой?***

Кніжачка тая, той бацькаў падарунак, пазней, калі я паехаў на вучобу ў Мінск, прапала — відаць, “зачыталі” браты-сёстры і аднавяскоўцы, як прапалі і вялізны аднатомнік Пушкіна, і першае “Избранное” Твардоўскага (1947), аб чым моцна шкадую да гэтага часу.

Але не прапалі, не зніклі запалыя ў душу і сэрца радкі. Колькі разоў — безліч! — я паўтараў іх на самоце і дома, і ў полі, і ў лесе, колькі разоў я пачынаў і канчаў імі свой дзень!

***Весь мир прошел я в буре и огне,***
***Но Ляхия была моей судьбою!..***

Летам 1954-га мне пашанцавала: зусім выпадкова ў Мінскім букіністычным магазіне я ўбачыў зборнік вершаў гэтага ж паэта “Стихотворения”, выдадзены ў 1946 годзе. Перакладчыкі былі пералічаны на першай старонцы: Асееў, Інбер, Казін, Лугаўской, Маршак, Абрадовіч, Пастэрнак, Святлоў, Сельвінскі, Ціханаў, Цвятаева... Адны знакамітасці! Ужо гэта пра многае сведчыла. За два з палавінай рублі (кошт студэнцкага абеду на фабрыцы-кухні, дзе мы звычайна палуднавалі) я набыў гэты томік і першнаперш пачаў шукаць любімыя радкі. На вялікі жаль, паэмы “Песнь о Матери” ў зборніку не аказалася, чым я быў нямала засмучаны. Праўда, блізкіх да яе па настроі і гучанні вершаў у кнізе знайшоў шмат:

***Но сердце разрывает крик печальный:***
***Что вечность мне без родины любимой?***

Паэта, які на ўсё жыццё прыяднаў маё сэрца да лёсу ляшскага краю, звалі Ондра Лысагорскі. Але гэта псеўданім. Ондра — ад імені нацыянальнага ляшскага героя Ондраша, які змагаўся з нямецкімі баронамі за незалежнасць, а для прозвішча ён узяў назву роднай Лысай Гары. Сапраўднае ж імя і прозвішча паэта — Эрвін Гой.

У гады другой сусветнай вайны Ондра Лысагорскі жыў нейкі час у Ташкенце, удзельнічаў у рабоце Усеславянскага антыфашысцкага камітэта ў Маскве. Зусім верагодна, што ў тыя дні мог пазнаёміцца і з Янкам Купалам і з Якубам Коласам.

У трохтомнай “Антологии чешской поэзии XIX—XX стст.”, выдадзенай у Маскве ў 1959 годзе, Ондры Лысагорскага няма. Можа, таму, што пісаў па-ляшску?

*2000*

### У БРАЦКІМ САЮЗЕ РОЎНЫХ

Гадоў пятнаццаць назад адзін вядомы расійскі паэт пахваліўся, што пабываў амаль у ста замежных краінах. У многіх — па шмат разоў: па дваццаць, па трыццаць і нават па пяцьдзесят. А не меншага таленту беларускі паэт Аляксей Васільевіч Пысін, які жыў і працаваў у гэтыя ж гады, так і памёр, не пабываўшы нідзе за мяжой ні разу. Ні ў адной краіне. Прашу прабачэння, аднойчы пабываў і ён. У Германіі. У 1945-м. Куды дапоўз на жываце, з тэлефонным апаратам і цяжэзнай наматанай шпуляй — як сувязіст, з трохлінейнай вінтоўкай — як радавы стралковага батальёна. Расійскага паэта ведаюць у свеце нават і там, дзе ён не паспеў памітусіцца і пападымаць келіхі віна за дружбу народаў, а немітуслівага паэта з вялікай літары Аляксея Пысіна не ведаюць нідзе. А яго талент, паўтараю, не меншы.

***Забыта многае ў жыцці,***
***З дарогі змецена і змыта.***
***Мне ў жыта хочацца ўвайсці,***
***Мне вечнасцю здаецца жыта.***

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

***Я гляджу на даўняе курганне,***
***На траву, на рыжых мурашоў.***
***Ведайце: калі мяне не стане —***
***Я ў сваю дывізію пайшоў.***

У гэнага маскоўскага, усюдыісна прапісанага, такіх вось балюча пранізлівых вершаў няма. Ёсць іншыя, таленавітыя бясспрэчна, кідкія, экстравагантныя. А такіх няма. Такіх — каб сэрца сціскалася ад болю. І вось — гэны пабываў у ста краінах, і па шмат-шмат разоў у некаторых, і, вядома ж, у асноўным — за кошт СП СССР, г. зн. за кошт вялікай дружбы народаў і літаратур. А Аляксея Васільевіча Пысіна ні ў адну краіну ні разу Масква не паслала. А чаму? А таму, што — беларускі паэт, а з беларусамі можна не лічыцца. Памяркоўныя, рахманыя, ціхія — сцерпяць.

*1995*

### І САМІ СТАРАЛІСЯ, САМІ!..

Перабіраючы залежы старых папер у сваім хатнім архіве, наткнуўся на пажоўклыя аркушы з машынапіснымі тэкстамі вершаў. Паглядзеў — дык гэта ж Купала! Яго знакамітыя дакастрычніцкія шэдэўры: “Гэй, капайце, далакопы!”, “Прарок”, “Роднае слова”, “Тутэйшы”, “Як цені”, “Годзе”, “Сярод раз'юшаных сатрапаў”, “Казка аб песні”, “Свайму народу” і іншыя. А чаго яны тут? Не адразу і ўспомніў. А праз колькі секунд: “А-а-а!.. Дык гэта ж тыя, што N.N. выкінуў з купалаўскага зборніка. Я думаў, што яны згубіліся недзе, а яны вось. Ну так, тыя самыя, нават каля кожнага загалоўка — знаёмая аўтарам рэдактарская рысачка, знак “мінус”, г. зн. “Не! Не пайдзёць!”, — у адрозненне ад знака “плюс”, ці крыжыка, што значыць “пойдзе, гадзіцца”.

І я ўспомніў. Дзесьці ў самым пачатку 1966-га ў выдавецтве “Беларусь” (сённяшняя “Мастацкая літаратура”) мяне папрасілі скласці зборнік “Выбранай лірыкі” Янкі Купалы і напісаць да яго прадмову. Зборнік, сказалі, мае выйсці ў наступным 1967 годзе — да 85-годдзя з дня нараджэння народнага паэта. Згадзіўся я, амаль не раздумваючы, бо даўно жыло ўва мне жаданне — падрыхтаваць “свой” анталагічны зборнік лепшых твораў Купалы або Багдановіча. Ведаў, як пашырана такая практыка ў Балгарыі — менавіта паэт, а не бог ведае хто, складае “Выбранае” другога паэта, нават — жывы жывога.

Сказана — зроблена. У жніўні рукапіс зборніка, разам з прадмоваю, быў пакладзены мною рэдактару на стол. Выданне юбілейнае, “палепшанае”, ілюстраванае, праходзіла “зялёнай вуліцай” — і я не здзівіўся, калі месяцы праз тры мне пазванілі з выдавецтва: прыйшла карэктура купалаўскага зборніка, трэба вычытаць прадмову. Паехаў, усеўся за стол, прачытаў набор прадмовы, а затым стаў гартаць карэктурныя лісты ўсяго зборніка. І раптам адчуў, як непрыемна няроўна захадзіла ў грудзях. Што такое? Адкуль гэта “Абвілася краіна”, гэта “На нашым полі”, гэта “Нашаму святу”, гэта “Сонцу”, гэты “Паклон мой народу за песні”... Адкуль усё гэта тут? Нічога такога з Купалы я не ўстаўляў у зборнік!.. Паглядзеў на рэдактара — пісьменніка-белетрыста, чалавека, як мне заўсёды здавалася, досыць дэмакратычных перакананняў. “А што гэта тут... не разумею? Нешта новае, чаго ў маім саставе не было...” — “Гэта я забыўся сказаць табе... У цябе атрымаўся вялікі перакос у дакастрычніцкі перыяд. Давялося сёе-тое апусціць, а з вершаў 30-х гадоў сёе-тое дадаць”, — патлумачыў рэдактар. Затым злазіў у прыскрынак, папоркаўся ў ім і падаў мне стос лістоў: “Вось гэта тое, што адпала, вяртаю табе іх назад...”

Узяў я тыя аркушы, пагартаў — Божа праміліў! Самыя моцныя, самыя выдатныя купалаўскія вершы “вылецелі”! З увагі на тое, што сталінская пара з яжоўшчынай і берыеўшчынай даўно адышла ў нябыт, я выбраў іх з выдадзенага ў 1922 годзе тома “Спадчына”, падоранага мне Рыгорам Семашкевічам. І вось — іх выкінулі. Перагортваю зноў, моўчкі чытаю паасобныя радкі і строфы.

***Паўстаньце, рабскія натуры,***
***Пакіньце свой адвечны сон,***
***Загаманіце віхрам, бурай,***
***Каб ажна дрогнуў ваш палон!***

***Назло крывавым перашкодам***
***Скідайце ёрмы, клічце сход,***
***І дайце знаць другім народам,***
***Які вы сільны йшчэ народ!***

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

***Паўстань, Народ! Прачніся, Беларусе!***
***Зірні на Бацькаўшчыну, на сябе!***

***Сваю магутнасць пакажы ты свету —***
***Свой край, сябе ў пашане мець прымусь.***
***Паўстань, Народ!.. З крыві і слёз кліч гэты...***
***Цябе чакае Маці-Беларусь!***

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

***Годзе нам есці аб'едкі і косці,***
***Злыбядзе ўсякай паклоны дарыць!***
***Гаспадары мы ў сябе, а не госці,***
***Час к панаванню нам след цэрабіць!***

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

***Сярод раз'юшаных сатрапаў,***
***Паганы зладзіўшы хаўрус,***
***Свае таргуюць і чужыя***
***Табой, няшчасны беларус.***

“І хто ж, пытаю, зрабіў гэтыя выкіды-ўстаўкі?” — “Якое мае значэнне — хто. Ты

ПЕРАКЛАДЫ

*Станіслаў Ежы ЛЕЦ нарадзіўся 6 сакавіка 1909 года ў Львове. Бацька Леца памёр, калі сын быў яшчэ дзіцём, маці прыклала шмат намаганняў, каб сын атрымаў неабходную адукацыю.*

*У канцы 20-х гадоў, калі быў студэнтам Львоўскага універсітэта Яна Казімежа, пачынае займацца літаратурнай творчасцю. Гарсэт, інакш кажучы, форму для сваіх паэтычных практыкаванняў Лец выбірае традыцыйны, але амаль забыты, польскую фрашку (ад польскага fraszka — дробязь, пусцяковіна) — разнавіднасць мініяцюры-эпіграмы. Лец супрацоўнічае са шматлікімі літаратурна-мастацкімі выданнямі, выпускае некалькі паэтычных зборнікаў, арганізуе літаратурнае кабарэ "Tetr Kretaczy" ("Тэатр перасмешнікаў") і, з'яўляючыся прадстаўніком левай творчай інтэлігенцыі, зусім беспасяхова спрабуе данесці да ўладаў сваю грамадзянскую пазіцыю.*

*Яго не зразумелі і не пачулі, хаця сваім лёсам ён даказаў (зрэшты, як і яго шматлікія папярэднікі і сучаснікі), што літаратура ў значна большай ступені звязана з палітыкай, чым звычайна лічаць.*

*Пра гэты час ён больш чым сціпла гаворыць у сваёй аўтабіяграфіі: "Пару акупацыі я пражыў ва ўсіх тых формах, якія дапускаў той час. 1939—1941 гады правёў у Львове, 1941—1943 гады — у канцлагеры пад Цярнопалем. У 1943 годзе, у ліпені, ад расстрэлу ўцёк у Варшаву, дзе канспіратыўна працаваў рэдактарам ваенных газет Гвардыі Людовай і Арміі Людовай... Потым пайшоў да партызанаў, якія змагаліся ў Люблінскім ваяводстве, пасля чаго ваяваў у шэрагах рэгулярнай арміі".*

*За ўдзел у вайне Станіслаў Ежы Лец атрымаў Кавалерскі Крыж ордэна "Polonia Restituta". У 1946 годзе новай "бяскласавай" уладай Лец быў накіраваны на дыпламатычную работу ў Вену ў якасці аташэ па пытаннях культуры місіі Польскай Рэспублікі. Праз чатыры гады ён ад'язджае ў Ізраіль, але ў 1952 годзе вяртаецца на радзіму, дзе яго чакаюць некалькі гадоў забыцця і замоўчвання. У 1957 годзе, у час адноснага пацяплення, выходзіць галоўная кніга паэта — "Непрычэсаныя думкі" ("Mysli nieuczesane") — зборнік дакладных філасофскіх афарызмаў, што прынеслі Станіславу Ежы Лецу сусветную вядомасць.*

*Памёр 7 мая 1966 года.*

Станіслаў Ежы ЛЕЦ

# З "Непрычэсаных думак"

Разбураючы помнікі, беражыце п'едэсталы. Яны заўсёды могуць спатрэбіцца.

Уваскрэснуць могуць адны трупы. Жывым цяжэй.

Памятайце, што калі д'ябал хоча каго-небудзь стукнуць, то ён не зробіць гэтага ніколі сваім капытом, але чалавечай нагой.

Ні на адным гадзінніку не знойдзеш стрэлак, якія паказваюць шлях у жыцці.

Усё ў руках чалавека. Таму іх трэба часта мыць.

Не кожны залп абвяшчае рэвалюцыю.

Снілася мне рэчаіснасць. З якой палёгкай я прачнуўся.

Аддаю перавагу надпісу "Уваход забаронены", чым "Выхаду няма".

Заўсёды знойдуцца эскімосы, якія выдумаюць для якога-небудзь Бельгійскага Конга парады па захаванні гарачага клімату.

Першай умовай бессмяротнасці з'яўляецца смерць.

Канстытуцыя дзяржавы павінна быць такой, каб яна не парушала канстытуцыі грамадзяніна.

Глыбокая думка... Да яе неабходна ўзняцца.

Калі не маеш пазваночніка, не вылазь са скуры.

Нават на троне працікаюцца штаны.

Балота часам стварае ілюзію глыбіні.

Нельга сыграць "Песні свабоды" на інструменце насілля.

Бывае, што кручок глынаюць разам з рыбаком.

Неабходна так памножыць колькасць думак, каб для іх не хапіла наглядчыкаў.

Прыгожая хлусня? Увага! Гэта ўжо творчасць.

XI запаведзь: "Не чужаслоў!"

Вертыкаль з гарызанталлю ўтвараюць крыж.

Нялёгка жыць пасля смерці. Часам на гэта патрэбна патраціць усё жыццё.

Нават у яго маўчанні былі моўныя памылкі.

Ніколі не адчыняй дзверы тым, хто іх адчыніць і без твайго дазволу.

Не сячы сук, на якім сядзіш... хіба толькі цябе захочуць на ім павесіць.

І мазахісты прызнаюцца ва ўсім на катаванні. Каб падзякаваць.

У каго добрая памяць, таму лягчэй пра многае забыцца.

Літара закона павінна быць уключана ў алфавіт.

Звон, які б'е трывогу, павінен мець адважнае сэрца.

Мы былі падзелены багамі. Але як яны былі падзелены намі?

Марыянетак лягчэй за ўсё замяніць на шыбенікаў. Вяроўкі пры іх.

Кожны век мае сваё сярэдневякоўе.

Спачатку было слова, а ў канцы — фразы.

Жыць — даволі шкодна. Хто жыве, той памірае.

Не кліч ноччу на дапамогу. Чаго добрага разбудзіш суседзяў.

Глупства не вызваляе ад думак.

Аптымізм і песімізм адрозніваюцца выключна па даце канца свету.

Падумаць толькі, на тым самым агні, што ўкраў Праметэй у багоў, спалілі Джардана Бруна.

Няўжо калі людзей есць відэльцам і лыжкай, гэта прагрэс?

Ніхто не гаворыць пра смак дражджэй у цесце, якое якраз дзякуючы гэтым дражджам паднялося.

Заўсёды існуе яшчэ найвастрэйшая тупасць.

Праўдзе цяжэй за ўсё ў часы, калі ўсё можа быць праўдай.

І слова можа быць затканым.

Мы па-ранейшаму з'яўляемся ўстойлівым грамадствам — з перавагай нецвярозага стану.

Можна перайсці на пазіцыі ворага, застаючыся на ўласных.

Можна змяніць веру, не мяняючы Бога. І наадварот.

І празрыстыя мэты кідаюць на сябе цень.

Трагедыя R. у тым, што ён любіць сябе, а сабой быць не можа.

Раны зацягваюцца, аднак рубцы растуць разам з намі.

Часам трэба памаўчаць, каб быць пачутым.

Твар ворага выклікае ў мяне жах тады, калі ён падобны да майго.

На шыі жырафа блыха пачынае верыць у бессмяротнасць.

Не ствараймо багоў, падобных да сябе.

Будзьце ўважлівымі, каб не трапіць пад чыё-небудзь кола шчасця.

Не пасылайце дальтонікаў у завоблачныя вышыні. Могуць вярнуцца ні з чым.

Ідэалісты прагнуць матэрыялізацыі духаў.

Учыніў злачынства: забіў чалавека! У сабе.

Чым большую фантазію мае чалавек, тым больш нікчэмным сябе адчувае.

Тое, што памёр, яшчэ не азначае, што жыў.

Перспектыва — рэч салодкая: убачыць сваіх ворагаў такімі маленькімі.

Калі хочаш схаваць твар — распраніся.

Не хадзі пратаптанымі шляхамі — паслізнешся.

Часцей за ўсё выхад там, дзе быў уваход.

Больш за ўсё формаў мае абстракцыя.

Неабходна мець многа цярпення, каб яму навучыцца.

Хаваўся за языком, які паказваў свету.

Памятайце: пазіцыю заўсёды мае толькі паляўнічы, дзічына — ніколі.

Я заўсёды баяўся незаражаных карабінаў. Імі разбіваюць галовы.

**Пераклад Аляксандра КРЫВАНОСА**

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

**ЭКРАН**

**Беларускае тэлебачанне**

У аўторак у праграме "Хакейная ліга" вядучыя прасілі грошай у прадпрыемстваў і фірмаў на арганізацыю трансляцый гульняў нашай зборнай на стартуючым 29 красавіка ў Санкт-Пецярбургу чэмпіянаце свету па хакеі. Маўляў, у БТ на гэта грошай няма. А яшчэ збіраемся БТ-2 адкрываць!

*20 красавіка, чацвер, 22.00*— спектакль "Караль" паводле С. Мрожака (Мінскі абласны тэатр).

*21 красавіка, пятніца, 15.35* — "Медзь — спеўны метал", тэленарыс пра бабруйскага чаканшчыка Ігара Сікіранава.

*22 субота, 9.10*— "Кніга-збор" знаёміць з нядаўна выдадзенымі кнігамі: Серафім Андраюк раскажа пра "Запаветнае" (выбраныя творы) Янкі Брыля; пра зборнік па гісторыі Беларусі ў легендах і паданнях "Белая Русь" распавядуць рэдактар кнігі Яўген Хвалей і дырэктар выдавецтва "Юнацтва", дзе яна выйшла, Алесь Камароўскі.

*23 красавіка, нядзеля, 11.50* — "Беларускі дом" з наступнымі сюжэтамі: да 60-годдзя Алеся Марачкіна — гутарка з ім і расповед пра ягоную выставу ў Чырвоным касцёле; свята "Гуканне вясны" ў Музеі беларускага дойлідства і побыту, які месціцца пад небам ў Строчыцах, што пад Мінскам (за аўтарынкам); нарыс пра нядаўна памерлую салістку балета, балетмайстра Дзяржаўнага музычнага тэатра Галіну Шылянкову.

**Пасольства Францыі і "Кінаклуб"**

праводзяць кінаакцыю "Жыццё, мастацтва, лёс", у рамках якой у ДК ветэранаў паказваюць французскую дакументалістыку 90-ых гадоў.

*17 красавіка* — "Чаго б тое ні каштавала" (1995) рэж. Клера Сімона — пра некалькі месяцаў існавання невялікага кулінарнага прадпрыемства, якое імкнецца захаваць сваю справу ва ўмовах эканамічнай вайны.

*18 красавіка* — "Калона" (1995) рэж. Патрыса Шанара пра тое, як тры грузавікі, тры кіроўцы праз усю Еўропу, Расію і Каўказ вязуць гуманітарную дапамогу ў Арменію, у Нагорны Карабах.

**Кінатэатр "Змена"**

*17 красавіка — у 19.00* тут пройдзе кінавечарына памяці Міколы Ермаловіча, у якой возьмуць удзел гісторык А. Грыцкевіч, брат нябожчыка, рэжысёр В. Ермаловіч, пісьменнікі Г. Далідовіч, М. Скобла, С. Панізнік, літаратуразнаўца В. Чамярыцкі, мастак А. Марачкін. Будзе паказана стужка студыі "Летапіс" "Браты Ермаловічы" (стваральнікі У. Кавалёў і У. Мароз). Яшчэ можна будзе набыць кніжку "Кліч роднага звона" Г. Далідовіча, прысвечаную М. Ермаловічу.

**КАНЦЭРТЫ**

*14—23 красавіка* — кожны дзень у Пінску, Брэсце, Баранавічах, Гомелі, Мазыры, Віцебску, Наваполацку, Паставах, Гродне і напрыканцы ў Лідзе канцэрты "Лепрыконсаў".

*5 траўня* — у Палацы Рэспублікі будзе граць этнагурт "Тройца".

**ВЕЧАРЫНЫ**

*14 красавіка, сёння — а 19.00* у тэатры "Зніч", што месціцца ў Чырвоным касцёле, адбудзецца творчая вечарына Рыгора Барадуліна "Зорка спагады". Вершы паэта прагучаць у выкананні барда Алеся Камоцкага і акцёра Вячаслава Галузы.

**Вядучы "Суфлёра" Кірыла ПАЗНЯК**

## У Доме літаратара

**14 красавіка** ў Доме літаратара адбудзецца вечарына, прысвечаная 80-годдзю Аляксея Карпюка.

У ёй прымуць удзел вядомыя беларускія пісьменнікі, навукоўцы.

У праграме выступленні акцёраў, фальклорнага ансамбля.

*Пачатак а 18-й гадзіне. Вялікая зала. Уваход свабодны.*

●

**19 красавіка** ў Доме літаратара пройдзе "круглы стол" на тэму "Жывы дыялог і сучасныя тэндэнцыі ў маладой беларускай і латышскай паэзіі". У дыскусіі возьмуць удзел навукоўцы і літаратары, а таксама паэты з Латвіі — Мартс Пуятс, Яныс Індэнс, Карлыс Вэрдыньш, Ёланда Сыланжэ, Пэтэрыс Драгунс, Ірбэ Прэйлэ.

## Запрашаем!

У суботу, **15 красавіка** спаўняецца 40 дзён з дня смерці пісьменніка і гісторыка Міколы Ермаловіча. З гэтай нагоды ў праваслаўнай Свята-Мікалаеўскай царкве пасёлка Ратамка адбудзецца памінальнае набажэнства. *Пачатак службы а 9-й гадзіне.*



## Навуковыя чытанні

**20—21 красавіка** ў Беларускай акадэміі музыкі адбудуцца IX навуковыя чытанні памяці Л. С. Мухарынскай. На канферэнцыі плануецца асвятленне шырокага кола праблем, якія тычацца сучасных даследаванняў у вобласці нацыянальнага фальклору, беларускай і замежнай музычнай культуры XVIII—XX стст. З дакладамі выступяць выкладчыкі, аспіранты і студэнты БАМ, прадстаўнікі музычных вучэльняў і Дзяржаўнага універсітэта Беларусі.


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Павел ВЕРАБ'ЁЎ — *намеснік галоўнага рэдактара,*
Алесь ГАЎРОН — *адказны сакратар,*
Мікола ГІЛЬ,
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,
Віктар ШНІП — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**

прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985

**АДДЗЕЛЫ:**

публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8[illegible]
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фота-карэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3318
Нумар падпісаны ў друк 13.04.2000 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 1881

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12